

«Дзянніца» гукае вясну

А Ганусячку ў святліча... у-у-у!
У святлічаньку,
Даў коніку сена й аў... у-у-у!
Сена й аўса,
А Ганусячцы піва і ві... у-у-у!
Піва і віна,
Цяпер жа ты навек мая... у-у-у!

Часам на Гуканні вясны пры вогнішчы спявалі гукальныя вяснянкі і вадзілі карагоды, як на Купалле, скакалі праз агонь. Гэтае вогнішча сімвалізавала канец зімы і ачышчэнне зямлі. К. Кабашнікаў запісаў у в. Палессе Чачэрскага раёна такі тэатралізаваны элемент Гукання вясны на Звеставанне: "звязваюць плот", на яго кладуць старое кола, запальваюць, пускаюць па рэчцы і ідуць з песнямі-вяснянкамі ў край сяла, да моста, потым сустракаюцца з другім сялом, вуліцай, святкуюць. Запаленае кола тут магічна вызывала разгаранне сонца.

Спевы вяснянак і ваджэнне карагодаў на Гуканні вясны суправаджаліся яшчэ і падкідваннем уверх печыва ў выглядзе птушачак. Як і песеннае гуканне,

яно павінна было вызваць першых вестуноў вясны — жаваранкаў, кулікоў. Цікава апісваў гэты момант Г. Цітовіч у каментарыі да лепшай з такіх песень "Жавароначкі, прыляціце" — "адной з тых, якімі беларускія дзяўчаты клікалі жаданую вясну. У час выканання песні яны падкідвалі ўгару выпечаных з цеста жаўрукоў, а мужчыны акампанавалі гэтаму магічнаму абраду на берасцяных трубах" (у в. Ланскай Маларыцкага раёна).

Акрамя магічнага падкідвання ўверх, ёсць шмат іншых дзеянняў печанымі выявамі птушак. З імі наладжвалі гульні ў садах, агародах, клалі на галовы і бегалі па вуліцах, прывязвалі да галінак і імітавалі іх прыгатаванне, садзілі на стрэхі, стагі, а потым збіваннем вызывалі іх прылёт, елі, кідалі ў раку, хавалі ў салому, а потым са спевамі звалі іх адтуль і т. п.

На Міншчыне зафіксаваны абход хат са спевамі, гуканнем вясны і заскокваннем-затанцоўваннем яе. Гурт моладзі ішоў у канец вёскі і па чарзе ля кожнага двара вадзіў карагод "Дзе карагод ходзіць, там жыта родзіць". Потым ішло гушканне на арэлях: на адных пачыналі вяснянку, а на другіх падхоплівалі і перадавалі наступным. Пры гэтым найчасцей спяваліся вяснянкі:

Вол бушуе — весну чуе,
Г-е-е-е, весну чуе.
Не бушуй, воле, бо пайдзеш у поле,
Г-е-е-е, бо пайдзеш у поле.
Дзеўка плача — замуж хоча,
Г-е-е-е, замуж хоча.
Не бушуй, воле, яшчэ нагарэшся,
Г-е-е-е, яшчэ нагарэшся.
Не плач, дзеўка, шчэ нажывешся,
Г-е-е-е, шчэ нажывешся.

* * *

— Вясна красна, вясна красна,
Да што ж ты нам прынесла?
— Шаўковую траву на вясну,
Буйнае жыта на лета.
Малым дзеткам па яечку.
Старым дзедкам па кіёчку.
Маладым малодкам па бёрдзечку.

Дзе малыя дзеткі гуляюць,
Там яечкі качаюць.

Дзе старыя дзяды стаялі,
Там кіямі зямлю скарпалі.

Песні-гуканні вясны з'яўляюцца найбольш прыгожай, але выключна складанай для выканання ў натуральным выглядзе з'явай. Дасканала пераняць іх можна з вуснаў маці — з-за іх складанай музычнай пабудовы. Таму найлепшы сродак іх засваення — ад носьбітаў гэтай песеннай традыцыі, а пры немагчымасці — з непасрэдных запісаў знаўцаў традыцыі гукання на плытках, магнітных і відэастужках (лепш за ўсё з апошніх).

Сакральнай часткай пачатку абраду з'яўляецца зварот за дазволам гукаць вясну:

Ці дазволіце, старыя людзі,
Благаславіце, старыя дзяды,
Нам вясну красну выгукаці,
Студзёную зіму ў каморачку,
А цёплае лета на вулачку.

Пазней зварот гучыць як "Благаславі, маці (Божа, прачыстая)", але хрысціянізаваны зварот не мяняе ўнутранага зместу гукання. Адмыканне вясны — гэта не толькі сімвалічнае дзеянне, а і магія вызывання вясны. Часам яно даручаецца ў песнях, акрамя "сівых серых гусачак, жавароначкаў", пчолачкам:

Ты, пчолачка ярая, ты вылець з-за мора,
Ой, Лало, Лало, ты вылець з-за мора.
Ты вынесь ключыкі, ключы залатыя,
Ой, Лало, Лало, ключы залатыя.

Антрапаморфная выява вясны і веснавога росквіту прыроды прыгожа прадстаўлена ў наступных вяснянках:

Едзе, едзе, вясна на залатым коні,
Ў зялёным саяне, на сасе седзячы,
Сыру зямлю аручы, а смыком скародзячы.
Вязе, вязе вясна, вязе, вязе красна
Ясныя дзянёчкі, частыя дажджочкі,
Зялёныя травы, красныя цвяточкі.

* * *

Красныя цвяточкі нам на вяночкі.
Звеставаннейка святое,
Пашлі сонейка залатое.
Каб зямелька адышла
Ды вясна да нас прыйшла.

Каб распусціліся ветачкі,
Каб раскраснеліся кветачкі,
Каб лугі зазелянеліся,
Нашы нівачкі адзеліся.

"У-у-у-у!" у канцы вяснянкі часам магло гучаць і як "Гу", "Нгу!", "Ге!", "Йу". Найбольш часта фоніка гукання афармляецца доўгім працяглым "у-у-у-у!". Ён фантастычна адбіваецца рэхам у лесе, ад берагоў рэк, горак. У часы больш развітой спеўнай культуры ён пачаў падхопліваецца групамі спевакоў ад горкі да горкі, ад вогнішча да вогнішча, ад аднаго канца вёскі, вуліцы да другога, ад прызбы да прызбы, ад лаўкі да лаўкі.

З "у-у-у-у-у!" радок мог пачынацца, ім заканчвацца і перарывацца, таму ў гукальных песнях ён хутчэй не песенны, а эмацыянальна-рэчытатыўны. Гэта воклiч-прызыў, усплеск радасці, таму што прыходзіць вясна. Там, дзе ёсць гуканне вясны, не гавораць "вясну спяваць", а гавораць — "вясну гукаць". Стыль гэтых песень вызначаюць загадны лад дзеяслова (прыляціце, прыйдзі); лірызм, пытальная інтанацыя, клічнікі, часціцы, гіпербала, метафара, ласкавыя звароты ў памяншальна-ласкальнай форме і шматлікія іншыя прыёмы эмацыянальна-экспрэсіўнай лексікі.

### Літаратура

*Барташэвіч Г. А.* Беларуская паэзія веснавога цыкла і славянская фальклорная традыцыя. Мн., 1985.

Беларускі фальклор у сучасных запісах. Традыцыйныя жанры. Гомельская вобл. Мн., 1989.

*Богданович А. Е.* Пережитки древнего миросозерцания у белорусов. Гродно. 1985.

Веснавыя песні. Мн., 1980.

*Пятроўская Г. А.* Жывая спадчына. Мн., 1988.

*Шейн П. В.* Белорусские народные песни с относящимися к ним обрядами, обычаями, суевериями. Спб., 1874.



# САРАКІ

Прысвятак Саракі 22 сакавіка адзначае дзень веснавога раўнадзенства. Ужо канчаткова прыходзіць вясна.

Вось як апісваюцца некаторыя моманты гэтага святкавання ў апошняй чвэрці XIX ст.

...У гэты дзень дзяўчаты звычайна пякуць з цеста своеасаблівыя піражкі, якія называюць "галёпы". Кожная дзяўчына пазначвае свой. Галёпы гэтыя кладуцца ў рад і прызначаюцца на з'яданне сабаку: чыя галёпа будзе з'едзена першай, тая дзяўчына хутчэй выйдзе замуж. Пры гэтым дзяўчаты прыгаворваюць:

Вее, вее вясенні вецярок,
Прыйдзі, мой міленькі,
Дам табе піражок.
З мёдам сычаным,
З ласкаю дзявочаю.

У гэты дзень выганяюць зіму на цэлы год, а іменна: робяць са снегу бабу, потым разбіваюць яе на часткі з патрабаваннем, "каб зіма на дзевяць месяцаў ад нас пайшла", і ў доказ таго, што зіма ўжо як бы прагнана імі, бяруць старыя гаршкі, ідуць да сваіх знаёмых і кідаюць гаршкі на парог, прыгаворваючы:

Гаспадынька, гаспадынька,
Кідай сваю пражу,
Зіма ўжо прагнана,

Адчыняй свае дзверы,
Заві нас у госці...

Гаспадыня павінна пачаставаць вестуноў вясны, якія прагналі зіму. Галёпы могуць мець і іншае значэнне: выпякаюць іх 40 — хрысціяне гэта звязваюць з сарака мучанікамі і напамінаннем пра Вялікі пост.

Калі хто першы ўбачыць бусла, той выходзіць яму насустрач са словамі: "Бацян, бацян! На табе галёпу, дай мне жыта капу". У гэтым бачна глыбокая павага да птушкі. Лічыцца, што яго кубло на хаце прыносіць шчасце, а выкінутае з яго яйка на Звеставанне (да свята ў кубле абавязкова з'яўляецца яйка бусла) прадказвае добры ўраджай. З гэтымі галёпамі рабілі і першае заворванне і зажынкі.

...На Саракі паілі жывёлу з палонкі, у якой спачатку мыўся сам гаспадар: "каб жывёла слухала гаспадара, набраўшыся яго розуму". Дзяўчаты адразалі валасы з хваста каровы і прыкладвалі іх да галавы з надзеяй, што каса вырасце даўжынёй з хвост каровы. Стукалі ў вулей, і калі пчала вылеціць з вулея, то будзе добрае лета. Кідалі саломай у сцяну хаты, і колькі саломінак стукнецца ў сцяну, столькі яек зняce курыца ў годзе. Наладжвалі арэлі, каб цэлы год весела жылося. Ставілі каля варот лапату, памяло і качаргу, каб ведзьма абавязкова ў гэту ноч пры дапамозе качаргі і памяла з'ехала на Лысую гару. Курам павязвалі прыгожыя стужкі, каб прыгожы жаніх здарыўся і г. д.

А вось якім праз стагоддзе (у 1993 г.) аўтар убачыў гэтае свята ў в. Валаўск Ельскага раёна. У ім раўнапраўна ўдзельнічалі дарослыя, пераважна жанчыны, і дзеці.

"Прыгожа, па-святочнаму ўбраныя жанчыны і дзеці сабраліся ля лясніцтва і пачалі ўспамінаць свята з прымаўкамі: "Вось і дачакаліся вясны красны: няхай настануць ясныя дзянёчкі, пойдуць цёплыя дажджочкі".

У гэты дзень прылятаюць сорак выраяў, таму трэба сорак пампушак (піражкоў) з'есці, сорак дошчачак, скачучы, трэба зламаці; скакалі цераз плот і ўгору, дзеткі і моладзь з птушачкамі бегалі па вёсцы. З гуканнем дзеці спявалі:



Жаваронаčкі, прыляціце!

А ўжо ж вясна красна
Да з стрэх вада капле.
А ўжо ж табе, хлапчыначка,
Вандрыванька пахне, вандрыванька пахне-у-у-у!
Вандруй, вандруй, хлапчыначка,
У чыстае поле, у чыстае поле-у-у-у!
А за ім жа дзяўчыначка
Дай сцежачку поле, дай сцежачку поле-у-у-у!
Сцежачку поле, сцежачку поле,
Вярніся, саколе-у-у-у!

Дзеці, звяртаючыся да старэйшых, прасілі:

— Блаславі, Божа, вясну загукаці,
Лецечка адмыкаці, а зіму замыкаці.
Дай, божа, на жытачка род,
На статачка плод,
А людзям на здароўе.

Потым жанчыны і дзеці вадзілі карагоды вакол дрэў у бярозавым гаі:

Пераймачочка, чорная галочка,
Ой рано-рано, чорная галочка.
Пераманіла сівага сакала,
Ой, рано-рано, сівага сакала.
Ой, а я ж яго да [redacted] не маніла,

Ой, рано, рано, да й не маніла,
Ды са мною не спаў, усю ноч шчабятаў,
Ой, рано-рано, усю ноч шчабятаў.
Толькі заснула, як яго не чула,
Ой, рано-рано, як яго не чула.

Далей старэйшыя жанчыны запелі "галубоў":

По-за садом, по-за гаем
Галубы лятаюць.
Непрыкметна, непрыкметна
Годы пралятаюць.
Ой, не знае, не ведае
Мой бацько старэнькі,
Як праходзяць, як праходзяць
Годы маладзенькі.
Запрагайце, хлопцы, коні,
Коні вараныя,
Дай паедзем даганяці
Годы маладыя.
Ой, дагнала ж свае годы
На каменным мосці,
Верніцеся, мае годы,
Да й да мяне ў госці.
Не вернемся, не вернемся—
Няма да каго,
Было годы шанаваці,
Як здароўя свайго.

Да Саракоў, па сведчанні жанчын, прымеркаваны папулярныя песні: жартоўная "Ці я не хазяйка, ці не гаспадыня" (пеўні ў падушках нясуцца, гаспадыня скубе варону на падушку); балада "Каліна-малінушка" (жанчына ператвараецца ў салавейку і спявае пад акенцам у бацькоўскай хаце, а маці пазнае яе).

Пасля гэтага ішла гульня-танец "У саду-садочку гуляў зайчык". Двое вілошнікаў (якімі вымаюць гаршкі з печкі) клалі накрыж, і ўдзельнікі спачатку на дзвюх, потым на адной назе пераскоквалі цераз вілошнікі пад песеньку:

А ў саду, садочку
Гуляў зайчык.
Ён сваімі ножкамі
Перайграйчык.
Што б я так, і ночкі мала,



«Дай паедзем даганяці годы маладыя...»

Што б я так пагуляла,
Як той зайчык,
Як той белы,
Як той шэры.

У Валаўску на Саракі заўсёды спявалі жартоўную вяснянку:

Ой, ты, Васіль, а я Ганна,*
Сватай мяне, бо я гарна,
Ой, Васілю, мой Васілю,
Сватай мяне ў нядзелю,

Рабіць дзела я не ўмею,
Ой, Васілю, мой Васілю.
Рабіць дзела я не ўмею,
Палю ў печы — плечы грэю,
Ой, Васілю, мой Васілю,
Плечы грэю, ногі пару.

Не злуй, Васіль, бо я ўдару,
Ой, Васілю мой, Васілю.

---

* Першы радок спяваецца двойчы.

Не злуй, Васіль, бо я ўдару,
Дай закоцішся пад лаву,
Ой, Васілю мой, Васілю.

Ой, калі б жа я даждала,
Каб Васіля пахавала,
Ой, Васілю мой, Васілю.

Ляжыць Васіль у бальніцы,
Я з Валодзею ў святліцы,
Ой, Валодзя мой, Валодзя.
Памёр Васіль, мой харошы,
Асталася торба грошай,
Ой, Валодзя мой, Валодзя.

Па базару я хадзіла,
Торбу грошай разнасіла,
Ой, Валодзя мой, Валодзя.
Устань, Васіль, мой харошы,
Няма ў доме болей грошай,
Ой, Васілю мой, Васілю.

У гэты дзень вадзілі карагоды на горцы:

Раскапаемо гору,
Да й раскопаем гору,
Дай пасеемо ружу.
Пасеемо ружу,
Да й пасеемо ружу,
Да й поставі сторожу.
Няверна сторожа,
Да й няверна сторожа,
Да й пашчыпана ружа.
Ветрык повівае,
Да й хмарка выступае.
Бацько дочку лае,
Да й бацько дочку лае,
Да й гуляць не пускае.

Старэйшыя жанчыны прыказкамі на працягу ўсяго свята дзяліліся з дзеткамі жыццёвай мудрасцю: "Вясну хваляць за сонца і дажджы, а лета — за стагі і вазы"; "Не прасі лета доўгага, а прасі лета цёплага"; "На святы Аўдакей (14 сакавіка) сей авёс для каней — як удасца, то й прадасца"; "На Саракі дзень з ноччу мераецца"; "На Саракі селянін пытаецца, ці далёка да ракі"; "Святыя Саракі — да не йдзі да

ракі"; "Святыя Саракі ў поле саху валаклі"; "Сей авёс у гразь — будзеш князь".

Потым гулялі "У садоўніка": завадатар шэптам на вуха прысвойваў кожнаму яе ўдзельніку назву кветкі і пачынаў прыгаворваць:

Я садоўнікам назваўся,
Не на жарт я раззлаваўся,
Мне ўсе кветкі надаелі,
Акрамя...

Далей ішла назва кветкі, на якую павінны хутка адазвацца воклічам "ой!". Яе пыталі: "Што з табой?" — "Улюблена!" — "У каго?" — "У ружу!". Хто быў названы "ружа", павінен быў неадкладна ойкнуць. За няўважлівасць завадатар забіраў прадметы, якія трэба было потым "выкупіць": заспяваць прыпеўкі, песню, паскакаць, моцна пазваць каханага: "Іван, любы!" і да т. п. Смех, жарты, вяселле ператваралі гэтую забаву ў імправізаванае прадстаўленне.

Зноў утвараўся карагод "Трава мая, трава, трава зяляная". Затым ламалі сорак дошак, якія клалі на тоўстыя кругляк і па двое скакалі да тых пор, пакуль не ламалі дошку.

Потым дзеткі на абрусе падкідвалі ўверх сорак жаваранкаў з печыва і тройчы спявалі:

Жавароначкі, прыляціце.
Зямлю-матухну абудзіце
І дожджыкам напаіце-у-у-у!

Дзеці славілі і з'ядалі гэтых жаваранкаў, а жанчыны спявалі:

— Ой, жураўко, жураўко*,
Чаго крычыш так жалко?

— Ой, як жа мне не крычаць,
Села маці вячэраць,

Засталася ложачка,
Асталася ложачка—
А дзе ж мая дочачка?
Адбілася ад роду,
Як той камень у ваду.

---

* Першы радок кожнага двухрадкоўя спяваецца двойчы.



Фальклорны калектыў «Жавароначкі» з Мінска

Упаў камень да й ляжыць,
На чужыне гора жыць.

Паміж песнямі жанчыны танцавалі "Ойру", "Карапета", "Польку", "Кракавяк". Свята звычайна завяршалася яшчэ адной веснавой песняй-баладай:

Наару я поля яравого,
Да й посею хмелю высокого.
Да й посею хмелю высокого,
Да й навару піва солодкого.
Да й навару піва солодкого,
Да й позову госця дарагога.
Па багату сястру коней пошлю,
А бедная сястра сама прыйдзе.
Багатая сястра на покуць сядзе,
А бедная сястра ў парозе стане.
Ідзе, ідзе братко ў камору:
— Уступі, сястрыца, мне дарогу.
— Ці я ў цябе, братко, не радзіна,
Ці я ў цябе справы не рабіла.
— Ой, рабіла справу да паўночы,
Памыкала дзетак на паўночы.

Па ўсёй Беларусі вядома павер'е, што на Саракі з цёплых краін на нашу старонку вылятае сорак вы-

раяў птушак. Таму печыву з птушак надавалі цудадзейную сілу. На Случчыне, напрыклад, іх называлі "патапцамі" і захоўвалі за абразамі разам з грамнічнымі свечкамі.

У Заходняй Беларусі лічылі: хто з дзяцей раней устане і прынясе дроў, той будзе мець поспех у адшукванні птушыных гнёздаў. Вядома тут і перакідванне босымі хлопчыкамі 40 трэсак праз страху. Пасля гэтага з імі тройчы аббягалі хату і кідалі трэскі ў акно. Вялікі поспех чакаў таго, хто першы ўбачыў вырай гусей ці жураўлёў.

На пачатку нашага стагоддзя зафіксавана дзіцячая гульня, калі на Саракі трункі з насякомымі парадыйна хавалі са словамі "жылі не сяляне, памерлі не радзіцелі" (як гэта нагадвае пахаванне дарослымі маланкі-стралы на Ушэсце).

На жаль, свята Саракоў забыта больш, чым іншае. Толькі намаганнямі настаўнікаў можна вярнуць яго і ўпрыгожыць наша жыццё яшчэ адным святам.

Свята Саракоў вельмі арганічна можа быць уключана ў выхаваўчую працу ў школе, таму што старажытнае "наіўна-дзіцячае" ўяўленне, што іменна птушачкі прыносяць вясну, вельмі блізкае эмацыянальнай дзіцячай псіхалогіі. Свята як бы вяртае дзяцей да адзінства з прыродай, выхоўвае непадробную любоў да яе.

### Літаратура

*Глушакова Г. П.* Саракі. Сцэнарыі свята//Пачатковая школа. 1993. № 3—4.

*Гомазава Г. П.* Беларускія фальклорна-традыцыйныя сятткаванні//Пралеска. 1993. № 1.



## КАМАЕДЗІЦА

З глыбокай старажытнасці прыйшло да нас свята пакланення мядзведзю, зафіксаванае ў апошняй чвэрці XIX ст. у паўночна-заходняй Беларусі. Татэмнае свята Камаедзіцы адзначаецца 6 красавіка, перад Звеставаннем.

Паняцце "татэм" увайшло ў нашу мову з лексікону амерыканскіх індзейцаў. Літаральна яно азначае "яго род", у даным выпадку маецца на ўвазе сукупнасць вераванняў, абрадаў, звычаяў, фальклорных твораў, у якіх чуюцца водгукі, заснаваныя на ўяўленні аб кроўнай роднасці людзей з жывёлай-продкам, ад якой, быццам, паходзяць людзі гэтага роду. Членам яго забаранялася забіваць татэмную жывёлу-продка і есці яе мяса, увогуле крыўдзіць. Да яе адносіліся як да найбольш паважанага члена роду, святой сакральнай асобы, абагаўлялі, уміласціўлівалі. У пралігурах беларусаў такой жывёлай быў "мядзведзюхна-бацюхна". Бязмежная павага да яго, сапраўды нейкага вельмі "чалавечнага" нават у знешнасці, нарадзіла ў людзей, яшчэ ў часы родавага ладу жыцця, цэлы комплекс уяўленняў, вераванняў, міфаў пра мядзведзя, якія пранізваюць амаль усе жанры беларускага фальклору і могуць стаць асновай для ўвасаблення ў мастацкай форме татэмнага веснавога свята Камаедзіцы.

Найбольш старажытнае міфалагічнае татэмнае ўяўленне гучыць у звязаных з вобразам мядзведзя казках, паданнях, легендах, як, напрыклад, у казцы "Мядзведзь — ліпавая нага".

"Жылі-былі дзед і баба. Пайшоў дзед у лес па

дровы і сустрэў мядзведзя. Кінуўся дзед уцякаць, аж чуе — мядзведзь даганяе, сапе за самай спінай. Трэба дзеду ратавацца, а схавацца няма куды, усюды мядзведзь дастане. Выхапіў дзед сякеру і на мядзведзя, адсек яму нагу, ледзь той сам уцёк. Узяў дзед мядзведжую лапу і прыносіць сваёй бабе: "Вось табе, старая, будзе што і зварыць, і спрасці".

Запаліла баба печ, зняла з лапы скуру, кінула мяса ў кацёл, сядзіць ля агню ды прадзе, ды песні пяе. А мядзведзь тым часам зрабіў сабе з ліпы нагу, прыкруціў лыкам ды пайшоў у вёску да дзеда. Падышоў пад вокны і пяе:

Рып-рып нага, рып-рып ліпавая,
Усе ў лесе спяць, усе ў вёсках спяць.
Адна баба не спіць, на маёй скуры сядзіць,
Маю воўну прадзе, маё мяса варыць.
Я не ў госці іду, я вам смерць нясу".

У адным са шматлікіх варыянтаў (відаць, найбольш старажытным) дзед і баба за татэмнае святатацтва ператвараюцца ў мядзведзяў.

А вось ужо больш позняя хрысціянізаваная легенда аб паходжанні мядзведзя.

"Калі Бог хадзіў па зямлі, захацелася аднаму чалавеку з жонкай, якія жылі вельмі бедна і крыўдзіліся, што Бог іх нічым не надзяляе, спужаць яго. І сталі думаць, як гэта зрабіць. Чалавек кажа на жонку: "Давай, калі Бог будзе ісці праз мост, выскачым з-пад яго і заравём, дык ён і спужаецца". Так і зрабілі. Тады Бог адказаў: "Калі вы так зараўлі, то будзеце цэлы век раўці". І абярнуў іх мядзведзямі. З таго часу і мядзведзі сталі".

Цікавае паданне і аб тым, што мядзведзь калісьці быў такім жа чалавекам, як і мы. Людзей тады яшчэ было мала і жылі яны ў лясах. Палявалі на звяроў і птушак, улетку збіралі грыбы і ягады, капалі карэнні і назапашвалі на зіму. Найбольш запасалі арэхаў і мёду, бо было багата пчол. Іх шукалі ў дуплах, і хто першы знаходзіў, то абвязваў тое дрэва вяроўкаю, і ўжо ніхто не меў права іх чапаць. Але жыў у той час адзін гультай несусветны. Ленаваўся ён сам шукаць пчол, дык выдзіраў чужыя. Растаўсцеў на чужым мёдзе, сам як калода зрабіўся. Цяжка яму стала лазіць на дрэвах па мёд. І пайшоў ён да чарадзея,

каб той дапамог — зрабіў яго лёгкім. Ідзе лесам, бачыць — ліпа абвязаная. Выдраў ён мёд, наеўся і пайшой далей. Ідзе — аж другая ліпа абвязаная з пчаліным дуплом. Выдраў ён мёд з гэтага дупла. Доўга ён так ішоў, нарэшце дайшоў да зямлянкі, дзе жыў чарадзей. Пастукаўся, але ніхто не адчыняе, відаць, няма гаспадара. Сеў ён чакаць, аж бачыць ліпу з дуплом. Давай драць мёд і ўплятаць за абедзве шчакі, а тут гаспадар ідзе. Зірнуў чарадзей і кажа: "Ну, за такую благую работу будзеш ты і твае дзеці з гэтай пары тое і рабіць, што драць пчол". І абярнуў чарадзей гэтага гультая ў мядзведзя.

На больш высокім эмацыянальна-мастацкім узроўні павага да "мядзведзюхны-бацюхны" гучыць амаль ва ўсіх разнавіднасцях песеннага календара беларусаў. Першапачатковымі тут былі, відаць, веснавыя валачобныя песні, дзе валхоўнікі, валачобнікі, вядомыя пазней як скамарохі, сталі вадзіць вучоных мядзведзяў. Гэта ператваралася ў чыстую забаву, якая нарадзіла знакамітую Смаргонскую мядзведжую акадэмію. У пятроўскія часы тэатралізаваныя мядзведжыя прадстаўленні арганічна ўвайшлі ў калядныя святочныя забавы і захоўваюцца да нашага часу, але цяпер гэта ўжо мядзведзі-маскі.

А вось якім чалавечным выглядае наш продак у запісанай Р. Р. Шырмам жніўнай песні:

Я пад борам жыта жала,
Пад мяжою дзіця клала,
Пад мяжою дзіця клала.
Мядзведзь з лесу выбягае:
— Памагай Бог, маладзічка!
Чаму плача тваё дзіцятачка?
— Мядзведзюхна, мой бацюхна,
Вазьмі яго на ручанькі,
Нясі яго ў дубраваньку,
Падой чорну карованьку,
Ой, чорную падласую,
Майго бацькі ўласную.
— Ой, рад бы я панесіці,
Ды баюся, каб не укусіці;
Ой, рад бы я з ім сесці,
Ды баюся, каб не з'есці;
Ой, рад бы я калыхаці,
Ды баюся, каб не удраці!



«Ой, мядзведзюхна, наш бацюхна!»

"Як мядзведзіцу багатую", вязуць маладую ў дом маладога ў час вяселля, а насустрач выходзіць у вывернутым кажусе свякроў. Вясельнікі ў гэты час спяваюць:

Выйшла маці ў аўчыне,
Хацела нявестку злякаці,
Нявестка не баіцца,
Сама за стол садзіцца.
За лесам у гаі мядзведзь рыкае,
Выйшла свякроўка — нявестку лякае:
— Ды я таму мядзведзю мядзіну кіну,
А сваёй свякроўцы пераб'ю спіну.
Да знаці, знаці, што чужая маці,
Вывернула кажушок да ідзе пужаці.
— Ды не пужай, мамка, я не баюся,
Калі вам не трэба, я назад вярнуся.

Прыгожай часткай свята ў гонар нашай сакральнай жывёлы могуць стаць шматлікія песні, не звязаныя з абрадам, у якім прысутнічае вобраз мядзведзя: "Мядзведзь кару дзярэць — Маруся ваду бярэць" (любоўная); "Хлопчык у калысцы як мядзведзь равець" (жартоўная); "Я з нямілым як мядзведзіца ў бярлозе праляжала" (сямейная).

Не злічыць паэтычных загадак, прыгожых выс-

лоўяў, прыказак, прымавак аб мядзведзю. Наступ-ныя, напрыклад, пабудаваныя на іроніі: "Не мае рацыі мядзведзь, што карову задраў, але не мае рацыі і карова, што ў лес зайшла". Неад'емны вобраз мядзведзя ў скоках, танцах і асабліва карагодах, дзе ён паказвае, як бабы цеста месяць, дзяўчаты скачуць, дзеці ў гарох падпаўзаюць, жнеі жнуць, поп у царкву ідзе.

Само каляндарнае свята Камаедзіцы прысвячалася ўрачыстай сустрэчы мядзведзя пасля доўтага зімовага сну. Вось як яно святкавалася на Бягомльшчыне.

Свята гэта бывае напярэдадні Дабравешчання. У гэты дзень рыхтуецца асобая ежа: на першую страву гатуецца сушаны рэпнік у знак таго, што мядзведзь ужывае пераважна раслінную ежу, травы. На другую страву падаецца кісель, таму што мядзведзь любіць авёс. Трэцяя страва складаецца з гарохавых камоў. Пасля абеду ўсе — старыя і малыя — лажацца, але не спяць, а кожную хвіліну вельмі павольна пераварочваюцца з боку на бок, імітуючы мядзведжыя пера-кульванні. Цырымонія працягваецца каля дзвюх гадзін, і ўсё гэта робіцца для таго, каб мядзведзь лёгка ўстаў са сваёй зімовай бярлогі. Пасля абеду сяляне не працуюць — святкуюць. Па перакананні сялян, мядзведзь на Звеставанне абуджаецца ад спячкі, ус-тае са сваёй бярлогі. Вось і сустракаюць яго з даб-разычэннямі.

Добрую справу зробяць настаўнікі, калі выкарыстаюць пералічаныя разнавіднасці мастацкіх твораў і распрацуюць рэканструяваныя сцэнарыі выключнага па сваёй маляўнічасці, тэатралізаванага свята Камаедзіцы і, такім чынам, запоўняць яшчэ адну ўзнікшую ў выніку знішчэння беларускай нацыянальнай культуры пустку, зробяць значны ўклад у адраджэнне найбольш самабытных з'яў духоўнай культуры беларусаў.

Вось як падрыхтавала са сваімі вучнямі гэта свята настаўніца беларускай мовы і літаратуры СШ № 150 г. Мінска Тамара Станіславаўна Макарэвіч.

Накрываецца стол, на якім — мёд, ягады, рэпа, аўсяны кісель, гарохавыя камы і іншыя любімыя стравы мядзведзя.

Гаспадыня-настаўніца запрашае:

— Сядайце, дзеткі, калі ласка, да стала. Сёння ў

нас свята Камаедзіцы ў гонар прабуджэння нашага продка-мядзведзя ад зімовай спячкі ў бярлозе. Яго любяць у народзе і шануюць, бо ён наш апякун, які дае нам здароўе і дабрабыт. Таму сёння мы будзем есці стравы, якія любіць мядзведзь. Вось паспрабуйце яго любімыя ласункі: мёд, сушаную рэпу, аўсяны кісель. Але самая любімая страва Мішкі — гарохавыя камы, таму і свята называецца Кама-едзіца. Паспрабуйце іх.

А зараз паабедалі і будзем вітаць і сустракаць мядзведзя, бо ён прачынаецца і выходзіць з бярлогі. Зробім так, каб яму было лёгка ўставаць пасля доўгага зімовага сну.

Дзеці кладуцца на падлогу і імітуюць, як мядзведзь прачынаецца, перакульваюцца з боку на бок, а потым устаюць і, чакаючы мядзведзя, спяваюць пра яго песню і расказваюць казкі:

Мядзведзь кару дзярэ,
Маруся ваду бярэ.
Нашто мядзведзю кара,
Нашто Марусі вада?
Кара — у печы паліць,
А вада — есці варыць.

— Раскажу я вам, як паехаў аднойчы паляшук у лес, паставіў каня, а сам пайшоў секчы дровы. А тут мядзведзь з'явіўся і — на воз. Конь як пабег! Мядзведзь спужаўся, сядзіць у вазку ні жывы ні мёртвы, а тут ля дарогі крыж. Мядзведзь схапіўся лапамі за крыж, а той і вырваўся. Трымае крыж мядзведзь у лапах, а конь уляцеў у сяло. Палешукі павыбягалі і кажуць: "Гляньце — гэта ж ксёндз з панам-Богам едзе!" Тут конь зачапіўся, і мядзведзь з крыжам зваліўся. Цяпер на Палессі той мядзведзь — ксёндз.

А я яшчэ адну казку раскажу. Прыйшоў мядзведзь у балота, лёг ды сот з пяць камароў прыдушыў. Адзін камар запішчаў: "Нашто прыйшоў і загубіў нас столькі? Уцякай, пакуль жывы". Пішчыць, дый годзе. Мядзведзь нікога не бачыць, але чуе. Потым угледзеў камара, вырваў бярэзіну і давай махаць. А яны: "Уцякай, а то жыў не будзеш!" Намахаўся мядзведзь, знясілеў, а камары як дадуць, як урэжуць. Мусіў ён бегчы з балота, а камары гудуць: "Во, будзеш ведаць, як нас чапаць!"

Пасля спеваў песень, апавядання легенд, паданняў, казак пра мядзведзя да дзяцей прыходзіць тэатралізаваны мядзведзь. Дзеці сустракаюць яго:

— Ой, Мішачка, устаў! Як табе спалася, як табе ўсталася? Заходзь, Мішутка, у хату, тваё свята святкаваць будзем. Паспрабуй — мы табе прыгатавалі твае любімыя стравы. Сядай, а мы табе патанцуем.

Танцуюць, і мядзведзь пачынае скакаць з імі.

— Нездарма калісьці ў нас у Смаргоні была мядзведжая акадэмія — вось як Мішка наш выдатна танцуе. Іх там вучылі, каб людзей цешылі. Калядоўшчыкі, шчадроўнікі, валачобнікі, скамарохі з імі хадзілі. Пакажы, Мішка, як ты гаспадароў весяліў. (Мядзведзь паказвае.)

— А як бабы цеста месяць? (Мядзведзь круціць задам.)

— А як, Мішка, бабы на працу ідуць? (Мядзведзь ідзе, чапляючы нагу за нагу.)

— А як дзеўкі жаць ходзяць? (Паказвае, як дзеўкі неахвотна ідуць на працу.)

— А як яны з поля ідуць? (З поля ідуць — на кані не дагоніш.)

Далей дзеці спяваюць прыгавор важатага, а мядзведзь паказвае тое, аб чым спяваецца:

— Ой, ты, Мішанька,
Паскач харашэнька,
Гэта табе не пчолак драць,

Слухай нашага брата мядзведніка,
Хто цябе корміць, поіць,
Ад ліхіх сабак абароніць.

Прасі ў гаспадара міласцінкі —
Адным вокам плач,
А другім дару прасі.

Ой, ты, Мішанька,
Як дзеці ў гарох лазяць?
Падпаўзаюць, падпаўзаюць.

Назад бягуць — аглядваюцца,
Ці не ідзе хто,
Ці не гоніцца.

— Малайчына, Мішка! Можна, мы да цябе ўлетку прыйдзем ягады, грыбы браць?

Спяваюць:

У мядзведзя на бару
Грыбы, ягады бяру,
Мядзведзь рычыць
Ды на нас глядзіць.

Мядзведзь з рыкам пачынае лавіць дзяцей, якія разбягаюцца і ўцякаюць ад яго. Калі каго злавіў, той адкупляецца загадкамі пра мядзведзя.

Хоць таўстун занадта ласы,
На зіму нясе прыпасы.
А вясна прыйдзе ледзь-ледзь,
Прачынаецца (усе) — мядзведзь.

Летам носіць ён кажух,
Мае свой абход пчаліны,
Уплятае мёд за двух
І збірае ў рот маліны.
Ён зімою засынае,
Летам мёд не абмінае.

Калі жыта жнуць, таксама Мішку ўспамянуць — спяваюць скупому і шчодраму на пачастунак для жнеек гаспадару.

Сядзіць мядзведзь на капе,
Дзівуецца барадзе:
— Ой і дзіўна мне
Да той барадзе —
Уся смалою паліта,
І пянькою павіта:
То Радзівона барада,
Ўся смалою паліта
І пянькою павіта.

Сядзіць мядзведь на капе,
Дзівуецца барадзе:
— А чыя то барада,
Чорным шоўкам павіта,
Сытой-мёдам паліта?
То Пятрова барада.
Чорным шоўкам павіта,
Сытой-мёдам паліта.

Потым дзеці танцуюць з мядзведзем танец "Весялухі" і водзяць восеньскі карагод пад песню:

А ў цёмным лесе мядзведзь рыкае,
Мядзведзь рыкае, дзяцей пужае.
Пужай не пужай, я не баюся,
Толькі баюся асенняе ночкі,
Асенняя ночка — разлука мая,
Адлучыць мяне ад матулькі,
Прылучыць мяне да свякроўкі,
Адлучыць мяне ад татулькі,
Прылучыць мяне да свёкаркі.
Адлучыць мяне ад сястрычкі,
Прылучыць мяне да заловачкі.
Адлучыць мяне ад брацейка,
Прылучыць мяне да дзеверкі.

З пажаданнямі "Каб былі здаровыя, як мядзведзі", "Каб было багацця столькі, колькі шэрсці ў мядзведзя" і падобнымі дзеці вядуць мядзведзя з хаты, а гаспадыня заключае:

— Не забывайце спадчыну родную, бо нездарма гавораць: "Родную спадчыну забыў — усё згубіў"; "Хто продкаў забывае — сябе губляе"; "Лепш хай сяло згарыць, чым звычай згіне" і іншыя.

## Літаратура

*Ліцьвінка В.* Камаедзіца//Культура. 1993. 22 сак.
Мінскія епархіяльныя ведамасці. 1874. № 7. С. 229 — 230.

3. Зак. 301.



# ВЯЛІКДЗЕНЬ

Вялікдзень — найвялікшае каляндарнае свята, якое складае выключную адметнасць, самабытнасць беларускага абрадава-святочнага календара. Яно часам служыць арыенцірам для вызначэння этнічных межаў рассялення беларусаў на захадзе, поўначы і ўсходзе.

Відаць, у старажытнасці "Вялікі дзень" быў сустрэчай Новага года па сонечнаму календару і святкаваўся ў дзень веснавога раўнадзенства. Але з пашырэннем хрысціянства прыстасаваны да Пасхі і стаў перасоўным святам ад 4 красавіка па 8 мая (часцей за ўсё яно прыпадае на адну з нядзель другой палавіны красавіка). Рэгіёнам найбольш актыўнага святкавання яго з'яўляецца гістарычная радзіма крывічоў.

Вялікдзень, як ніякае другое свята, багата насычаны святочна-мастацкай культурай велічальнага, мажорнага, гімнічнага, жыццесцвярджальнага характару. З веlікоднага тыдня пачыналіся веснавыя гульні і карагоды, дні ўшанавання продкаў, качанне і біццё яек, "ваджэнне і пахаванне стралы". Да свята старанна рыхтаваліся.

Апошняя нядзеля перад Вялікаднем называлася Вербніцай. У гэты дзень у царкве асвячалі галінкі распушчанай вярбы, якою білі адзін аднаго з прыгаворам: "Вярба б'е, не я б'ю, за тыдзень — Вялікдзень, будзь здароў, не ўмірай, Вялікадня дачакай, ужо недалечка чырвона яечка. Будзь здаровы, як вада!

Будзь багаты, як зямля!" Асвечаным галінкам вярбы, як грамнічным свечкам або сарачынскім галёпам, потым увесь год надавалася магічнае значэнне.

Каб абараніцца ад маланкі, усе члены сям'і з'ядалі па аднаму пухірку асвечанай вярбы, а гаспадар з прыгаворамі абыходзіў, сцёбаючы, усю жывёлу, пабудовы, вуллі, агарод, поле, магілы продкаў. Рэшткі вярбы захоўваліся да наступнай Вербніцы.

Галоўным момантам падрыхтоўкі святочнага стану душы да Вялікадня быў перадвелікодны сямітыднёвы пост. Велікодная ноч з суботы на нядзелю — святочная, калі не спалі, палілі вогнішчы, фарбавалі яйкі, пяклі пірагі, таўклі мак, цёрлі хрэн, рыхтавалі "паску", якую асвячалі ў царкве. Зранку пасля богаслужэння ў гонар уваскрасення Хрыстова разгаўляліся і тройчы віталіся радаснай навіной: "Хрыстос уваскрэс!"— цалаваліся.

Пасля разгаўлення ўсе выходзілі на вуліцы з поўнымі кішэнямі выбраных моцных крашанак (за курамі, якія неслі іх, быў асаблівы дагляд) і пачыналі шматлікія маляўнічыя гульні з біццём і качаннем яек. Вось прыклад дыялога перад біццём:

— Ну што, будзем біцца?

— Будзем, але раней дай паспрабаваць.

— Ой, вельмі ж тваё моцнае, пайду далей.

— Дык, можа, памяняемся?

— Не, давай тады лепш сваімі.

— А ў цябе не смалянка (залітае смалой)?

— А ў цябе ці не ад цасаркі яйка (асаблівая парода маленькіх кур)?

— Не, ну дык дзяржы, буду біць.

— Не, ты першы трымай, а потым я.

Ідзе торг доўгі, асцярожны. Нарэшце адзін б'е. І той, чыё яйка пабілася, аддае "бітку" пераможцу. Бываюць падробкі з воску, волава, але калі падман раскрываецца, аўтара чакае вельмі суровая кара.

Гульня "качанне" больш характэрна для дзяцей: з горкі або па падвешанай з аднаго боку дошцы пускаюць яйкі, і калі адно дакранецца да папярэдняга, гаспадар забірае апошняе. Гэта забава вельмі папулярна і да нашага часу.

Але самай прыгожай часткай святкавання Вялікадня з'яўляецца магічна-спеўны абход двароў сваёй і нават суседніх вёсак гуртам валачобнікаў са співан-

нем урачыстых віншавальных песень гаспадару, гаспадыні, хлопцу, дзяўчыне, бабулі. Узначальваў гурт пачынальнік-запявала з магутным голасам, які спяваў асноўны тэкст, і падхватнічкі, што спявалі магічныя прыпевы-закрэпкі пасля кожнага радка: "Вясна красна на ўвесь свет", "А зялёны явар кудравы", "Гэй, Дзід-Ладо", "Хрыстос ўваскрос, сын Божы" і іншыя. Музыкі (бубен, скрыпка, цымбалы, дудка) і механоша, які збіраў ахвярапрынашэнні Сонцу, суправаджалі гурт.

Падышоўшы да акна, пачынальнік, пасля атрымання дазволу, спяваў:

Ды на першы дзень святых Вялікадней,
Вясна-красна на ўвесь свет!*
Красны малойцы — валачобнічкі.
А ішлі ж яны ды гуляючы.
Слаўнага сяла ды пытаючы.
А ў тым сяле — слаўнага пана,
Слаўнага пана, пана Івана.
Дапытаўшыся, прыйшлі пад ваконца:
— Ой, ці ж дома ты, слаўны пане?
— Ці спіш, ці ляжыш, ці адпачываеш?
Калі спіш ці ляжыш — дык Бог з табою;
А не спіш, не ляжыш — дык гукай са мною.
Хоць ён і дома — не абзываецца,
У новай каморы прыбіраецца,
Надзяе боты слуцкай работы.
Надзяе футру сабалёвую.
Надзяе шапку babровую.
Паджыдае ён светлых святачкаў.
Светлых святачкаў — вялікаднічкаў.
Першага свята — святога Вялічка.
Другога свята — святога Юр'я.
Трэцяга свята — святога Міколу.

Святыя ў валачобных песнях — сяляне-земляробы: Юрый па межах ходзіць — жыта родзіць, Мікола — даглядае, Пятро — зажынае, а "Божая маці жыта жала — жыта жала, у снапочкі клала". А вось якая маляўнічая канцоўка ў гэтых доўгіх, бывае больш

* Спяваецца пасля кожнага радка.



Вялікдзень на радзіме Кастуся Каліноўскага

300 радкоў, песень, у якіх ахоплена ўсё гадавое кола клопатаў земляроба:

Слаўны пане, возвелічайся!
Адзавіся, слаўны пане!
Ці ўслух табе нашая песня,
Нашая песня — старасвецкая?
Калі ўслужа табе — не тамі ж ты нас.
Не тамі ж ты нас — падары ж ты нас.
Выйдзі-выйдзі ты на ганачак.
Вынесь-вынесь ды падарачак.
Срэбра-злота ды не важачы.
Ды не важачы, ды не лічачы.
Срэбра-злота самі злічым.
Слаўнага пана вазвялічым.
Слаўнаму пану песня спета.
Песня спета проці нова лета.
Проці новага і вясёлага.

Ой, жыві ж здароў і багацей
І з жаною з маладою.
І з деткамі наймілейшымі!
І з брацелямі найкраўнейшымі!
І з суседзямі найбліжэйшымі!
Будзь здаровы, як крынічна вада.
Будзь вясёлы, як хороша вясна.
Будзь багаты, як сырая зямля.

Дзе-нідзе валачобнікаў называюць "кукольнікамі", "валхоўнікамі", "скамарохамі" за тое, што ў іх многа рэчытатыўных жартаў-прыгавораў накшталт наступнага: "Жачак, жачак, малы рыбачак, па небу бегаў, Ісуса Хрыста бачыў. Кібец, кібец, дайце блінец, у прыдатак аладку дый кіем па азадку".

"Лалымшчыкамі" валачобнікаў называлі за характэрны прыпеў, як у наступнай велічальнай дачцэ гаспадара, які магічна робіць жадаемае ў песні рэальным і таму спяваецца пасля кожнага радка:

Стаіць вярба сярод двара,
Ай, лалым-лалым, гэй, лалым-лалым!
На той вярбе — залата раса.
Прыляцелі райскія пташкі.
Залату расу абцерушылі.
Вышла-выбегла красна дзяўчына.
Шаўкову хустку разаслала
І панясла да злотнікаў.
— Вы, злотнічкі-надобнічкі.
Вы вылейце тры надобкі.
Перша надобка — залаты персцень.
Друга надобка — руцвяны вянок.
Трэцця надобка — шаўковы каберац.
Залаты персцень — на ўпадабанне
Руцвяны вянок — на заручанне.
Шаўковы каберац — на шлюбаванне.

На пытанне пана, для чаго спяваюць валачобныя песні, адзін валачобнік адказаў: "Ды мы, паніч, ня ведаем добра, для чаго гэта. Бацькі і дзяды нашы хадзілі і нас вучылі. Кажуць, што "лалым" пачалі спяваць, калі змянілася вера".

Вось бы дзеці нашы так адказвалі!

У гонар сына гаспадара часцей за ўсё спявалі наступнае:



Малыя валачобнічкі

А ў полі — мяжа, а ў полі — мяжа,
Ой, віно ж, віно зеляно!
Цераз тую мяжу ды куна бяжыць.
А малады Ясенька
Меціць, меціць, хоча куну забіць.
Стала яна ў яго прасіціся:
— Маладзенькі Ясенька,
Не бі, не страляй мяне.
Ой, як будзеш жаніціся,
Буду я табе у нагодзе,
У вялікай прыгодзе.
Я тваю панну перанясу,
Я цябе, маладога, перавязу,
Я твайго каня ўплыў пушчу.
Маладзенькі Ясенька,
Не тамі гасцей, надары хутчэй!

На першы дзень Вялікадня, як потым і на Купалле, сонца, па народнаму павер'ю, калі ўзыходзіць, "іграе": расцягваецца то ўдаўжыню, то ўшырыню, прымае эліптычную форму, распадаецца на некалькі маленькіх сонцаў. Са званіцы царквы, з узгоркаў, са стрэх хат людзі стараліся пабачыць яго "ігру", бо гэта

прыносіла шчасце і заможнасць, здзяйсненне загаданых жаданняў. Як і на Купалле (бо гэта таксама свята сонечнага культу), часам усю велікодную ноч палілі вогнішчы, моладзь гушкалася на арэлях, якія часцей за ўсё ладзіліся ў гумнах.

Старэйшыя жанчыны на Вялікдзень на ўсходзе сонца мыліся ў начоўках, у якія клалася золата, серабро і чырвонае яйка, каб разбагацець і памаладзець. Дзяды расчэсвалі валасы з прыгаворамі: "Колькі на галаве валасоў, няхай столькі будзе ўнукаў".

На другі дзень Вялікадня, а на Палессі на Наўскі вялікдзень (у чацвер на велікодным тыдні) усёй сям'ёй хадзілі на могілкі "пахрыстосавацца" і "пагаварыць" аб жыцці-быцці з дзядамі.

На трэці дзень Вялікадня "купалішчам" — абліваннем вадой — ачышчалі тых, хто праспаў велікодную ноч.

З Вялікадня да Ушэсця (сорак дзён) — перыяд найбольш актыўнага магічнага ваджэння веснавых карагодаў па ходу сонца, якое спрыяла росту збожжа. Вось прыклад такога карагода:

Што й на вуліцы, што й на шырокай,
Зялёны явар, кудравы!
Там ляжалі брусся, брусся новыя.
Там сядзелі мужы, мужы чэсныя.
Яны вялі раду, раду добрую.
Раду добрую валачобную.
— Ну-тка, браццы, сабярэмося.
Сабярэмося да параімося.
Сабярэмо жыта хоць па гарчыку.
Жыта і пшаніцы, усякае пшаніцы.
Ды наварым піва, піва ярага.
Сазавем гасцей з трох святочкаў.
Першы святочак — то Вялікдзень.
Другі святочак — святы Юрый.
Трэці святочак — святы Мікалай.

Карагодам выконвалі і жартоўнае валачобнае віншаванне-велічанне самаму паважанаму ў доме сямейніку — бабулі:

Валачобныя людзі добрыя,
Вясна красна на ўвесь свет!



Валачобнікі з г. п. Свіслач

Валачыліся, намачыліся.
Зайшлі да бабкі — пасушыліся.
І дала бабка ўсім па яечку.
Адной сіраціне не досталося.
Дала ж бабка курку рабую.
Сірата не бярэ і з двара не ідзе.
І дала бабка дзеўку красную.
Сірата ўзяла і з двара пайшла.
І падскакваючы, і падзякваючы:
— Ай, дзякуй, бабка, за красную дзеўку!

Дзеці на Вялікдзень клікалі дождж абрадавымі і магічнымі песенькамі-заклічкамі:

Ідзі, ідзі, дожджыку,
Звару табе боршчыку,
Цэбрам, вядром, дайніцаю
Над усякаю пашніцаю.

У летапісах сцвярджаецца, што раней у гэтых абрадах удзельнічалі і дарослыя, але цяпер заклічкі сталі цікавай часткай дзіцячага фальклору, першапачат-



Валачобныя — госці рэдкія

ковыя вытокі якога — у велікодным звычаі. Вось прыклады найбольш цікавых з іх:

Як была ж у бабкі курка-каралеўна,
Кудах-тах, кудах-тах, назаўтра з яйцом.
Да вынесла ж бабцы да яечка раба.
Да прыйшлі ж да бабкі валачобнікі.
Валачыліся, намачыліся.
Да прыйшлі ж да бабкі пасушыліся.
Да дала ж ім бабка залато яечка.
Адной сіраціне не хапіла яйка.
Да дала ж ёй бабка булку хлеба.
Сірата прымае дай не дзякуе.
Бабцы ж ручкі дай не цалуе.
Дала ж ёй бабка шаўковы пояс.
Сірата прымае да й не цалуе.
Да дала ж ёй бабка каня варанога.
Сірата прымае дай не дзякуе.
Бабцы ж рукі дай не цалуе.
Да дала ж ёй бабка хлопца маладога.
Сірата прымала дай дзякавала.
Бабцы ж руку дай пацалавала.

У наш час Вялічка — чырвона яечка (апошняе — сімвал прадаўжэння жыцця, роду чалавечага) праз песенную культуру валачобніцтва, як і ў старыя часы, услаўляе росквіт прыроды, вясну як пару новага жыццёвага вітка, надзеі на лепшае, прывівае любоў да працы, павагу да прыроды, "дзядоў", традыцыйнай культуры. Ёсць вельмі слушнае меркаванне, што валачобніцтва, як жыццесцвярджальнае, аптымістычнае, гімнічна-велічальнае віншавальнае мастацтва, найбольш актыўна развілося ў часы ўмацавання хрысціянства з яго філасофіяй жыццёвай пасіўнасці.

Трэба зазначыць, што свята Вялічкі, у першую чаргу як самабытна-нацыянальная прыгожая святочна-песенная культура, як вынік шматвяковай дэнацыяналізацыі беларусаў, амаль забыта. Але ў апошні час ёсць абнадзейваючыя ўзрастаючыя цікавасць і цяга да валачобніцтва. Яму трэба надаць дадатковы штуршок, падтрымаць на дзяржаўным узроўні.

## Літаратура

*Антонов К.* "Вяліқдзень" на Полесье//Сов.Белоруссия. 1991. 6 апр.

Валачобныя песні. Мн., 1980.

*Васілевіч І.* Вялікдзень//Салон. 1991. № 3.

Вялікдзень у Свіслачы//ЛіМ. 1991. 26 крас.

*Гурскі А.* Калі ажываюць прырода і памяць (Аб старажытных святах Вялікадня і Радаўніцы)//Вяч.Мінск. 1990. 13 крас.

*Коваль У.* Вялікдзень//Работніца і сялянка. 1991. № 4.

*Крук І.* Усе пачынаецца з яйка (Аб свяце Пасхі на Беларусі)//Звязда. 1992. 15 мая.

*Кузьміч Т.* Ці можна свята павялічыць?//Віцеб. рабочы. 1991. 6 крас.

*Кухаронак Т.* Вялікдзень//Звязда. 1991. 5 крас.

*Ліс А. С.* Валачобныя песні. Мн., 1989.

*Мінько Л.* Вялікдзень//Настаўн. газ. 1993. 17 крас.

*Мыцько С.* Вялікдзень — свята земляроба//ЛіМ. 1989. 28 крас.

*Пінчук Н.* Вялікдзень і Радаўніца//Чырв. змена. 1993. 14 крас.

*Палаз М., Сарокін Л.* На Вялікдзень: Сцэнарыі//Культура. 1993. 5 крас.

*Приходько В.* Мы празднуем Пасху//Ступени. 1992. № 3.

*Пятроўская Г.* Вясна, вясна, ты з чым прыйшла?! (Вялікдзень)//Беларус. ніва. 1991. 15 мая.

*Салавей Л.* Вялікдзень, Вялікадне, Светлае Вялічка: Народныя традыцыі//Звязда. 1990. 13 крас.

*Скідан В.* Вялікдзень; Гуканне вясны (Народныя святы)//Пралеска. 1992. № 3.

*Хатэнка А.* Узыдзе сонца веры вясной (Вялікдзень)//Чырв. змена. 1990. 14 крас.

*Юдо П.* Святыя званы дзяцінства (Пасха)//Настаўн. газ. 1992. 5 крас.



# НАЎСКІ ВЯЛІКДЗЕНЬ

Свята адзначалася ў чысты чацвер на велікодным тыдні як частка агульнакаляндарнай традыцыі ўшанавання дзядоў. Больш вядома яно ў сучаснай святочнай культуры, нават як дзяржаўнае свята, пад назвай Радаўніцы (у аўторак на пасляжвелікодным тыдні), на якую — "да абеда аруць, у абед плачуць, а пасля абеду скачуць". Калі ўлічыць факты святкавання Наўскага вялікадня* на старажытнаплемянных беларускіх тэрыторыях, а Радуніцы — на сумежжы з рэгіёнамі Расіі, асабліваe месца велікоднага тыдня ў календары беларусаў, чацвярга, як "чыстага" дня, то трэба прызнаць самабытна беларускім іменна Наўскі вялікдзень.

Ёсць шмат сведчанняў, што гэта было свята ўшанавання памерлых у апошні час, нават у апошні год, аб чым сведчыць і сама сутнасць "наўскіх" рытуалаў з абавязковым частаваннем дзядоў велікоднымі яйкамі. Гэта такія каляндарныя Дзяды, калі рыхтавалі адпаведныя стравы і куццю і неслі іх на могілкі, там елі, пілі самі і частавалі памерлых, а на іншыя дзядоўскія святы іх душы запрашаліся ў хату. Гэты абрад народжаны сямейна-родавай традыцыяй ушанаваць і ўлагодзіць душы продкаў, якія, адпаведна

---

* Назва "наўскі" паходзіць ад старажытнаславянскага "наўе" — дух нябожчыка. У некаторых мясцінах "наўцамі" называлі нябожчыкаў апошняга года.

сакральным звычаям яшчэ матрыярхальнага ладу, могуць уплываць на лёс сваіх кроўных нашчадкаў.

Звычайна на Наўскі вялікдзень перад абедам усе кроўныя, па-велікоднаму святочна апранутыя, з фарбаванымі яйкамі і асвечанымі стравамі ішлі на могілкі. Старэйшыя і дзеці моўчкі рассаджваліся вакол белага абруса, які слалі на папярэдне старанна дагледжаную магілку апошняга нябожчыка ў родзе. На абрус клалі куццю, яйкі, вялічку, мяса, хрэн, рыбу, пітво, "грыбкі" — тоўстыя бліны. Усе стравы абавязкова адкладваліся ці адліваліся для нябожчыка і астаўляліся на магіле пасля наўскага пачастунку. Ён прадаўжаўся доўга, а пачынаўся звычайна гаспадаром, які звяртаўся з наступнай прамовай-рацэяй:

Святыя дзяды,
Што ад нас паляцелі,
Хадзіце да нас,
Будзем есці, што Бог паслаў!

Далей ішло ўшанаванне памерлага: успаміналі яго лепшыя якасці, рабілі дзеянні, якія маглі зрабіць нябожчыку прыемнае. Таму гэты дзень і названы "вялікім днём" для продкаў. Абавязковым было плачгалашэнне, якое прызначалася непасрэдна да гэтага родзіча. Але ёсць і унікальныя галашэнні, дзе праглядваецца сувязь з Вялікаднем: "Сонейка яснае на небе, узыдзі ў іх непрагляднай цямніцы хоць адною лучынкаю светлаю, хоць адным тоненькім валаском залаценькім, кропелькаю расы гаручаю, тваім святым агнём, хоць чарвячком купельным..." У галашэннях-зваротах вылівалі ўсе свае крыўды, скаргі, гора.

Пасля абеду рэшткі ежы аддаваліся жабракам, асабліва тым, якія спявалі старэцкія песні і ў гэты дзень прыходзілі на могілкі. Доўга развітваліся з родзічамі, звярталіся да іх з пажаданнямі "лёгкага спачываннейка, вечнага аддыханнейка". Некаторыя няўцешныя ў гoры маглі затрымацца ля магіл да вечара, што гучыць нават у адной з сучасных песень:

— Чаго, дзеўка, позна ходзіш,
Не баішся мерцвякоў?
— Ой, чаго ж мне баяцціся,
Тут мой мілы схаранён.
На ім памятнік цяжэнькі,



Тамара Ліхадзіеўская выконвае песню сваёй маці «На вялікае свята — Наўскі вялікдзень»

Дзевяноста сем пудоў,
На ім крыжык залаценькі,
Увесь абліты серабром.

На могілках качалі велікодныя яйкі — сімвал вечнага жыцця ў прыродзе і яго штогадовага адраджэння, адно з якіх абавязкова пакідалі на магіле. Увогуле, Наўскі вялікдзень быў вельмі сходны з сапраўдным Вялікаднем, бо ўжо ў нядзелю дзе-нідзе сіраты-валачобнікі на могілках спявалі валачобныя песні — звароты да памерлых бацькоў.

Пасля могілак па дарозе дадому моладзь і дзеці вадзілі некаторыя магічныя веснавыя карагоды ("Пасеялі дзеўкі лён" — каб лён добры вырас). Застолле часцей за ўсё прадаўжалася і дома, але ўжо ў больш вясёлай форме, са спевамі, танцамі, гульнямі ("па абедзе скачуць"), адбываліся кірмашы, але гэта не было святатацтвам, а мела рытуальнае значэнне — пераадолець смерць, не дапусціць страху перад ёй у душы людзей, сцвердзіць жыццёвы аптымізм.

У свяце Наўскага вялікадня яскрава ўвасобіўся гуманістычны дух нашага народа, які выяўляецца ў



Па шляху да дзядоў

вельмі ёмістым і глыбокім паняцці "Дзяды". У іх беларусы бачылі свае жыццёвыя карані, моц традыцыі, значыць, і народа, аснову выхавання новага пакалення праз адбор лепшага ад мінулага, павагі да бацькі-маці, дзеда-бабулі, настаўніка, старэйшага чалавека.

Таму так старанна дбаў народ пра падрыхтоўку да Дзядоў, адкладваючы ўсё лепшае на "прыход продкаў". Не дзіўна, што яшчэ сто гадоў таму была адзначана гэта светлая рыса беларуса: "Варта запытацца, дзе больш павагі і любові да памерлых родных і продкаў, дзе больш разумення духоўных зносін з імі, дзе, нарэшце, больш паэзіі: ці ў людзях адукаваных, якія спачатку паплачуць, потым памоляцца і хоць зрэдку ўспомняць, але якія б прыйшлі ў жах, калі б хто з мерцвякоў задумаў бы да іх з'явіцца; ці ў гэтым народзе, які ўсёй душой іх заклікае, верыць, што яны прыходзяць, і лічаць гэта за шчасце. Так званы "просты народ" зразумеў і пачуў патрэбу ісці па слядах продкаў, і для гэтага неабходна пастаяннае адзінства з імі". Гэта пацвярджае і яшчэ адна назва свята: Стары вялікдзень. Лічылася, што ў гэты дзень нябожчыкі з'яўляюцца хрыстосавацца са сваімі сваякамі.

Наўскі вялікдзень — свята ўмацавання сям'і, якое выхоўвае ў дзяцей павагу да старэйшых, настаўнікаў,

дзядоў, традыцыі, гісторыі. Акрамя ўспамінаў, звparotaў, галашэнняў тут можна выкарыстаць матэрыял геніяльнай паэмы А. Міцкевіча "Дзяды", якая напісана на беларускім матэрыяле, сіроцкія і велікодныя песні, карагоды. Добра запрасіць на гэтае свята самых старых людзей, ветэранаў працы і вайны, скіраваць увагу на адшуканне сваіх радавых каранёў, сямейных паданняў і ўспамінаў, паходжанне сямейных прозвішчаў і да т.п. Але абавязковым бачыцца, адпаведна мясцовай традыцыі, наведванне і выкананне тых ці іншых рытуалаў непасрэдна на могілках.



## ЮР'Я

Напярэдадні Юр'я, 5 траўня, беларусы ўшаноўвалі сімвал парадку, вясны, росквіту прыроды. Дзяўчаты на лузе выбіралі самую прыгожую дзяўчыну, апраналі яе русалкай, упрыгожвалі зеленню, вянком з кветак, вадзілі вакол яе карагоды і спявалі:

Благаславі, маці,
Ой, Лада, маці,
Вясну заклікаці...

Дзяўчыну саджалі на дзярновую лаўку, на якой з аднаго боку ставілі гладыш з малаком, слоік са смятанай, клалі масла, яйкі і сыр, а з другога — хлеб. Ля ног дзяўчыны ляжалі некалькі вянкоў з зелені, адпаведна ліку дзяўчат з карагода. Затым, узяўшыся за рукі, карагод дзяўчат скакаў вакол "лялькі" і спяваў у гонар яе песню, якая завяршалася просьбаю:

Дай нам жытцу ды пшаніцу,
У агародзе — сенажаць,
Поўны грады, роўны зрады.

Напеў песні працяжны. Пасля кожнага двухрадкоўя прыспеўвалі: "Ляля, Ляля, наша Ляля!" Скончыўшы танцы і спевы, карагод размяшчаўся каля ног Лялі і пачынаў зноў:

Наша Ляля, Ляля
Нас корміць усім,
Каб з вясны да лета

Усё, што тут гэта,
Гадавала ўсім.
Ляля, Ляля,
Ой, да Ляля, Ляля!

Тут Ляля раздавала ўсім па чарзе малако, масла, сыр, пакуль, урэшце, нічога не заставалася. Пасля гэтага дзяўчаты ўставалі і зноў скакалі вакол яе, прыпяваючы тую ж песню. У час скокаў і песні Ляля брала вянкі і клала на танцуючых. Гэтыя вянкі дзяўчаты бераглі да наступнай вясны, а некаторыя, у выпадку замужжа, і больш, іншы раз усё жыццё, як нешта запаветнае, святое. Па заканчэнні абраду некалькі дзяўчат бралі Лялю пад руку, у суправаджэнні астатніх праводзілі яе з дзярновай лаўкі і, спяваючы ранейшыя песні, вялі дамоў. Сарочку і зелень, у якія была апранута Ляля, хавалі да другой вясны.

"На годзе ёсць два Юр'і, ды абодва дурні: увясну — галодны (6 мая), а ўвосень — халодны (9 снежня)", — гавораць у народзе пра адно з цікавых свят у беларускім народным календары.

Вялікая колькасць прыказак, прыкмет і прымавак пра Юр'я адлюстроўвае яго асаблівасці: "Як дождж на Юр'я, то будзе хлеб і ў дурня"; "Юры сказаў: жыта ўрадку, Мікола (22 траўня) адказаў: пажджы, пагляджу"; "Як на Юр'я пагода, то на грэчку няўрода"; "Калі на Юр'я мароз, дык на балоце авёс"; "Калі прыйдзе Юры, не ўгледзіш у жыце куры"; "Да Юр'я корму і ў дурня"; "Юр'ева раса — не трэба коням аўса". У гісторыю трывала ўвайшла прыказка "Вось табе, бабуля, і Юр'еў дзень" (на восеньскага Юр'я батракам дазвалялася пераходзіць да другога пана).

Хрысціянская назва святога Юр'я ўвабрала ў сябе рысы старажытнага язычніцкага апекуна хатняй жывёлы Велеса, якая пазней была пашырана на ўрадлівасць зямлі, культ продкаў і нават творчую дзейнасць. Сучасныя даследчыкі беларускай міфалогіі схіляюцца да думкі, што Велес быў калі не галоўным, дык важнейшым у беларускім язычніцкім пантэоне. Адсюль і выключная распрацаванасць юр'еўскай святочна-песеннай культуры.

Перад першым выганам статка на пашу гаспадыні

абкурвалі жывёлу купальскімі зёлкамі, тройчы абыходзілі з запаленай грамнічнай свечкай і закопвалі пад парогам сімвал плоднасці жывёлы — курынае яйка, шапталі юр'еўскія замовы, у якіх замыкалі раты драпежнікам.

Пад гукі пастухоўскай трубы кароў выганялі за вароты, дзе адбываліся імправізаваныя сцэны-дыялогі з пастухом. Кожная гаспадыня яго частавала і давала наказы, потым праводзілі статак на луг, дзе качаліся па юр'еўскай расе, якая лічылася выключна карыснай для здароўя, аглядалі поле, закопвалі на ўзмежку яго рытуальную страву — давалі ахвяру зямлі.

На гістарычнай Тураўшчыне (сучасны Жыткавіцкі раён) захавалася юраўскае валачобніцтва. Святочна апранутыя дзяўчаты збіраліся ў адной хаце, пяклі пірог з пшанічнай мукі, рабілі з доўгай галіны і чырвонай тканіны сцяг і ўтыкалі яго ў пірог. Наперадзе станавіўся хлопец з пірагом і сцягам, за ім — гурт дзяўчат-спявачак, а ўжо за імі — гурт хлопцаў. Гэтае шэсце абыходзіла з канца ў канец вёску, заходзіла ў двары, дзе спявала і вадзіла магічны юраўскі карагод:

Ідзе, ідзе карагод, карагод,
Усе дзевачкі напярод, напярод.
А хлопчыкі за намі,
Маргаючы вачамі.
Ото ж карагод,
Ото ж ваявод.
У нашага карагода
Быў сын ваявода.
Дзе карагод ходзіць —
Там жыта родзіць.
А дзе ж не бывае —
Там жыта вылягае.
У нашага карагода
Быў сын ваявода.
Ідзе, ідзе карагод, карагод.

Маляўнічасцю вызначаліся і юраўскія гульні пастухоў, якія мелі магічна-ахоўны характар.

...Пастух вызначае, каму з хлопчыкаў-падпаскаў быць "зайцам", каму — "кульгавым", каму — "замком", а каму — "калодай", і расстаўляе іх усіх вакол статка. Пасля гэтага бярэ прыгатаваную яешню і ідзе з ёю да "зайца", пытаючы: "Заяц, заяц, ці горка асі-



Юраўскі карагод з в. Валаўск Ельскага р-на

на?" Той адказвае: "Горка!" — "Дай Бог, каб і наша скацінка для звяроў была горка!"

Звяртаецца да "сляпога": "Сляпы, а сляпы, ці бачыш ты?" "Сляпы" адказвае: "Не бачу!" — "Дай Бог, каб і нашу скацінку не бачыла звярынка!"

Далей пытае ў "кульгавага": "Кульгавы, а кульгавы, ці дойдзеш ты?" У адказ: "Не дайду!" — "Дай Бог, каб і звярынка не дайшла да нашай скацінкі!"

Затым пастух пытае ў "замка": "Замок, а замок, ці разамкнешся ты?" У адказ: "Не, не разамкнуся". — "Дай Бог, каб у звера не разамкнуліся зубы ля нашай скацінкі!"

Нарэшце пастух падыходзіць да "калоды": "Калода, а калода, ці павернешся ты?" Тая кажа: "Не павярнуся". — "Дай Бог, каб і звер не павярнуўся да нашай скацінкі!"

Такім чынам пастух тры разы абыходзіць статак. Пасля ўсе удзельнікі гульні садзяцца і з'ядаюць яешню, а затым, крыху счакаўшы, але задоўга да вечара, гоняць жывёлу назад у вёску, дзе ўжо на вуліцы пачынаюцца спевы, скокі, ваджэнне карагодаў.

Поўнае захаванне старажытнай дахрысціянскай і выключна шырокай функцыянальнасці Юр'я прывя-

ло да таго, што часам яно асэнсоўваецца як першае гадавое свята:

Каля Бога ўсе святочкі
Шахуюцца, рахуюцца,
Катораму ўперад ісці.
Першы святок — святы Юр'я.
Святы Юр'я ўперад пайшоў,
Асядлаў каня варанога
І паехаў аж да Бога.
Узяў ключы залатыя,
Адамкнуў зямлю, пусціў расу.
Пусціў расу на ўсю вясну,
Вільготную, выгодную.
Пусціў расу цяплюсенькую,
На Белую Русь і на ўвесь свет.
На гэты свет, на ўсякі цвет,
На люд вясёлы, на ўраджай.

Можа, самая прыгожая юраўская песня — "Ой, выйду я на вулачку":

Ой, выйду я на вулачку — бычкі бушуюць,
Юр'я, Юр'я, бычкі бушуюць.
Бычкі бушуюць, бо вясну чуюць,
Юр'я, Юр'я, вясну чуюць.
Зашумелі рэчкі, ляды паплылі,
Юр'я, Юр'я, ляды паплылі,
Зачарнела зямліца, бо пааралі,
Юр'я, Юр'я, бо пааралі.
Зазелянела бяроза, бо папукалася,
Юр'я, Юр'я, бо папукалася.
Завесялела дубрава, пташкі спяваюць,
Юр'я, Юр'я, пташкі спяваюць.
Зазелянела даліна, кветкі зацвілі,
Юр'я, Юр'я, кветкі зацвілі.
Ой, выйду я, выйду кветкі збіраці,
Юр'я, Юр'я, кветкі збіраці.
Кветкі збіраці, вяночкі віці,
Вяночкі віці, Юр'я спяваці,
Юр'я, Юр'я, Юр'я спяваці.

У юраўскіх песнях, асабліва ў карагоднай форме, шмат дыялогаў паміж Юр'ем і маці, хлопцамі і дзяўчатамі. У адным з песенных адказаў на пытанне Юр'я нават замаўляе:



Юр'я з в. Малыя Зімовічы Мазырскага р-на ў тэлепраграме «Запрашаем на вячоркі»

— Святы Юрый, дзе ж ты биваў,
Дзе ж ты биваў, дзе ж ты прабываў?
— У самачэснага мужа ў Раманічка,
Я кароў пасціў і запасаў.
Я, запасціўшы, дамоў прыганю,
Дамоў прыганю, у хлеў заганю.
У хлеў заганю, слаўцо згавару.
Гэтаму статку ня будзе ўпадку
Ні ад мядзведзя, ні ад нарову,
Ні ад гада бягучага,
Ні ад змея лятучага.

Такім чынам, важнейшыя жыццёвыя функцыі, якія даручаюцца Юрыю, — "адамкнуць зямліцу, выпусціць расіцу". Ён "па межах ходзіць — жыта родзіць, па лужку ходзіць — каней пасвіць, кароў, бычкоў, цялятак пасвіць, запасаць — ад ліхадзеяў замаўляць". Таму зразумела, чаму у святочнай культуры беларусаў ён называецца "першым святкам". Есць песні, дзе Юрый выглядае казачна-легендарным героем:

Даўно, даўно тое было —
Крутом зямлі мора лягло.

А ў моры тым жыў люты Цмок.
Штодня збіраў з людзей аброк.
Давалі Цмоку ды аброку
На кожны двор па чалавеку.
Аддалі ўжо з кожнага двара,
Прыйшла пара і да цара.
— Цару, цару, прыбірайся,
Ці сам ідзі, ці жонку шлі!
Жану сваю пашкадаваў,
Дачку — Кару к мору паслаў.
Сіне мора хвалюецца,
Цароўнай Цмок любуецца.
З сіня мора выплывае,
З пашчы агонь выкідае.
Цароўначка спужалася,
За бел камень схавалася.
Аж скуль узяўся ды тут Юр'я,
Пагнаў у мора свайго каня.
Прабіў Цмока злотым кап'ём,
Засёк Цмока вострым мячом.
Па цароўне цар слёзы лле,
А Юр'я ў двор дачку вядзе.
Перад Юр'ем укленчыў цар,
Пытаецца, што даці ў дар.
— Не трэба мне тваіх дароў,
З сваёй дачкой бывай здароў.

Прыгажэйшай часткай свята заўсёды былі юраўскія карагоды, якім надавалася магічнае значэнне:

Да, падай, маці, ключы
Адамкнуць зямліцу,
Выпусціць расіцу,
Карагод вадзіці
На новае лета,
На зялёнае.
Дзе карагод ходзіць —
Там жыцейка родзіць,
А дзе не бывае,
То там улягае.

Найбольш распаўсюджаны гульнёвы юраўскі карагод, калі шэрагі дзяўчат і хлопцаў наступаюць адзін на другі:



Рыхтуюцца да свята пастушкоў

Разгуляўся Юр'еў конь,
Разбіў камень капытом.
Як у камне зерне ёсць,
Так у хлопцаў праўда ёсць.
Разгуляўся Юр'еў конь,
Разбіў гарэх капытом.
Як у гарэху зерне ёсць,
Так у дзяўчынак праўда ёсць.
Загарэўся шчыры бор:
— Вы бяжыце, хлопцы, тушыці,
Рэшатам ваду насіці.
А ў рэшаце вады нет,
У нашых хлопцаў праўды нет.
Загарэўся шчыры бор:
— Вы бяжыце, дзевачкі, тушыці,
Вядзёркам ваду насіці.
А ў тым вядры вады ёсць,
У нашых дзевак праўда ёсць.

Выдатнымі гіпербаламі малюецца конь Юр'я:

Яго конік хваслівы:
Хвастом вулку падмяце,
Юр'ю паненку прывядзе,
Вушкамі неба падапрэ,
Вочкамі зоры палічыць,
Цябе, маладога, падвялічыць.

## Літаратура

*Бехцераў Ю.* Вось вам і Юр'еў дзень!//Мінск. праўда. 1991. 7 мая.

*Буракоўская Н.* Юр'я, Юр'я, падай ключы...//Настаўн. газ. 1992. 1 мая.

*Король Т.* И звучит Юрье песнями//Сов. Белоруссия. 1991. 1 мая.

*Крук І.* Свята Юраўскага дня//Чырв. змена. 1992. 27 крас.— 3 мая.

*Куновская М.* Вот вам, ребятушки, и Юрьев день//Знамя юности. 1991. 7 мая.

*Кухаронак Т.* Юр'я//Звязда. 1992. 2 мая.

*Лагада Ю.* Добры знак: Юр'е ў Мінску // 1991. 10 мая.

*Хатэнка А.* Дзень паклонаў зямлі//Знамя юности. 1989. 23 лістап.

*Хатэнка А.* Пад знакам трох стыхій//Знамя юности. 1989. 19 кастр.



## ПАХАВАННЕ СТРАЛЫ

Сярод веснавых абрадаў на паўднёвым усходзе Беларусі асобнае месца займае Ваджэнне і Пахаванне стралы, які да нашых дзён захаваўся на Гомельшчыне, найбольш у Веткаўскім раёне. Па разнастайнасці песень і карагодаў, тэатралізацыі абрадавых рытуалаў як водгукаў уміласціўлення самай застрашальнай для старажытнага чалавека прыроднай стыхіі — маланкі-стралы — Пахаванне стралы не мае сабе роўных. Паўнапраўнымі, а часам і найбольш актыўнымі ўдзельнікамі абраду, назіраемага намі ў вёсках Стаўбун, Неглюбка, Казацкія Балсуны, Дуброва, Слабада, з'яўляюцца дзеці.

У аснове рытуальных дзеянняў, песень і карагодаў, якія спяваюць і водзяць ад Вялікадня да Ушэсця, — ахоўная магія ад маланкі. Самі спевакі гавораць: "Засцерагчыся ад маланкі, закапаць яе". Але пазней на гэта наслаілася спрыянне росту збажыны: "Цягнем каласы на небясы". Галоўнай магічнай песняй Стралы з'яўляецца наступная:

Як пушчу стралу дай па ўсём сялу,
Ой і вой люлі, да й па ўсём сялу... у-у-у!
Дай па ўсём сялу, удоль па вуліцы,
Ох і вой люлі, дай па вулі... у-у-у!
Ты не ўбі, страла, добра молайца,
Ох і вой люлі, добра мола... у-у-у!
Па том молайцу некаму плакаці,
Ох і вой люлі, некаму плака... у-у-у!



«Як пушчу стралу ўздоўж па Неглюбцы» (Веткаўскі р-н)

Маці старая, сястра малая,
Ох і вой люлі, сястра мала... у-у-у!
Жана малада каля горада,
Ох і вой люлі, каля гора... у-у-у!
Дзеткі дробныя, невыгодныя,
Ох і вой люлі, невыгодны... у-у-у!

У велізарнай колькасці варыянтаў гэтага абрадавага карагода, занатаваных аўтарам у зборніку "Беларускі фальклор у сучасных запісах. Традыцыйныя жанры. Гомельская вобласць", тэкст часта набывае баладны характар: да цела забітага молайца прылятаюць тры птушачкі-шчабятушачкі:

Першая села ў галовачках,
Ох і вой люлі, у галова... у-у-у!
Другая села на шчырым сэрцы,
Ох і вой люлі, на шчырым сэ... у-у-у!
Трэцяя села ў белых ножачках,
Ох і вой люлі, у белых ножа... у-у-у!
Што ў галовачках — яго мамачка,

Ой і вой люлі, яго мама.... у-у-у!
На шчырым сэрцы — яго сястрыца,
Ой і вой люлі, яго сястры... у-у-у!
У белых ножачках малада жана,
Ох і вой люлі, малада жа... у-у-у!
Дзе мамка плача — там рака цячэ,
Ох і вой люлі, там рака ця... у-у-у!
Дзе сястра плача — там калодзежы,
Ох і вой люлі, там кало... у-у-у!
Дзе жана плача — там расы няма,
Ох і вой люлі, там расы ня... у-у-у!

Дарэчы, гэты сюжэт найбольш часта ўжываецца ў карагодах Стралы. Так, у баладзе з гістарычнымі дэталямі "Ой, у Кіяве, у Чарнігаве" брат сястру вёў па "бруссейку, бруссю новаму, братка ж перайшоў, сястра ўтанула, сястра ўтанула, рэч прамовіла:

— Ой, не пі, братка, з той рэчкі вады,
Ох і вой люлі, з той рэчкі ва... у-у-у!
Не касі, братка, у тым лузе травы,
Ох і вой люлі, у тым лузе тра... у-у-у!
Што ў лузе трава — то каса мая,
Ох і вой люлі, то каса ма... у-у-у!
Ай, не еш, братка, рыбкі белае,
Ох і вой люлі, рыбкі бела... у-у-у!
Рыбка белая — маё целечка,
Ох і вой люлі, маё целе... у-у-у!
Ніхто к целечку не прыступіцца,
Ох і вой люлі, не прысту... у-у-у!
Прыступілася маць прачыстая,
Ох і вой люлі, маць прачыста... у-у-у!
Узяла цела да й на ручанькі,
Ох і вой люлі, да й на руча... у-у-у!
Панясла цела да й да цэркаўкі,
Ох і вой люлі, да й да цэркаў... у-у-у!
Ой, самі звонікі зазваніліся,
Ох і вой люлі, зазванілі... у-у-у!
Самі дзверачкі расчыніліся,
Ох і вой люлі, расчынілі... у-у-у!
Самі кніжачкі зачыталіся,
Ох і вой люлі, зачыталі... у-у-у!
Сама маць-зямля растварылася,
Ох і вой люлі, растварыла... у-у-у!

Само целечка схаранілася,
Ох і вой люлі, схараніла... у-у-у!"

Прыблізна такая развязка сюжэта запісана больш ста гадоў таму А. Грузінскім ля Рэчыцы, але ў ім— "узяла цела да й на ручанькі, прыступілася адна Йванаўна". У карагодзе фантастычнае перапляценне язычніцкіх, хрысціянскіх і казачных элементаў.

Вялікая колькасць самых разнастайных карагодаў ператварае Ваджэнне і Пахаванне стралы ў вялікае маляўнічае прадстаўленне, у якім удзельнічае цэлая вёска і якое доўжыцца з ранку да позняга вечара. Асноўныя моманты гэтай дзеі наступныя (назіраліся аўтарам у в. Неглюбка і в. Стаўбун Веткаўскага раёна).

Кульмінацыя Стралы прыпадае на Ушэсцейка — саракавы дзень пасля Вялікадня, у чысты чацвер, калі ўласна і адбываецца сам магічны абрад Пахавання стралы, які амаль у кожнай з дзесяці вёсак, даследаваных намі, розны. Найбольш тэатралізаваныя "пахаванні" ў Казацкіх Балсунах — закопваюць каласкі жыта; у Стаўбуне — дзяўчаты хаваюць запаветныя прадметы, а хлопцы іх адшукваюць; у Неглюбцы — пераапранутыя жанчына і мужчына імітуюць акт апладнення зямлі на ўзмежку поля; у выселенай, знішчанай Чарнобылем Барталамееўцы традыцыйна хавалі антрапаморфную стралу-ляльку, "галасілі" па ёй.

Рана на Ушэсце ўрачыста, пад узнёслыя гукі песні "Панясём стралу да й па ўсём сялу" шчыльны шэраг жанчын перакрывае ўсю вуліцу — выганяе злыя сілы з вёскі. У Неглюбцы наперадзе — дзве карнавальныя постаці "старцаў" — гратэскна пераапранутыя доўгі цыбаты мужчына — жанчынай, маленькая шчупленькая жанчына — мужчынам. У "старца" ў руках "магічная булава" (сімвал улады), якою ён увесь час намерваецца "частаваць" прысутных, а тыя звычайна адкупляюцца грашовай ахвярай. Ён пужае новых удзельнікаў, якія далучаюцца да карагода, спыняе машыны, бегае за дзецьмі, забаўляе са "старчыхай" прысутных імправізаванымі дыялогамі-інсцэніроўкамі. Гармонік, скрыпка і бубен надаюць гэтаму шумнаму, маляўнічаму шэсцю святочны настрой. Такія карагоды з усіх вуліц вёскі збіраюцца да абеду ў цэнтры, дзе доўга водзяць і спяваюць найчасцей карагоды "Наша вуліца шырокая", "Як у нашых ва-

роцечках шырокае возера", "Што на нашай вуліцы, на зялёнай мураўцы", "На вуліцы дзеўкі гулялі... У!", "Проці бацькавых варот я скакала малада" і шмат інш. Карагоды вадзілі "лукай" (вакол чацвярых квадратам расстаўленых дзяцей), "змейкай" ("а ў крывога танца не вывяду канца"). Самым старажытным, відаць, з'яўляецца магічны карагод, калі дзяўчаты кладліся адна ад другой на адлегласці аднаго цела і перакульваліся адна праз другую на ўзмежку маладой руні — успрымалі ўрадлівую сілу маці — сырой зямлі. Многа было і шэрагавых карагодаў, калі дзяўчаты і хлопцы паасобку дыялагічна размаўлялі, дражніліся, пужалі, гулялі адны з другімі. Найбольш тэатралізаваны карагод "Дрёма" інсцэніруецца жанчынай, што прадзе і дрэмле ў сярэдзіне карагода, які спявае:

— Не дрём, дрёма,
Не дрём, дрёма, над кудзеляй,
Не дрём, дрёма, пад шаўковай.
Уставай, дрёма,
Уставай, дрёма, хату месці,
Хату месці — госці едуць.
— Я не ўстану,
Я не ўстану хату месці,
Я не ўстану хату месці.

"Дрёма" адказвае так на паведамленні, што едуць свёкар, свякруха, бацька, маці. І толькі калі карагод праспявае "Уставай, дрёма... міла едзе", яна падхопліваецца і пачынае хуценька месці хату. Не менш цікавы карагод "Моладзец, моладзец, харошы, прыгожы", у цэнтры якога дзяўчына і хлопец "спаборнічаюць" невырашальнымі задачамі:

— Моладзец, моладзец, харошы, прыгожы,
Ой, люлі, харошы, прыгожы.
Пашый ты мне чаравікі з камаровай кожы,
Ой, люлі-люлі, з камаровай кожы.
— Дзевачка красная, душа, маё сэрца,
Ой, люлі-люлі, душа, маё сэрца.
Напрадзі мне дратвы з дажджавыя каплі,
Ой, люлі-люлі, з дажджавыя каплі.
Што б дратва не рвалася, башмакі не драліся,
Ой, люлі-люлі, башмакі не драліся.
— Моладзец, моладзец, харошы, прыгожы,



«Не дрём, дрёма, пад кудзеляй» — карагод Стралы

Ой, люлі-люлі, харошы, прыгожы,
Пашый мне спаднічку з чырвонае ружы,
Ой, люлі-люлі, з чырвонае ружы.
— Дзевачка красная, душа, маё сэрца,
Ой, люлі-люлі, душа, маё сэрца,
Напрадзі мне нітачак з жоўтага пясочку,
Ой, люлі-люлі, з жоўтага пясочку.
Што б ніткі не рваліся, спаднічка не рвалася,
Ой, люлі-люлі, спаднічка не рвалася.
— Моладзец, моладзец, харошы, прыгожы,
Ой, люлі-люлі, харошы, прыгожы.
Купі мне пярсцёнак, як жаркае сонца,
Ой, люлі-люлі, як жаркае сонца.
— Дзевачка красная, душа, маё сэрца,
Ой, люлі-люлі, душа, маё сэрца.
Напой майго коніка сярод сіня мора,
Ой, люлі-люлі, сярод сіня мора.
Што б конік напіўся, капыт не ўмачыўся,
Ой, люлі-люлі, капыт не ўмачыўся.

Акрамя апісаных ёсць яшчэ карагоды, калі спевакі

бягуць дзвюма групамі насустрач адны другім або ўсе разам — у канец вуліцы, звычайна ад царквы, парамі, узяўшыся за рукі, уздоўж вёскі.

Нарэшце завадатар заклікае: "А цяпер пойдзем усе ў жыта стралу хаваць!" Карагодніцы шырокімі радамі (па 8 — 10 чалавек), шчыльна ўзяўшыся за рукі, ідуць на ўзмежак жытняга поля. Гучыць "Паняcём стралу..." (часам сапраўды неслі вялікі, доўгі, сплецены з галінак бярозы і клёна вянок-стралу), "Ай, ідзі ж, страла, да й уздоўж сяла", "Павядзём стралу да й па ўсім сялу", "Да й ішла страла ў канец сяла" і іншыя варыянты галоўнай абрадавай песні. На ўзмежку поля зноў водзяць карагоды, а пасля заканадаўца абраду заклікае: "Пахавайма стралу!" Фактычна, што ні вёска — то і новая форма "пахавання", з якіх найбольш маляўнічая — парадыйныя галашэнні над лялькай-маланкай.

Дзеці ў час Пахавання стралы са смехам і песнямі разбягаюцца па полю і качаюцца — набіраюцца здароўя на маладой руні. Дакладна з гэтага моманту нельга ўжо спяваць веснавыя песні — з поля песельніцы вяртаюцца з падгалосачнымі летнімі песнямі, якія ў стылявых адносінах выразна адрозныя: "Ой, ты, ціхі Дунай", "Як стаяла белая бярозачка над вадою", "Вы, сады ж, мае садочкі", "Ты, чорная смародзіна" і інш.

Вось апісанні найбольш маляўнічых разнавіднасцяў Стралы:

...З песнямі "Як пушчу стралу" і "Мы на сена ідзём, мы на новае", загадзя выбраўшы "пана" і "паненку", якія адпаведным чынам прыбіраюцца, ідуць на поле (дзяўчына, якая іграе "пана", — у мужчынскім адзенні, а хлопец-"паненка" — у святочнай сукенцы з вянком і стужкамі на галаве). Абодва ідуць наперадзе ўдзельнікаў, а ў руках у "паненкі" — кардонка з лялькай. Абышоўшы ўсю вёску, спыняюцца ля поля з азімымі, утвараюць круг, у цэнтры якога знаходзяцца "пан" і "паненка", і водзяць карагод-баладу:

Пан па рынку ходзе, пан па рынку ходзе,
Лёлюшкі-лёлі, пан па рынку ходзе.
Пан па рынку ходзе, паню пабуджае,
Ой, лёлюшкі-лёлі, паню пабуджае.
— Ці ты засыпаеш, ці ты так не чуеш?

Ой, лёлюшкі-лёлі, ці ты так не чуеш,
Што ў Кіяве звоняць, што ў Кіяве звоняць,
Ой, лёлюшкі-лёлі, што ў Кіяве звоняць.
Што ў Кіяве звоняць, на рынку гавораць,
Ой, лёлюшкі-лёлі, на рынку гавораць.
Гавораць, гавораць пра дзявочую красу,
Ой, лёлюшкі-лёлі, пра дзявочую красу.
Дзявочая краса — па сто рублёў каса,
Ой, лёлюшкі-лёлі, па сто рублёў каса.
Па сто рублёў каса — па тысячы сама,
Ой, лёлюшкі-лёлі, па тысячы сама.

Пад песню "Паня пана не ўзлюбіла" праводзяць карагодную гульню. Затым адна з дзяўчат выкопвае ямку ў полі, у якую пад песню "Песенька мая, маленькая, схаваю цябе к налецяйку" хавае ляльку і галосіць над ёй, развітваючыся (з веснавымі песнямі. — *В.Л.*) да наступнай вясны:

Лялечка, мая мілая,
Да схавала я цябе к Ушэсцяйку,
К Ушэсцяйку, к налецяйку.
Да такога часу, як сёлета.
Прыйду да цябе з сахою
Да буду гаварыць з табою,
Мая міленькая лялечка,
Ой! Ой! Ой!

Пахаваўшы ляльку, вяртаюцца ў вёску пад песню "У лузе, у лузе каліна стаяла", пяюць "Лета" або "Ладун":

Па вуліцы, па вуліцы, па шырокай,
Ладун, ладун, па шырокай.
Разліў разліваўся з глыбокага мора.
Ладун, ладун, з глыбокага мора.
А па тым па моры шэры гусі плавалі,
Ладун, ладун, плавалі.
Налятаў на гусачак шызы арол,
Ладун, ладун, шызы арол.
Ухапіў ён гусачку за галоўку,
Ладун, ладун, за галоўку.
За белую шыйку, за правае крыльца,
Ладун, ладун, за правае крыльца.
Крыкнулі-гакнулі гусачкі па гусі,
Ладун, ладун, гусачкі па гусі.
Хто ў нас будзе наперадзе плысці,
Ладун, ладун, наперадзе плысці.

Хто ў нас будзе ключы завадзіці,
Ладун, ладун, ключы завадзіці.

...Прыходзіць Ушэсце. Жанчыны рана вытапліваюць печы і збіраюцца гадзін у 11—12. Спяваюць і ідуць у жыта закопваць Стралу. У жыце хто валяецца, хто перакульваецца. Пагуляюць у жыце і закопваюць: хто шпільку, хто дзве капейкі, хто каснічок, хто пацерку. Усе смяюцца, радуюцца. Дахаты ўжо ідуць з "падводнымі" песнямі...

...На Ушэсце спраўлялі абрад, які называўся "Праводзіны вясны". Апошнюю ўвасабляў кій, абвіты крапіваю і кветкамі, якія тапілі ў рацэ. Але характэрна, што і гэтаму абраду надавалі значэнне "каб жыта расло", і пры гэтым спявалі "Стралу"...

...Яшчэ адна цікавая дэталь: удзельнікі Стралы імітуюць абход "старцамі" двароў і збор ахвяраванняў, як у валачобным абрадзе. Што ж тычыцца Пахавання стралы, то, па тлумачэнні мясцовых людзей, яно павінна нібы засцерагчы ад маланкі ўсіх удзельнікаў гэтага абраду.

## Літаратура


Беларускі фальклор у сучасных запісах. Традыцыйныя жанры. Гомельская вобласць. Укл. Захарава В. А., Кавалёва Р. М., Ліцвінка В. Д. Мн., 1988.

*Гусев В. Е.* Вождение "стрелы" (сулы) в Восточном Полесье//Славянский и балканский фольклор. М., 1986.

*Каршукоў М.* "Пахаванне стралы"//Наш край. Мн., 1926. № 1 (4).

*Ліцьвінка В., Раговіч У.* Пахаванне стралы//Мастацтва Беларусі. 1985. № 7.

*Ліцьвінка В. Д.* "Песенька мая харошая, захаваю цябе..."//Мастацтва Беларусі. 1987. № 3.

*Лозка А.* "Страла", "Пахаванне стралы"//Беларусь. 1990. № 5.

*Якімовіч В.* Пахаванне стралы//Чырв. змена. 1991. 15—21 ліп.



# ЗЯЛЁНЫЯ СВЯТКІ

Свята найвышэйшага росквіту прыроды, якое вядома пад назвай Сёмухі, Тройцы, Куста, Русалкі, святкуецца на сёмым і восьмым тыдні пасля Вялікадня (у народзе яго называюць "Зялёнымі святкамі"). Гэта сапраўдны гімн маці-прыродзе, калі яна ў самай моцнай зялёнай магічнай сіле сваімі гаючымі лекамі ўздымае чалавека да радаснага, аптымістычнага светаўспрымання.

Няма сумнення, што выдатная эстэтыка Зялёных святак па сваёй тэатралізаванасці не ўступае Зімовым святкам, свайму адпаведніку сонцавароту зімой, але ў нейкім сэнсе з'яўляецца ягонай супрацьлегласцю. Калі там у цэнтры татэмныя жывёлы-продкі ў вобразах Мядзведзя, Казы, Коніка, Жорава, Бусла, то тут непаздзельна пануе Дрэва Сусвету — усеагульнае міфалагічнае ўяўленне аб космасе і чалавеку, у якое ўкладваюцца нашы прадстаўленні аб навакольным свеце.

У нашай свядомасці ўяўленне аб Зялёных святках перш за ўсё звязана з хрысціянскай Тройцай (трыядай Бог-Бацька, Бог-Сын, Бог-Дух Святы). Але ёсць больш старажытная пѐршааснова ў індыйскіх Ведах гэтага міфа, дзе Бог—Стваральнік—Сонца, Сын Яго Адзінародны, свет ад свету — Агонь, народжаны Майяй (сімвалам стваральнай сілы прыроды).

Трыяда Дрэва Сусвету (голле, ствол, карэнні ў агульначалавечым вымярэнні) — гэта космас, атмасфера і зямля, у чалавечым — галава, тулава, ногі, у



Выдатны выканаўца працяжных песень, нашчадак беларусаў-перасяленцаў з Сібіры Міхась Басякоў

традыцыйнай культуры — мінулае, сучаснае і будучае, у мастацтве — ад утылітарна-практычнага пачатку да фантастыкі, а ад яе — да рэалізму. Гэтая трыяда пранізвае ўсё традыцыйнае мастацтва (тройчы паўтараюцца рытуалы і замовы, трыяда рухае сюжэты казак і эпічных песень, асобныя матывы, ляжыць у аснове абрадавых дзеянняў, магіі лічбаў і мн. інш.).

Трыяда (Каляда — Вялікдзень — Дзяды) складае аснову беларускага святочнага календара — адпаведна абуджэнне, найвышэйшая кропка і смерць прыроды.

Цікава, што менавіта з Тройцай злучалася выключная для захавання нацыянальнай самабытнасці беларусаў вера ў Дзядоў, якія, па дахрысціянскіх уяўленнях, маглі ўплываць на жыццё жывых родзічаў. Стаўроўскія Дзяды (у суботу перад Сёмухай на Духаў дзень) адзін раз на год мелі магчымасць выйсці на свет (таму ў гэты дзень абмяталіся магілы), каб паглядзець, як нашчадкі захоўваюць традыцыю, вядуць гаспадарку. Таму ад беларуса можна пачуць: "Яны ўсё бачаць, яны ўсё чуюць". У адрозненне ад стаўроўскіх наступныя, зьмітраўскія Дзяды сімвалізуюць не толькі смерць прыроды, але і заканчэнне жыццёвага шляху чалавека, таму што асноўнае на іх святкаванні — позірк у мінулае, на пройдзены шлях.

Ужо на пачатку Сёмухі людзі пачыналі "прыпадаць да Майі": збіралі травы, упрыгожвалі пабудовы зялёнай, сцежку да дома папарна абстаўлялі бярозкамі, падлогу ў хаце і сцежкі ля дома, ганак усцілалі "панамі" — аерам, "шаўковай травой", плялі вянкі і пускалі іх на ваду, праз сплецены з клёну вянок даставалі з калодзежа ваду і палівалі грушы, вішанькі і яблыні, рабілі мноства іншых магічных дзеянняў. Яны павінны былі, кажучы па-сучаснаму, перанесці біяэнергію раслінасці на людзей, пазбавіць невылечных хвароб, даць моц, сілу, здароўе перад цяжкай летняй працай, выклікаць дождж і хуткі рост раслін.

Песні, карагоды пачыналіся на Семік — у чысты чацвер. Дзяўчаты, як сімвалы чысціні, ішлі ў гэты дзень у лес, "завівалі вянкі на ўсе сяткі", плялі іх з галінак бярозы, якая лічылася сімвалам дзявоцкасці. Прыгожа спявалі багатыя па мелодыцы сёмушныя песні:

Пойдзем, дзеванькі, мы ў гай гуляць,
Да вянкі заўём, да на ўсе святкі,
На духаўскія, на пятроўскія.
Ой, што дух-тройца — то ізбор дзеўкам.
Ай, не радуйся, зялёны дуб,
Не к табе ідзём вянкі віць,
Ай, узрадуйся, бяроза белая,
Мы к табе ідзём вянкі завіваць.

Дзяўчаты-сяброўкі ў гэты дзень "куміліся" (цалаваліся пад аркай звязаных уверсе бярозак), пасля чаго павінны былі спрыяць адна адной да наступнай Сёмухі.

На Сёмуху варажылі пра надвор'е, асвячалі травы, абкурвалі хаты, жывёлу, каб не баялася маланкі. Абавязковай стравай на Сёмуху была яешня: дзяўчаты пяклі яе ў лесе на вогнішчы, і ўсе павінны былі пакаштаваць, бо гэта давала ім здароўе ў будучых дзетках.

Па завітых вянках варажылі: калі вянок не ссохне да часу, як трэба развіваць яго, то гэта добры знак, а калі рана ссохне, то дрэнная прыкмета. Потым зрывалі са сваіх бярозак зялёныя галінкі, рабілі з іх вянкі і спявалі:

А мы вяночкі завілі,
Беразовік палілі
І яешаньку паелі.

Вянкі гэтыя дзяўчаты ўскладалі сабе на галовы і, несучы іх такім чынам да рэчкі, спявалі:

За рэчкаю, за быстраю чатыры дваркі,
А ў тых дварках — чатыры кумы.
Вы, кумачкі, галубачкі, куміцеся, любіцеся,
Куміцеся, любіцеся — любіце і мяне.
Пойдзеце вы ў зялёны лес — вазьміце й мяне;
Сашчыпіце па кветачцы, сашчыпіце й мяне.
Саўеце вы па вяночку, завіце і мяне.
Панясеце на ціхі Дунай, вазьміце вы й мой.
Кінеце свае вяночкі — кіньце вы і мой.
А ўсе вянкі паверх плывуць, а мой патануў.
А ўсе дружкі з паходу йдуць, а майго няма.

Калі падыходзілі да рэчкі, усе кідалі свае вянкі на ваду і па іх варажылі на будучы лёс. Потым спявалі:

Выхвалялася бяроза,
Што ў яе лісточак зялёненек,
Што ў яе вецейкі да долу.
Як пачуў, пачуў шэры дуб:
— Не хваліся, — кажа бярозе,
Не сама бяроза расцілася,
Расціў бярозу Гасподзь Бог,
Зяляніў лісточкі дожджычкам.
Выхвалялася дзевачка,
Што ў яе спадніца да долу.
Як зачуў, зачуў дзяцінка:
— Не сама, дзевачка, спраўляла,
Спраўляла табе мамачка.

Бяроза распускаецца першай з дрэў, сок яе карысны, бярозавыя пупышкі — гаючыя, бярозавыя дровы даюць шмат цяпла, з кары бярозы — бярösты рабілі шмат гаспадарчых прадметаў і нават абутак. Таму іменна бярозавымі венікамі абмяталі магілы.

Рытуал "завівання вянкоў" як водгук старажытных жаночых калектыўных абрадаў у свяшчэнных гаях, калі татэмам жанчыны была бяроза, ператварыўся ў наш час у прыгожую гульню, забаву, карагод. Пры гэтым кумленне ўсё ж захоўвае элементы дзявочых ініцыяцый — прыёму дзяўчат у род, што сведчыла аб іх сталасці і рабіла іх паўнапраўнымі членамі роду. Вось цікавае сведчанне пра кумленне.

...Уласна дзяўчаты кумяцца на Сёмуху, а сумесна з




Дзіцячая група фальклорнага гурта «Неруш»

хлопцамі — на Пятра. Вось чаму духаўскія песні так набліжаюцца да пятроўскіх. Кумаванне ўжо страціла свой абрадавы характар, толькі ў некаторых вёсках працягваюць яшчэ хадзіць у лес і там звіваць вянком дзве галінкі бярозы або галінкі дзвюх суседніх бяроз. Варажба заключаецца ў наступным: звянуць гэтыя дзве галінкі ці застануцца свежымі, калі праз тыдзень прыйдуць іх развіваць. Загадваюць найбольш: ці буду я жывая, шчаслівая, здаровая, ці выйду замуж і да т. п. Звычайна кумленне ўяўляе сабой гульню, прычым дзяўчаты гуляюць там, дзе завівалі вянкі, а з хлопцамі — у той хаце, дзе зімой былі вячоркі. У лесе рабілі вогнішча, ладзілі арэлі, вадзілі карагоды, наладжвалі танцы, гульні, скокі. Калі прыходзілі хлопцы, у іх зрывалі шапкі і кідалі ў вогнішча, дзяўчаты бараліся з імі.

На кумаванне дзяўчаты прыносяць пачастунак: сыр, масла, малако, яйкі, сала, муку на бліны. Гаспадыня з адной з дзяўчат гатуе ежу, а астатнія спяваюць песні і прыпеўкі, танцуюць пад музыку, якая працягваецца ўсю ноч. Існуе асобны цыкл "кумаўскіх" песень, якія часам называюцца духаўскімі ці пятроўскімі...

...Гэта было свята ў гонар вясны як апекуна шлюбаў, вясны-нявесты, упрыгожанай зеленню і кветкамі, якая ішла насустрач Сёміку — вясёламу і ласкаваму юнаку, вакол якога жанчыны танцавалі па дарозе ў лес з галінкамі дрэў. Затым збіраліся каля вады і варажылі: глядзелі ў ваду і загадвалі на будучы лёс, пускалі вянкі і назіралі за іх рухам, прамывалі вочы і кідалі ахвяры вадзе. Цікава, што вянкі на Сёмуху трэба было кідаць "па старому звычаю" — без дапамогі рук, павярнуўшыся да вады, рухам галавы (аўтар назіраў гэта ў в. Коланск Івацэвіцкага р-на).

Праз тыдзень прыходзілі развіваць вянкі. Ішлі і развівалі бярозкі, сплеценыя ў выглядзе вянка, пры гэтым заўважалі, калі чый вянок не засох — таму доўга жыць. Пры развіванні вянкоў спявалі:

На Тройцу мы вянкі завілі,
На Разгары — развілі.

У іншых месцах бярозкі не звязвалі, а вешалі на іх вянкі і спявалі:

Русалачкі, зямляначкі,
На дуб лезлі, кару грызлі,
Зваліліся, забіліся.
Тройца!

Часам дзяўчына пускала два вянкі і загадвала адзін на сябе, а другі — на хлопца. Але бывала, што яна завівала такія вянкі на ўсіх родзічаў. Завіваючы іх, пад акампанемент скрыпкі спявалі песню. У час кумлення дзяўчаты мяняліся пярсцёнкамі. Потым старэйшая з жанчын садзілася на зямлю з хусткай, прывязанай да кія, і выдавала сябе за праллю-драмлівіцу. Дзяўчаты, узяўшыся за рукі, танцавалі вакол яе, спяваючы. Затым жанчына падхоплівалася з зямлі, падскоквала як мага вышэй, рабіла розныя прыкрыя грымасы і біла па руках дзяўчат покрывам...

Калі праз тыдзень развівалі вянкі, спявалі:

Гукала дзевачак бяроза вянкі развіваць:
— Хадзіце, дзевачкі, вянкі разбіраць,
Прайшлі святкі, разаўём вянкі.
Зязюля перастала кукаваць,
Нашу долю сустракаць.

На Сёмуху ўпрыгожваюць дамы, двары, вуліцы зелянінай, бярозкамі, завіваюць бярозы і вянкі, кумяцца, ідуць з упрыгожанай бярозкай і топяць яе, пускаюць вянкі на ваду, частуюць дзяўчат.

Рэгіянальнай разнавіднасцю Тройцы на Цэнтральным Палессі (гістарычная Піншчына) з'яўляецца свята Куста, зафіксаванае яшчэ ў першай палавіне XIX стагоддзя. Яно адбывалася так: самую прыгожую дзяўчыну выбіралі на ролю Куста, ішлі ў лес і апраналі "яе з ног да галавы ў зелень". Было ўражанне, што рухаецца куст. З ім (Кустом) вярталіся ў вёску, наладжвалі ўрачыстае шэсце па вуліцы з песнямі, у якіх ухваляўся куст і "дзявоцкае войска". Там паміж удзельнікамі свята і гаспадарамі дома адбываўся традыцыйны дыялог: "Ці дазволіце спяваці Куста?" — "Яшчэ не выпрэла капуста" і г. д. Атрымаўшы дазвол, "прыпявалначкі" песняй віталі гаспадароў і прасілі ўзнагароду за тое, што "прывялі Куст":

Ой, дзень добры, да наш пане, да хаты,
Ой, ці ж вяліш нашаму Кусту стаці,
Бочку мядочку прыпявалначкам даці,
Нам, маладзенькім, на ганачку стаці.

У большасці песень гучыць просьба "куст падарыці — піці-есці даці", яму патрэбны "крынічная вада", "піражкі ў масле", "панчошкі, чаравічкі", "па залатому".

Старажытную аснову куставых песень складае імкненне выклікаць рост раслін ("дзе Куста ходзіць, там жытачка родзіць"), паўплываць магіяй слова не толькі на ўрадлівасць нівы, але і на лёс чалавека, яго асабістае шчасце і добрую волю.

Вось некаторыя, найбольш цікавыя апісанні Куста.

...На другі дзень Тройцы збіраюцца дзяўчаты з усёй вёскі, выбіраюць самую маладую і прыгожую са свайго гурта і надзяваюць на яе ўбранне, сплеценае з маладых бярозавых і кляновых галінак з лісцем. Прыбраная такім чынам атрымоўвае назву "Куст". Дзяўчаты становяцца парамі па ўзросце: старэйшыя ідуць наперадзе, пасля маладзейшыя і нарэшце — дзеці. У такім парадку з Кустом наперадзе абыходзяць хаты і вёскі. Свята гэта выключна дзявоцкае — рэдка ў ім прымаюць удзел замужнія жанчыны ці

маладзіцы. У гэтым выпадку яны займаюць месцы ў першым радзе за Кустом. Мужчыны зусім не прымаюць удзел. Па дарозе ў двор ці да якога-небудзь гаспадара выконваюць "куставыя песні":

Да цераз сяло Багданаўскае*
Ішло войска ўсё ж дзявоцкае,
Да каманьчане не здзівіліся,
Што ў Багданаўцы нарадзілася,
Бог вам дасць, багданавачкі,
Што ў вас кусты ўсе кляновыя,
А вяночкі ўсё ж пярловыя,
А ў нас кусты ўсё лазовыя,
А вяночкі ўсё ж бярозавыя.

У двары ў гаспадара:

Ой, мы былі ў вялікаму лесе,
Звілі Куста з зялёнага клёну.
Ды й прывялі Куста да слаўнага двору.
Выйдзі ж, пане, з новага пакою.
Да не тут Кусту стоем стаяці,
Трэба нашаму Кусту піці-есці даці.
Трэба нашаму Кусту з крынічкі вадзічкі,
Трэба яму, трэба панчошкі, чаравічкі.
Ой, дзень добры, наш пане, да хаты,
Ой, ці вяліш нашаму Кусту стаці,
Бочку мядочку прыпявальнічкам даці,
Нам, маладзенькім, на ганачку пагуляці.

Дачцэ гаспадара спявалі:

Каля таго да зялёнага Куста
Парасла сачавічанька густа.
А каля дуба дуброва зялёна.
Да па той дуброве Агапка хадзіла,
Да на ёй сукня ў дробненькія хванты,
Да любілі яе да багатыя паны.
На ёй сукня ў дарагія пасаманы,
Да любім яе не нарокам — папраўдзе...

Сыну гаспадара прыпявалі:

Хто ж тую сачавічаньку парве,

---

* У тэксце — назвы сёл Багданаўка, Камень Пінскага раёна, дзе водзяць Куста.



Куст з Піншчыны

Той сабе красную панну азьме.
Наш Сымонка сачавічаньку парве,
Ён сабе красную панну азьме.

У дварах і ў знаёмых Кусту звычайна даюць грошы ці што-небудзь з харчовых прыпасаў — вян-

длінy, сыр, хлеб і інш. Усё сабранае нясуць у вялікую хату і, уваходзячы, гавораць:

Вось тут Кусту есці, піці даці,
Вось тут Кусту нашаму стаці.

Тут наладжваецца вечарынка, якая працягваецца ўсю ноч...

...Куст і дзяўчаты, што яго суправаджалі, калі прыпыняліся перад домам, спявалі:

Выйдзі, выйдзі, слаўны пан, з пакою
І вялі, дзе Кусту стаці пад вішанькаю.
Вячэраці даці — піражкі ў масле,
А каля Куста ўсе дзевачкі красны.
Ухвацілі Куста з самага клёну,
Вынесь, пані, хоць па залатому.
Ухвацілі Куста з самага бэзу,
Вынесь, пані, Кусту хоць на адзежу.

Пасля кожнага двухрадкоўя вельмі часта ўслед даецца прыпеў:

Дзе Куста вадзілі,
Там пшанічанька радзіла...

А вось як выглядае Ваджэнне куста ў нашы дні.

...На другі дзень Тройцы збіраюцца дзяўчаты, плятуць вянок з кляновых галінак, ускладаюць яго на самую прыгожую выбраную дзяўчыну — Кусту — і з песнямі ідуць з лесу ў вёску:

На другі дзень Тройцы,
Пасля сёмай нядзелі,
Да сплялі вяночка
Для маладой дзяўчыны.
Мы ўплялі ў вяночак
Зяляненькага клёну,
Павядземо Кустку
Да па сялу Лабецкаму *.
Ой, да па сялу Лабецкаму,
Да йшла Куста да ўся жаноцкая.
Да ніхто ж тую Кусту не б'е, не карае,
Да кожны той Кусцы да здароўя жадае.

---

* Сяло Любча Лунінецкага раёна.

Калі прыйшлі да хаты, спявалі песню "Прывялі мы Кусту з зеляненькага клёну". Звычайна Кусту прымаюць усе гаспадары, бо лічылася, што "калі каго Куста мінае, то той гаспадар у тым годзе ўраджаю не мае". Калі ж не прымалі, жартоўна праклёналі: "Каб усё жыццё жаніліся ды з торбаю валачыліся..."

Наступны тыдзень пасля Сёмухі меў назву русальнага, праваднога, гранога тыдня — дні праводзін вясны. Як і на Сёмуху, у цэнтры свята — расліннасць і ўшанаванне продкаў, якія цяпер звязаны з вобразам Русалкі. Апошні прайшоў шлях трансфармацыі ад увасаблення ўрадлівасці ("тоўстая баба стаіць у жыце") да хрысціянізаванага ўяўлення аб заўчасна памерлых няхрышчанымі дзецях і дзяўчатах. Пры гэтым вобраз Русалкі больш, чым які-небудзь іншы, супярэчлівы: яна можа спрыяць ураджаю, імкнецца вярнуцца да людзей, а можа быць і ўвасабленнем варожых людзям, асабліва хлопцам і дзяўчатам, сіл.

Галоўны момант русальнага тыдня — Провады русалкі. Апошняй магла быць пераапранутая дзяўчына. На русалку выбіраюць дзеўку маторную. Косы ёй распусцяць, адзежу здымуць, на плечы толькі андарак накінуць. І плятуць вянок з васількоў, хмелю, зорачак. Вянок вялікі. Плесці абавязкова павінны ўсе. Надзенуць русалцы вянок і вядуць у жыта, і спяваюць, і барабаняць у дошкі, у заслонкі, і агні паляць. Прывядуць яе да поля і піхнуць у жыта; вянок здымаюць, андарак разрываюць і бягуць уцякаць. А яна, голая, за імі ў ладкі плешча.

Калі параўнаць гэты рытуал з абрадамі выклікання дажджу, выгнання хвароб-эпідэмій, абворвання вёскі ад халеры, чумы распранутымі дагала ўдовамі і сіротамі з распушчанымі валасамі, то стане зразумелым ахоўна-магічны сэнс Провадаў русалкі, бо ва ўсіх гэтых выпадках таксама барабаняць у заслонкі, дошкі, паляць агні, робяць як мага больш шуму, пляскаюць у далоні.

Правёўшы русалку ў жыта, дзяўчаты вярталіся на месца, дзе плялі вянкі і апошні раз пелі "вясну", вадзілі карагоды. Часцей за ўсё на ўсіх дзяўчатах былі вянкі, у якія ўпляталі жыта. Русальчын вянок звычайна плялі з хмелю.

Пасля провадаў русалкі дзяўчаты свае вянкі кідалі ў жыта або ўцякалі з імі дахаты і кідалі на добрыя

гуркі, капусту, бульбу ў свае агароды. Падышоўшы да жыта і кінуўшы свае вянкі як мага далей, дзяўчаты хутка бягуць назад у вёску, каб русалка не дагнала і не заласкатала да смерці або не зацягнула ў раку. На наступны дзень, у аўторак, кожная дзяўчына ідзе зноў да жыта, шукае там свой вянок і нясе яго на агарод. Там яна разрывае яго і абсыпае грады. Ад гэтага на капусце не бывае чарвякоў... Калі русалка ганяецца за дзяўчатамі, тыя стараюцца сарваць у яе з галавы вянок. Гэтым заканчваецца роля русалкі. Пры жыце дзяўчаты паляць вогнішча і скачуць праз яго. На гэтым жа вогнішчы спальваюць і сарваны з русалкі вянок. Тут вянок выконвае тую самую ролю, што і чучала або саламяная лялька, з якімі часам праводзілі русалку.

...У гэты ж час з саломы рабілі чучала русалкі, падобнае на чалавека. Калі ўсе вянкі надзеты і саламянае чучала гатова, беглі ў поле з русалкай наперадзе і пелі:

Правяду я русалачку да бору,
А сама вярнуся да дому.
Штоб русалачка па жыту не хадзіла
Да нашага жыцечка не ламіла.
Наша жыцечка таненька,
А ў каласочку таўсценька...

Як дабягалі да поля, усе ішлі па мяжы і, выбраўшы месца далёка ад вёскі і засеянага поля, раскладвалі вялізнае вогнішча і кідалі ў яго чучала...

Русалка-чучала з саломы, сімвал варожага чалавечаму пачатку, спальвалася на вогнішчы. А жывая русалка, убраная ў буйную зеляніну, праводзілася ў жыта, праганялася ў бор, а сарваная з яе зеляніна, прынесеная дадому, прыносіла дабрабыт хатняй гаспадарцы.

...Чучала русалкі рабілі з куля саломы — уніз калоссем, а ўверх камлём, перавязвалі чырвоным поясам, выразалі шыю, галаву, на якую надзявалі чапец, спадніцу, з дзвюх жменей саломы рабілі рукі, якія абкручвалі хусткамі. На шыю завязвалі чырвоную хустку; спераду падвязвалі чырвоны хвартух, малявалі фарбамі твар і надзявалі вянок. Пакуль не сцямнее, русалку-чучала хавалі ў каморы, а потым бралі пад рукі і вялі на ўзгорак: "Там за рукі пабяромся ў

танок, водзім, і яна ходзіць з намі, а калі сцямнее, тады павядзём яе па сялу пляцёнкай: дзве пярэднія дзеўкі стануць і паднімуць рукі, а апошняя ідзе ім пад рукі і вядзе за сабою астатніх. Тады пярэднія паднімалі рукі, а ішлі тыя, што стаялі. Русалку давадзілі да жыта і кідалі там разам з адзежай, а самі ўцякалі, каб русалка не дагнала, бо задуша. У сярэдзіне сяла спыняліся і зноў вадзілі танок. Яшчэ да таго, як вялі русалку ў жыта, спявалі "Васілька":

Ой, Васіль ты мой, Васілёчак,
Васілёчак, Васілёчак!
Бярозавы мой цвяточак,
Бярозавы мой цвяточак,
Мой цвяточак, мой цвяточак!
Часам цябе я садзіла,
Я садзіла, я садзіла!
Другім часам палівала,
Палівала, палівала!
Трэцім часам сарывала,
Сарывала, сарывала!
Сарву цвяток, саўю вянок,
Саўю вянок, саўю вянок!
Звіўшы вянок, пайду ў танок,
Пайду ў танок, пайду ў танок!
А ў тым танку мой нялюбы,
Мой нялюбы, мой нялюбы!
Мой нялюбы ў скрыпку грае,
У скрыпку грае, у скрыпку грае!
Яго скрыпка лубяная,
Лубяная, лубяная!
А смычок із лыгочак,
Із лыгочак, із лыгочак!
Яго вочкі заплюснуліcь,
Заплюснуліcь, заплюснуліcь!
Яго ножкі падламіліcь,
Падламіліcь, падламіліcь.
Яго ручкі апусціліcь,
Апусціліcь, апусціліcь.

Тройчы спявалі, а тады вялі яе ў жыта. Лічылася, што ў жыце русалка прападае, бо ўся адзежа на ёй пагана...

У песні спяваецца, што русалкі жывуць у жыце:

Павяду русалку із бору да бору,
Рана, рана, із бору да бору.
Із бору да бору, у зялёну дуброву,
У зялёну дуброву, у ядраноя жыта.
У ядраном жыці там русалцы жыці,
Рана, рана, там русалцы жыці.

Існуе мноства страшылак з русалкамі: малыя дзеці ідуць, дык за дзецьмі русалкі. "Уцякайце!" — матка кажа. А якія тыя русалкі: з чорнай галавой... валасы распушчаны і цыцкі жалезныя... баба жалезная з вялікімі цыцкамі, жыта, гарох вартуе...

Цікавыя тэксты, дзе русалкі супрацьпастаўляюцца жнейкам:

Правяду русалку, правяду,
Да й асінкаю заламлю.
Правяду русалку да бору,
А сама вярнуся дадому.
Правяду русалку ў шчыры бор,
А сама вярнуся ў таткаў двор.
Вам, русалачкі, вяночкі,
А нам, маладым, сярпочкі.
Вам, русалачкі, у зямлі спаць,
А нам, маладым, жыта жаць.

Па паданню, Васіль некалі быў малады і прыгожы хлопец, якога ў траецкі дзень русалка завабіла ў поле, заказытала і ператварыла ў кветку васілёк.

Галоўнай песняй усяго русальнага тыдня быў наступны сюжэт:

На граной нядзелі русалкі сядзелі,
Рана-ранюсенька русалкі сядзелі.
Русалкі сядзелі, на дзевак глядзелі,
Рана-ранюсенька на дзевак глядзелі.
— Дзевачкі-сястрыцы, падайце вадзіцы.
Падайце вадзіцы з глыбокай крыніцы,
Рана-ранюсенька, з глыбокай крыніцы.
З глыбокай крыніцы ды з-пад той вярбіцы,
Рана-ранюсенька, ды з-пад той вярбіцы.
Падайце вадзіцы душу прыгасціці,
Рана-ранюсенька, душу прыгасціці.
Душа прыгасціцца — жыццё вараціцца,
Рана-ранюсенька — жыццё вараціцца.
Тады будзем з вамі краскі сабіраці,

Рана-ранюсенька, краскі сабіраці.
Краскі сабіраці, песенькі спяваці,
Рана-ранюсенька, песенькі спяваці.

У наш час у Лоеўскім раёне (в. Дзімалоркі) аўтарам зафіксаваны Провады русалкі ў наступным выглядзе.

...Дзяўчаты зараней плятуць вяночкі, нясуць іх на могілкі і вешаюць на крыжы. Тут з'яўляецца русалка: расплеценыя доўгія валасы, на галаве вянок з жывых кветак, зялёнае ўбранне з галінак бярозы, асіны, пераплеценых рамонкамі і васількамі. Яе постаць здаецца фантастычнай, чароўнай, нерэальнай, таму дзяўчаты спалохана разбягаюцца, а хлопцы пачынаюць лавіць русалку. Яна спрабуе знікнуць сярод крыжоў і дрэў, але яе ўсё-такі ловяць.

Ля могілак к гэтаму моманту збіраюцца вяскоўцы. Яны чакаюць, пакуль выведуць злоўленую русалку. Калі яе прыводзяць, пачынаюць вадзіць на гары карагоды, пасля чаго русалку ўсёй вёскай вядуць у жыта. У Лоеве яе вядуць у жыта гаспадара, які падрыхтаваў квачы з дзёгцем. Русалку лавілі, прывязвалі да дрэва або слупа і абмазвалі яе ўсю дзёгцем, каб яна не таптала жыта. Часам перад гэтым вадзілі "Крывы танок" вакол дзетак, пасаджаных на насыпных горках.

Русалка, якую лавілі на могілках, выступала ўвасабленнем продкаў. Людзі адчувалі перад ёй страх. Яна хоча набыць чалавечы воблік, але людзі не разумеюць гэтага, таму спяваюць:

Правяду русалку ў лясок,
Няхай яе там з'есць воўк.

Пасля гэтага дзяўчаты з вяночкамі на галаве, пакуль жанчыны моляцца ў капліцы на могілках, водзяць вакол русалкі карагод, спяваючы:

Ах, мая русалачка, летні мой цвяточак,
Вазьмі сабе дзевачак у таночак.
А сярод тых дзевачак малады галубчык,
Малады галубчык — залаты пярсцёнак.
А друга галубка — Ганночка-малодка,
А трэці галубчык — Іван-камаловіч.
А па тым бярвеннечку тры галубкі скачуць,
Той жа першы галубок — залаты пярсцёнак,

А друга галубка — Ганночка-маладка,
А трэці галубчык — Іван-камаловіч.

Дзяўчаты бяруць русалку пад рукі, і шэсце з песнямі, музыкай, танцамі праз усю вёску накіроўваецца да рэчкі. Там дзяўчаты варожаць на знятых з крыжоў на могілках вяночках. Калі вяночкі сыйдуцца — замуж выйдзе. Тут русалку абмываюць і вядуць у жыта. Яна скідае з сябе зялёнае адзенне, якое людзі хапаюць і бягом нясуць у свае агароды і кідаюць на градкі. У гэты час спяваюць:

Правяду русалку да бора,
А сама вярнуся да двора.
Правяду русалку ў капусту,
А сама вярнуся ў хату пусту.

Хлопцы ганяюцца за русалкай па жыце, пакуль яна не ўцякае ад іх у лес. Вяскоўцы вяртаюцца ў цэнтр вёскі і доўга яшчэ спяваюць песню "Каліна-маліна", прыпеўкі, водзяць танкі "Завілі вяночак", "Крывы танок", "У агародзе Ярыца", танцуюць...

## Літаратура

*Гурманчук В.* "Куст на пляшуцкі густ"//Знамя юности. 1990. 13 июня.

*Кухаронак Т.* Сёмуха//Звязда. 1991. 24 мая.

*Хатэнка А.* Пад знакам трох стыхій//Знамя юности. 1989. 18 окт.



# КУПАЛЛЕ

У ноч з 6 на 7 ліпеня (з 23 на 24 чэрвеня па ст. ст.) у гонар летняга сонцавароту святкавалася найбольш маляўнічае, насычанае прыгожымі язычніцкімі звычаямі свята Купалле, дахрысціянская сутнасць якога засталася амаль некранутай да нашых дзён.

Купалле вядома ўсім народам Еўропы. Пачынальнік славянскай фалькларыстыкі з Беларусі З. Даленга-Хадакоўскі, які жыў на пераломе XVIII і XIX стст., сведчыў, што нашы землі палалі купальскімі вогнішчамі, а Андрэй Меер у "Апісанні Крычаўскага графства" 1786 г. адзначаў, што Купала найбольш часта ўпамінаецца ў песнях беларускіх сялян. Назва свята ў наш час справядліва звязваецца з пакланеннем даўцу жыцця прыродзе — Сонцу, увасабленнем якога былі ачышчальныя купальскія вогнішчы, ачалавечаны яшчэ ў матрыярхальным грамадстве вобраз жанчыны Купалы і нават яе дачкі. У хрысціянскай патрыярхальнай культуры ўжо з'яўляецца сын. Праўда, у вельмі позніх купальскіх забавах моладзі з'яўляецца стылізаваны вобраз Купаліша, але генетычна ён не звязаны з паходжаннем старажытных салярных уяўленняў.

"Класці, раскладваць Купалу", як гавораць у народзе, пачыналі зранку 6 чэрвеня: хлопцы запасалі паліва, збіралі па вёсцы старыя рэчы, сухое ламачча, якое засталося з Зялёных святак. Спальваннем іх на купальскім вогнішчы быццам можна было дагадзіць продкам, выклікаць іх спрыянне на Купалле.



Зборы на Купалле

Лічылася, што ў гэты час каляндарная вяршыня росквіту прыроды, бо ўжо хутка "прыдзе Пятрок — ападзе лісток". Яна вызывала і самую актыўную дзейнасць варожых чалавеку прыродных сіл: ведзьмаў, чараўнікоў, гадаў, сурокаў. Дзяды і спрыяльныя сілы прыроды, часцей за ўсё ў выглядзе "купальскіх зёлак", дапамагалі людзям пазбегнуць злой сілы:

А на Купалле, на Яна
Дзевачкі зелле капалі.
Яны капалі, а не зналі,
Да караля паслалі.
Кароль зелле не пазнаў,
Да каралевы адаслаў.
Каралева зелле пазнала
І да дзевачак адаслала:
— Гэта, дзевачкі, не зелле,
Гэта ваша вяселле.
Вы збірайце, збірайце
Да ў вяночкі звівайце.

Паказальна, што ў такіх старажытных сюжэтах дзяўчаты звяртаюцца з пытаннем, у адпаведнасці з моцнай у беларусаў традцыяй, да дзеда.

Перад Купаллем дзяўчаты і жанчыны ішлі збіраць васількі, руту, купалінку, багаткі, папарацъ, салодку і спявалі песні. Гэта павінна было перадаць збіральніцам цудадзейную купальскую сілу зёлак. Асаблівае месца тут займала "травіца брат-сястрыца", якая здзіўляла спалучэннем рознакаляровых кветачак, што і парадзіла вядомы купальскі баладны сюжэт:

А на Йвана Купала
Праявілась праява.
Праявілась праява —
Сястра з братам прапала.
А брахнейка жоўценькі,
А сястрыца сіненька,
Затым яна сіненька,
Што плакала сільненька.
А брахнейка жоўценькі,
А ён плакаў моўчанькі.
— А Бог мяне мілаваў,
Што сястру не абдымаў.
Расчынілася нова клець,
Брат з сястрою з клеці йдзець.
— Пойдзем, сястра, у лясок,
Мы скінемся травою.
А на Йвана Купала
Будуць яны краскі рваць,
У вяночкі завіваць.
У вяночкі завіваць,
Сястру з братам памінаць.

Першым рытуалам Купалля было ўрачыстае песеннае запрашэнне на свята:

Хадзіў чыжык па вуліцы,
Рана-рана, па вуліцы.
Прасіў дзевак на Купалле,
Рана-рана, на Купалле.
Вам, дзеванькі, свая воля,
Я маманькі не баюся,
Рана-рана, не баюся.
Я бацэньку пакланюся,
Рана, рана, пакланюся.
Сама пайду на Купалле,
Рана, рана, на Купалле.

З гэтымі і іншымі песнямі і карагодамі абыходзілі хаты, запрашаючы на свята:

Купала Яна на вулку звала.
— Хадзі, Яначка, хадзі на вулку,
Скрыпачкі йграюць, дзевачкі пяюць.
Дзевачкі пяюць, Яначку чакаюць,
Хадзіў Йван па вуліцы,
Маніў дзевак на Купалле.
— Хадзіце, дзевачкі, на вуліцу,
Будзем пеці і гуляці,
Будзем агонь раскладаці.

Вірлівасць, жыццесцвярджальнае буйства свята ў запрашальных песнях перадаецца гіпербалай:

Сёння Купала, а заўтра Ян,
Да зайграй, сонейка, зайграй нам.
Каб зялёныя лугі шумелі,
Каб сырая зямля стагнала,
Да й ад дзявоцкага гуляння,
Да й ад жаноцкага спявання.

Самая цікавая частка запрашэння — звычай адорвання купальнікаў — вестуноў Сонца, якому і прызначаліся ахвяры.

Вечар добры, наша пані,
А ці прымеш нас з купаллей?
Калі прымеш — пакажыся,
А не прымеш — адкажыся.
На вуліцу выхадзі,
Купальнічку падары.
А ці сала кусочак,
Ці яечак пяточак,
Ці піражка скарынку,
Ці цыбулі пярынку.

У час абыходу купальнікі кідалі вянкі на стрэхі хат нежанатых хлопцаў і незамужніх дзяўчат (каб тыя хутчэй ажаніліся, выйшлі замуж).

З музыкай, карагодамі, танцамі, скокамі купальскі гурт на чале з Купалай выходзіў з сяла пад песню:

Йшла Купала сялом, сялом,
Закрыўшы вочкі пяром, пяром.
На Йвана Купала, на Йвана Купала.



Купальскія гульні

Вітала хлопцаў чалом, чалом,
Свяціла ночкі агнём, агнём.
Пляла вяночкі шаўком, шаўком,
Славу Купалу пяём, пяём.

Купальская грамада прыходзіла да высокага месца ля рэчкі ці возера, куды ўжо загадзя хлопцы сцягнулі для вогнішча галлё. Пачыналася здабыванне "жывога" агню — трэннем дрэва аб дрэва: "Сягоння ў нас Купала, сам Бог агонь расклаў". Тут меўся на ўвазе Пярун, аб чым сведчаць песні "Пажарам дуб'я гарэла", "Гарэла дуброва, гарэла" і тое, што ў купальскае вогнішча рытуальна кідалі дровы з дуба — сімвала Перуна. Затым вакол вогнішча вадзілі колавыя карагоды ў гонар сонца:

Ой, рана, рана, ой, рана на Йвана,
Выйшлі дзеўкі на луг, ой, ды сталі ў круг.
Ой, рана, рана, ой, рана на Йвана,
Выйшлі хлопцы на луг, ой, ды сталі ўсе ў круг.
Ой, рана, рана, ой, рана на Йвана,
Распалілі касцёр ды гулялі да зор.

Усю ноч ля купальскага агню гучалі песні, ладзіліся карагоды, гульні. Хлопцы і дзяўчаты скакалі праз вогнішча паасобку, накрыж і парамі, купаліся ў вадзе, каб ачысціцца і засцерагчыся ад злых сіл, спальвалі іх антрапаморфную выяву — ведзьму. У гонар жыццядайнага сонца на высокіх шастах або спускаючы з гары падпальвалі прасмаленае кола. Ля вогнішча частаваліся абрадавымі стравамі (абавязкова яешняй), варажылі, плялі вянкі:

Купалачка, дзе твая дачка?
Каліна!*
Мая дочка ў садочку
Руту поле, ружу рве.
Краскі шчыпле, вянкі ўе,
Вянкі ўе, на сябе кладзе.

Са словамі "Ляці, ляці, вяночак, лаві, лаві, дружочак" кідалі на ваду вянкі (часам без рук, махам галавы, стоячы спінай да вады) і варажылі па іх руху:

— Ой, Купала, дзе ты сёння начавала?
— Я начавала пад першым снапочкам.
У Йвана на полі, і на лужочку,
І каля рэчкі на беражочку.
— Ой, за кім жа ты, Купала, наглядала?
Ой, што й ты, Купала, дый чувала?
— Я, Купала, за дзевачкамі наглядала,
Што рабілі, што казалі дзевачкі — усё чула.
Ой, дзевачкі ўвесь лужочак істапталі,
Маладзенькія ўсе кветачкі парвалі,
Усе кветачкі ў вяночкі пасплятаалі,
І кожная па два вяночкі ў быструю рэчку пускала.
Адзін вяночак загадваўся на дзяўчынку,
А другі — на яе судзьбінку,
Калі вяночкі побач плылі,
Плылі ды й сплываліся,
Дык дзевачкі тыя пелі, радаваліся.
Калі вяночкі плылі,
Плылі ды й парознь пайшлі,
Дзяўчынка тая сумавалася.

Часам вянкі кідалі праз вогнішча. Калі ён пападаў

---

* Спяваецца пасля кожнага радка.



«Купальская ноч» у фальклорным тэатры «Жалейка» з Гомеля

да дзяўчыны, тая кідала яго назад у адказ на гэта сімвалічнае запрашэнне разам пераскочыць праз агонь. Калі вянок пападзе да хлопца, ён павінен яго разарваць або кінуць назад.

Пасля парных скокаў праз вогнішча дзяўчаты і хлопцы парамі ішлі шукаць папараць-кветку, якая быццам бы расцвітае апоўначы адзін раз за год і вяртае чалавека да адзінства з прыродай: уладальнік кветкі пачынаў разумець шум дрэў, размову жывёл, птушак.

У адным з купальскіх паданняў расказваецца пра хлопца, які выпадкова зачапіў на Купалле лапцем папараць-кветку і здзівіў усіх хатніх сваёй празорлівасцю, бо стаў разумець мову прыроды. Але, як толькі ён разуўся, дзівосныя здольнасці зніклі. Здзіўленыя людзі пачалі аглядаць лапаць, а адзін з іх схапіў кветку і ўцёк.

Па народных уяўленнях, папараць-кветка зацвітае на адно імгненне, пялёсткі яе гараць як агеньчыкі. Стаць уладаром яе вельмі цяжка, бо варожыя сілы ўвесь час ладзяць на шляху шукальнікаў кветкі шчасця непераадольныя выпрабаванні. Часцей за ўсё

смяльчак гіне. Але без усякіх цяжкасцяў збірае гэтыя кветкі добры купальскі дзядок, кошык яго з кветкамі гарыць як жар. Калі раптам сустрэнешся з ім, трэба паслаць белы абрус, куды ён кіне кветку. Як мага хутчэй трэба схаваць яе пад скуру рукі, разрэзаўшы далонь.

Купальскія парныя паходы ў лес, шматлікія таямнічыя абрадавыя дзеянні, атмасфера разгульнай весялосці адлюстраваліся ўжо ў старажытнай "Аповесці мінулых гадоў" як бясоўскія ігрышчы паміж родамі, дзе "выкрадалі сабе жонак па дамоўленасці з імі".

Заканчвалася купальскае свята ля ракі. Удзельнікі назіралі за "ігрой сонца" на паверхні вады: яно дзялілася на некалькі частак, якія то разыходзіліся, то сыходзіліся на вадзе. За гэтым трэба было назіраць або прыжмурыўшы вочы, або не маргаючы. Пры гэтым спявалі:

А на Купалу
Рана сонца йграла.
Рана сонца йграла
На добрыя годы,
На цёплыя росы,
На хлябы-ўраджаі.

Пад песню хлопцы запальвалі кола і пускалі плыт па рацэ. Дзяўчаты раскідвалі кветкі і вянкі.

Вось некаторыя цікавыя назіранні-апісанні асобных момантаў Купалля.

...У абраным месцы ўбіваюць вялікі кол у зямлю, абкладаюць яго саломай і канаплянай кастрыцай, а наверсе прывязваюць пук саломы. І гэты стог называецца "Купала". Калі змяркаецца, запальваюць яго, і зараз жа прыбягае мноства прыбраных сялян і сялянак з бярозавымі дрэўкамі ў руках, якія кідаюць на "Купалу", прыгаворваючы: "Каб мой лён быў такі вялікі, як гэтая хварасціна". Некаторыя, перад тым як кінуць бярозку, тры разы абягаюць з ёю "Купалу"...

...У адным старадаўнім безыменным рукапісе знаходзіцца наступнае апісанне Купалы: "Пяты бог Купала, пад якім разумелі бога ўраджаю. Ахвяры яму прыносілі на пачатку жніва. У некаторых месцах яму і цяпер аддаюць даніну памяці перад днём Івана Прадцечы наступным чынам. Вечарам хлопцы і

дзяўчаты плятуць вянкі з розных кветак, якія кладуць сабе на галовы, і апаясваюцца імі. Раскладваюць агонь, скачуць вакол і спяваюць песні, у якіх часта ўспамінаюць Купалу, а потым скокамі праз агонь прыносяць сябе яму ў ахвяру..."

...Гавораць, што ноччу на Купалу душы памерлых (русалак) прачынаюцца ад доўгага сну і купаюцца. Пасля, калі ўзыдзе сонца, яны быццам сушацца пры яго цяпле і святле. Калі сонца нібы ў тумане, то русалкі, значыць, закрылі яго. Раніцою ў дзень Івана Купалы звычайна, на думку народа, "йграе сонца". Гавораць, што яно раздзяляецца на шматлікія рознакаляровыя кругі, якія то сыходзяцца, то разыходзяцца, ствараючы пры гэтым цудоўную гульню колераў. Каб убачыць падобную з'яву, дзеці ўстаюць па магчымасці раней...

...З асвячонай зелені ўюць вянкі і захоўваюць іх як сродак супраць нашэсця злой сілы. Лічыцца, што ў гэты дзень здзяйсняецца якісьці пераварот у свеце, цяпер быццам ходзяць па зямлі ведзьмы, духі. Дрэвы, звяры і наогул усё жывое нібы вядуць паміж сабою гаворку...

...Дзяўчаты ў вянках з кветак і жытніх каласоў станавіліся ўперамежку з хлопцамі, ствараючы карагод, і спявалі песню, у якой усхвалялі вартасці адных хлопцаў і высмейвалі недахопы другіх. Затым з карагода выходзіла дзяўчына і закрывала сабе твар "чубром" — пакрывалам з палатна пад словы:

Ішла Купала сялом, сялом,
Закрыўшы вочкі чубром, чубром,
Давала хлопцам чалом, чалом.

Яна кланялася ва ўсе бакі і выбірала да пары хлопца, які здымаў з купальніцы покрыў і павязваў сабе цераз плячо або рукаў. Удзельнікі карагода спявалі:

Малада Ганулька журылася,
Што яе дары не прадзены,
Хоць прадзены, не снованы,
Хоць снованы, дык не тканы,
А хоць тканы — не белены...

Купалле — унікальнае свята, якое вельмі цяжка перанесці ў памяшканне ці на сцэну. Нам вядомы

толькі два больш-менш мастацкія перанясенні Купалля з натуральнага асяроддзя ў прыродных умовах: фальклорным калектывам в. Крулеўшчызна Докшыцкага раёна і гуртом "Валачобнікі" Беларускага універсітэта культуры.

Улічваючы, што свята прыпадае на час летніх канікул у школе, яго лепш ладзіць у летніках, дзе, дарэчы, вельмі спрыяльныя ўмовы для гэтага свята. Яго можна правесці па наступнаму плану:

— віншавальна-запрашальны абыход будынкаў летніка;

— карнавалізаванае шэсце ўдзельнікаў свята ў нацыянальных строях з прыбранай Купалай — прыгожай дзяўчынкай, у вяночках, падперазаных зялёнымі паясамі, з музыкамі, да месца свята на высокім беразе ракі, возера, з факеламі з бяросты;

— урачыстае падпальванне вогнішча, пачастункі, скокі праз вогнішча, падпальванне вогненнага кола, факельныя шэсці, карагоды, выпісванне кругавых вогненных знакаў сонца, факельныя гульні, паходы моладзі ў лес, купанне ў вадзе, ваджэнне русалак, русальныя гульні і г. д. (адпаведна мясцовай традыцыі і з улікам здольнасцяў удзельнікаў свята);

— варажба на вяночках ля вады;

— тэатралізаваныя прадстаўленні з ведзьмамі, пачварамі, ліхам, змеем, злой сілай і перамога над імі, спальванне адпаведных чучалаў;

— шэсце да ракі, сустрэча сонца,назіранні за яго ігрой і песеннае заканчэнне свята.

Святкаванне Купалля як прыгажэйшага свята летняй пары нам трэба адрадзіць, зберагчы і, святкуючы, трымацца ўсіх самабытных звычаяў. Яно лёгка, радасна ўспрымаецца дзецьмі, развівае іх творча, умацоўвае фізічна. Купалле павінна стаць святам мастацтва, паэзіі, стымуляваць музычнае развіццё дзяцей. Асаблівай увагі патрабуе арганічнае засваенне купальнай мастацкай традыцыі і складанейшай для дзяцей яе песеннай мелодыкі.

Добра будзе, калі ў гэтую ноч дзеці будуць імправізаваць, спяваць, іграць, скакаць, вадзіць карагоды, плесці вянкі, фантазіраваць, марыць ля купальскіх вогнішчаў, выпісваць таямнічыя салярныя знакі палаючай на кійку бяростай, пераапранацца ведзьмамі,

купалкамі, русалкамі, рабіць маскі змей, жаб, пачвар, чарцей, лесавікоў, вадзянікоў.

Няхай Купалле будзе прыгожым напамінам, што сонейка, святло заўсёды перасільвае цемру ночы, і ў гэтым дзеці будуць чэрпаць веру ў лепшую будучыню беларускага народа.

## Літаратура


*Адамовіч Я.* Тураўскае Купалле//Тэатральная Беларусь. 1992. № 6.

*Аляхновіч А. М. Гуд П. А.* Ой, рана на Йвана. Метадычны дапаможнік па правядзенню Купалля (з дадаткам "Купальскія песні"). Мн., 1991.

*Барыс С.* Сёння Купала, заўтра Ян//Беларуская мова і літаратура ў школе. 1989. № 6.

*Бяссонаў П.* Купала. (Падр. А. Лозка)//Беларусь. 1990. № 6.

*Васілевіч У.* Дзе ты, чароўная папараць-кветка? //Настаўн. газ. 1991. 6 ліп.

*Васілевіч І.* Купала Йвана на вулку звала//Пралеска. 1992. № 5.

*Васілевіч І.* Купалле//Салон. 1991. № 6.

*Гамзовіч Р., Грыц С.* У цёмную ночку купальскую //Нар. газ. 1991. 9 ліп.

*Гордиенко П.* Ой, рана на Йвана//Веч. Минск. 1991. 9 июля.

*Гуринович И.* Чудесная сказка//Сов. Белоруссия. 1991. 6 июля.

*Каляда Г.* Пахаванне стралы. Купалле//Зрок. 1992. № 5.

*Камоцкая К.* І зноў кола з гары: Купалле — працяг традыцыі//Крыніца, 1990. № 12.

*Караткоў М.* Ішла Купала сялом, сялом...//Магілёўс. праўда. 1989. 6 ліп.

*Каршукоў М.* Пахаванне стралы//Наш край. 1926. № 1.

*Крук І.* Купалле//Звязда. 1992. 4 ліп.

Купалле — нацыянальны летні карнавал//Беларуская мова і літаратура ў школе. 1989. № 5.

Купальскія і пятроўскія песні. Мн., 1985.

*Кухаронак Т.* Купалле//Звязда. 1991. 5 ліп.

*Кухаронак Т.* Купалле//Чырв. змена. 1992. 29 чэрв.—5 ліп.

*Ліс А.* Купальскія песні. Мн., 1974.

*Ліцвінка В., Раговіч У.* Песні лета//Мастацтва Беларусі. 1988. № 5.

*Лозка А.* "Страла", "Пахаванне стралы": Народныя гульні беларусаў//Беларусь. 1990. № 5.

*Майсяёнак Г.* Свята як традыцыя: (Купалле)//Чырв. змена. 1989. 22 ліп.

*Масляніцына І.* Купала і Купава: Народныя святы//Добры вечар. 1992. 2 ліп.

*Мелешко А. А.* Народнае Купалле: Новые обряды//Сел. хоз-во Белоруссии. 1984. 8.

*Міско С.* Купалле//Беларусь. 1960. № 6.

*Мялешка А. А.* Народнае Купалле: (Аб святкаванні ў Беларусі)//Ракурс. 1992. № 2.

*Паўлючук У.* На Купалу//Ніва. 1966. № 27.

*Пяткевіч А.* Часцінка паэзіі: (Купалле)//Чырв. змена. 1989. 22 ліп.

*Пятроўская Г.* Купалінка — ноч маленька...//Беларуская ніва. 1991. 6 ліп.

*Соколовская В.* От пределов испокон веков... (О празднике Купалы)//Магілёўс. праўда. 1992. 7 ліп.

*Струменскі С.* Купальскія агні//Беларуская мова і літаратура ў школе. 1990. № 5.

*Тавлай Г. В.* Белорусское купалье (Обряд. песня). Мн., 1986.

*Таўлай Г., Гамзовіч Р.* Ой, рана, на Йвана//Звязда. 1990. 6 ліп.

*Таўлай Г.* Ой, рана, рана, на Яна: (Пра беларускае нацыянальнае свята Купалле)//Беларуская мова і літаратура. 1989. № 4.

*Толочко М.* Купала ночевала в Ратогоще: (Первое официальное всебелорусское Купалье: Новогрудский р-н)//Сов. Белоруссия. 1991. 9 июля.

*Хатэнка А.* Ішла Купала сялом, сялом...//Чырв. змена. 1989. 5 ліп.

*Цыганков В.* Ой, рана, на Купалу...//Знамя юности. 1991. 9 июля.

*Шамякіна Т.* Купалле ў беларускай літаратуры//Беларуская мова і літаратура ў школе. 1989. № 7.

*Юр'еў С.* Ой, рана на Івана: (Купалле)//Добры вечар. 1991. 5 ліп.

*Якімовіч В.* Купалле ў Вязынцы//Чырв. змена. 1991. 22—28 ліп.

**Відэафільмы:** Купалле ў вёсках Крулеўшчызна Докшыцкага, Хрыса Бярозаўскага, Бездзеж Драгічынскага, Багатырская Полацкага, Запясочча Жыткавіцкага раёнаў і "Вашчылках" г. Крычава.



## ЖНІВО

Жніво ўяўляе сабой самы працяглы комплекс рытуалаў — ад святочных Зажынак да Дажынак і восеньскага Багача (па ўсёй тэрыторыі Беларусі яно магло быць ад 12 ліпеня да 27 верасня). Уласна жніво хоць і не мела асобных святочных рытуалаў, але праходзіла ў святочным настроі, у строгай адпаведнасці з няпісанымі законамі і традыцыямі, сэнс якіх складала святасць хоць і знясільваючай, але самай важнай у земляробчым календары жніўнай працы.

Жніўныя абрады складалі аснову самай цяжкай працоўнай дзеі, падчас якой з гонарам выстаяць дапамагала радаснае ўсведамленне, што здабываецца, "творыцца" хлеб, каравай — сімвал жыцця, аснова дабрабыту, паказчык багацця, заможнасці, гаспадарлівасці. Хлеб вызначаў у беларусаў сацыяльнае становішча, быў меркай чалавечай годнасці, таму абрад Жніва і ёсць, як вяселле ў сямейнай абраднасці, вяршыня святочнага земляробчага календара.

Жніво, як галоўнае земляробчае свята, псіхалагічная падрыхтоўка да яго як кульмінацыі ўсёй святочнай каляндарнай культуры, пранізвае ўсю гадавую абраднасць, пачынаючы з Зімовых святак. Ужо на посную перадкалядную куццю гаспадыня пытала за сталом гаспадара: "Ці бачыш ты мяне?" — "Не!" — "Каб жа так не бачыў летам за збажыной!" У магіі першага дня новага года на Васілле, 14 студзеня, галоўным было "засяванне хаты", абсыпанне дзецьмі гаспадароў зернем.

Веснавыя святы Вялікадня, Юр'я, Міколы, поўныя клопатаў аб сяўбе, росце збажыны, суправаджаюцца абходамі жытнёвага поля. "Да неба цягнулі каласы за валасы" — магічна выклікалі карагодамі на ўзмежку жытняга поля рост маладой руні на Ушэсце. Вельмі многа рытуалаў ахоўнай магіі ад варожых ураджаю стыхій у час Зялёных святак ("каб ведзьмы заломаў у жыце не рабілі").

Вядомы на Беларусі незвычайны пераджніўны рытуал "пакрыцця поля". У адрозненне ад будучых восеньскіх Пакроваў, якія мелі сэнс "закрывання поля" на зіму, гэта было своеасаблівае "апладненне зямлі", аб чым спявалі:

Пакрыла ніўку
На добрую спажыўку!
Зарадзі, божа,
Наша збожжа,
Збор жытка, збор!

Дзівам для нашага часу было бачыць у 1985 годзе ў натуральным асяроддзі рытуал "пакрыцця поля" ў час ахоўнага абраду Пахавання стралы (здымак гл. у часопісе "Мастацтва Беларусі". 1987. № 5).

Непасрэдна перад жнівом гаспадар апошні раз аглядаў поле. Адбываўся рытуал "пакрыцця поля", зафіксаваны яшчэ ў сярэдзіне XIX стагоддзя Паўлам Шпілеўскім і многімі наступнымі збіральнікамі фальклору.

Зранку на Зажынкі новы член сям'і — маладзіца, што нядаўна выйшла замуж, з дзяўчатамі нажыналі першы сноп, абвязвалі яго наміткай, якой пакрывалі маладую на вяселлі, падкідвалі ўгору, вадзілі вакол карагод і спявалі:

Пашлі, Божа, многа збожжа,
Крыта поле, крыта!
Нарадзі хлеба пры дарозе,
Што б было ўсім гожа
І не пуста на кожным возе.

Пасля гэтага зажынальніцы з песняй "Каб колас закаласіўся, поўным наліўся" адпраўляліся да гаспадара, поле якога "пакрылі", з прыпевамі:

Крыта, крыта!
Поўна, сыта!
Божа, памажы,
Хлеба ўрадзі.

Перад Зажынкамі чыста мылі падлогу, бялілі печ, засцілалі на стол чысты абрус. Члены сям'і апраналіся ў вышытае васількамі, выбеленае палатнянае адзенне, якое добра ўбірала пот на жніве і ў якім не брала прастуда ад ранішняй і вячэрняй прахалоды.

Пачыналі Зажынкі часцей надвячоркам. Гаспадыня з дочкамі ішлі на поле і віталіся з ім, як з жывой істотай: "Добры дзень, ніўка, ядранoе жыта!" Першай зжатай жменяй старшая жняя падпяразвалася, потым нажыналі першы сімвалічны сноп, замаўлялі на жніво: "Дай, Божа, каб лёгка жалася! Сярэдзіна не балела, ручанькі не млелі, ножанькі не дзеравянелі, галованька не гарэла!" Першы сноп часта называлі гаспадаром, яму прыпісвалі магічныя здольнасці, таму ўсяляк ушаноўвалі: вадзілі вакол карагоды, ставілі на покуць, зерне з яго замешвалі ў абрадавыя стравы, насенне, магічнае пітво. Сноп-гаспадар быў у цэнтры ўвагі зажынкавых песень:

Прасіўся снапочак у дзевачак:
— Ой, звіце, дзевачкі, вяночак,
Занясіце мяне ў стадолу,
Палажыце мяне ў старану.
Няхай я ў стадоле пагашчу,
Пакуль на ніваньку зноў пайду.
Ой, бо мне ў стадоле — гасцінна,
Ой, а на ніўцы — радзіма,
Бо мяне ў стадоле цэпам б'юць,
Ой, а на ніўцы дажджы йдуць.

На поўдні, відаць, нарадзілася прыказка: "На Пятра баба новага жыта напякла!" У гэты час маглі быць заручыны, каб потым праверыць маладую ў адпаведнасці з традыцыяй "не ў карагодзе, а ў агародзе, не ў танцы, а на ніўцы":

Пятрова ночка, ночка невялічка,
А я, дзяўчынка, да й не выспалася.
Не выспалася, не нагулялася,
З сваім міленькім не настаялася,
Не настаялася, не нагаварылася,



«А сёння ў нас зажыначкі — адзін сноп нажалі»

Пятру-Паўлу я пакланілася
Дый з міленькім сваім заручылася.

Калі кожная жняя нажынала сноп, тады першая ў гэтай справе гаварыла: "Стаў яго сноп на сто коп", а потым з песняй падносілі гаспадару сноп:

Ой, цяпер у нас зажынкі,
Прынясі нам, пане, закускі.
Ой, мы закускі не хочам,
Наймі нам музыку — паскачам.
Не шкадуй ты, пане, жарабца,
Паедзь па музыку да Верасця.
Не шкадуй ты, пане, кабылкі,
Паедзь на сяло па хлопчыкі.
Будуць музыкі іграці,
А мы, малады, гуляці.

На Зажынках, як сведчыць песня, з першага хлеба пяклі каравай:

Да й спяклі мы каравая
Для ўсяго нашага края,
Да й падымемо высако,
Да й занесемо даляко.
Да й паставімо на аўсі,

Дай жа, Божа, хлеба ўсім.
Да й паставімо на гароху
І раздзелім усім пакроху.

Найбольш папулярныя на сучасных Дажынках жніўныя і прымеркаваныя да іх вядомыя песні "Пара, маці, жыта жаці", "На балоце касец косіць", "Як паехаў мужык у поле жаці", асабліва дзве з в. Лобча Лунінецкага раёна:

Жыта ў полі, жыта ў полі
Людзі зажыналі,
Ну а маці з сваім сынам
Сціха размаўлялі.
— Жыта, сынку, жыта, сынку,
Жыта не пшаніца,
Як ту дзеўку не любіці —
Яна чараўніца.
— Жыта, маці, жыта, маці,
Жыта ў каласочкі,
Як ту дзеўку не любіці —
Ў яе чорны вочкі.
— Жыта, сынку, жыта, сынку,
Жыта трэба жаці,
Калі дзеўку верна любіш,
То хадзема ў сваты.

* * *

Ой, зялёна жыта, зялёна,
Харошыя госці ў мяне,
Зялёнае жыта й асока,
Прыехалі госці здалёка.
Ой, зялёна жыта, зялёна,
Харошыя госці ў мяне.
Зялёнае жыта ці авёс,
Харошыя госці — род увесь.
Ой, зялёна жыта, зялёна,
Харошыя госці ў мяне,
Зялёнае жыта за сялом,
Харошыя жнейкі за сталом.

На бяседзе пасля Зажынак спявалі многа іншых жартоўных песень, прыпевак, але разыходзіліся рана (бо трэба было на досвітку ісці на сапраўднае жніво)

са словамі: "Добра працаваць усім жадаем, з новым хлебам усіх віншуем, каб у добрую пару жніво пачаці і ў добрае надвор'е закончыць!"

У адрозненне ад больш вясёлых зажынкавых, бяседных, песні, якія спяваліся ў час жніва, — працяжныя, нават вельмі працяжныя варыяцыі, якія пад сілу толькі самаму дасканаламу музычнаму інструменту — чалавечаму голасу. Недапушчальна выконваць іх у суправаджэнні музычных інструментаў, спрашчаць меладыйныя ўпрыгожанні-пералівы, скарачаць тэксты.

Жніўныя працоўныя, сямейныя, баладныя сюжэты добра зрабіць галоўнай часткай абрадаў, аднаўляемых у жыцці ці пераносімых на сцэну, у школу, садок. Першыя з іх спявалі часцей за ўсё па дарозе на поле, калі палуднавалі:

Палуднічкі загудзелі,
Палуднаваць захацелі:
— Хоць гудзеце, не гудзеце,
Палуднаваць не будзеце,
Наша пані маладая
Няхай жа нам спагадае,
Палуднаваць прысылае:
Бочку квасу аржанога,
Булку хлеба пшанічнага.
— Сядзіце, жнейкі, у халадочку,
Піце квасу па кубачку,
Ешце хлеба па кусочку.
Піце квас, не выпівайце,
Майму пану пакідайце.
Бо мой пан у дарозе,
Дапамажы яму, Божа!

Многа песень спявалі па дарозе з поля: "Ой, пара дамоў, пара", "А ў нашага пана", "Сонейка нізенька, вечарок блізенька", "А калі вечар павечарзя", "Ой, я з поля цяку, бягу". Найбольш папулярная з іх вядомая ў бясконцай колькасці варыянтаў з выдатнай мелодыяй:

Як пайду я дарогаю,
Пушчу голас дуброваю.
А хто ж мой голас пачуе,
Той жа мяне пашкадуе.



«Ой, у лесе на арэсе там цяцерка кубло віла», — спявае Лідзія Бабрыкевіч з в. Моталь Іванаўскага р-на

Зачуў голас мой татулька:
— То маё дзіця пяець,
Дзіця пяець — поле красіць,
Нявестачка людзей весяліць.
Дзіця пяець — як звон звініць,
Нявестачка, як гром грыміць.

У некаторых з іх пачынаюць гучаць дажынкавыя, нават восеньскія, матывы, як, напрыклад, у наступным запісе Р. Шырмы:

Ой, пара нам дамоў, пара,
Сцюдзёная раса пала,
Цёмная ночка настала.
А ў нас няма параднічка,
Ні пана, ні ўраднічка,
Некаму рады радзіці,
Нас дамоў адпусціці.
Дадзім пану паўбарана.

Можа, пусце дамоў рана.
Бадай яго з нашым панам:
З'еў нашага паўбарана,
Бадай пана разарвала,
Не пусціў нас дамоў рана.
Вяліць прыйсці світаючы,
А пушчае змяркаючы.

Выдатная іронія гучыць у вельмі папулярнай жніўнай песні "А я ў полі жыта жала". Па колькасці дзівосных казачна-легендарных сюжэтаў жніўныя песні не ўступаюць купальскім: "Ваўкі або крукі шкуматаюць забытае жняёй на полі дзіця", "Мядзведзь калыша дзіця", "Браты-лебедзі жняі", "Жняя ператвараецца ў зязюлю" і шматлікія іншыя.

Найбольш песень усё ж звязана з заканчэннем Жніва (Дажынкі, Дажон, жніўная талака), на якое клікалі родзічаў, суседзяў, сяброў. У кутку апошняга загона завівалі казлу бараду, якая "спелым шоўкам наліта", — аддавалі належнае казлападобнай істоце (па старажытных уяўленнях, добраму духу ніўкі, поля), каб яна дала ўраджай і на другі год. Рабілі гэта так: унутры нязжатай лапінкі поля клалі хлеб і соль, а над імі звязвалі жытнія каласы. Відавочна сувязь гэтага абраду і з веснавым пінскім Кустом, бо дзенідзе "бараду" называлі "кустом". Таму, відаць, у куставой песні спяваецца: "Каля куста сачавічанька густа".

Спятую сярпом "бараду" клалі на дажынках у апошні абагаўляемы сноп, а на галаву старшай жнейкі надзявалі вянок з каласоў гэтай "барады", вадзілі вакол гаспадара карагод і спявалі:

Чыя ж гэта барада
Мёдам-квасам абліта,
Чорным шоўкам ушыта?
Рана! Рана!
Сцяпанава барада
Мёдам-квасам абліта,
Чорным шоўкам ушыта.
Рана! Рана!

Скупому гаспадару спявалі: "Смалой, дзёгцем абліта, дратваю ўшыта!"

Пасля завівання "барады" жнейкі качаліся па полі з просьбамі: "Ніўка, ніўка, аддай маю сілку. На ко-

ніка лой, на ніўку гной, а мне здароўя. Дай, Божа, другое лета дажджаці, гусцейшае, каранейшае жыта жаці!" Бывала, што на ніве або ў двары гаспадара купалі ў цэбры з вадою (магія ачышчэння вадой і вызывання дажджу на наступную сяўбу).

Апошні сноп яшчэ больш урачыста, чым першы, бо самая цяжкая праца скончана, вялікай талакой з песнямі, карагодамі, танцамі, музыкай прыносілі ў двор гаспадара. Па дарозе спявалі песні Райка і Спарыша — сімвалаў дабрабыту, новага ўраджаю, увасабленняў самой жніўнай дзеі і гурта жнеек-спявачак:

Ай, хадзіў Спарыш
З канца вуліцы ў канец,
Ай, ніхто Спарыша
Ды ў хату не завець.
Адазвалася гаспадыня,
Васілёва жана:
— Хадзі ж ты, Спарыш,
Ай у хату да мяне!
Сядзь жа, Спарыш,
За кляновым сталом.
За зялёным пітвом.
Спары жа мне, Спарыш,
І ў полі, і ў доме,
І ў гумне, і ў двары,
І ў пячы, і ў клеці,
І ў клеці карабом,
І ў пячы пірагом.

Толькі на вяселлі і на дажынках сустракаецца выдатная песенная метафара:

А ў нас сёння вайна была,
А мы ўсё поле забаявалі.
А мы ўсё поле забаявалі,
Усё жыта пазжыналі.
Пазмяталі мяцёлкамі,
Пазвозілі шасцёркамі.
Песенькамі загудзелі,
Вячэраці захацелі.

Найбольш рада была дажынкам гаспадынька:

Рада, рада, перапёлка,
Што лета дажлала.



Танец-тройка «Як я быў малы»

Радзей таго наша гаспадынька,
Што жыта даждала.

Абрады жніва добра захаваліся на ўсёй Беларусі, маюць дастаткова блізкія тыповыя напевы, якія не зблытаеш ні з якімі іншымі.



Ёсць хлеб — будуць і песні

"Калі я быў малы, — гаварыў Рыгор Шырма, — лета мне ўяўлялася вясёлкава-рэхавай, радаснай парой з мажорнымі мелодыямі і скокавымі рытмамі. І толькі калі пасталеў, адчуў усю спякотную працяжнасць, якая закладзена ў мелодыях гарачага лета. Зразумелымі сталі словы геніяльнага Мечыслава Карловіча, што ў сваю "Літоўскую рапсодыю" ён уклаў усю тугу жніўных песень беларусаў, якія чуў у дзяцінстве на Дзісеншчыне".

Так выдатны фалькларыст-збіральнік, якому "пашанцавала з дзяцінства купацца ў народных мелодыях", адзначыў мастацка-вызначальную рысу абрадаў жніва ў беларусаў — незвычайнае меладычнае багацце "спякотных мелізмаў-пераліваў" жніўных песень, блізкіх па сваёй трагедыйнай напружанасці да галашэнняў, але гімнічна ўзнёслых у сваім агульным гучанні. У гэтым у першую чаргу бачыцца галоўная эстэтычная вартасць абрадаў Жніва і іх агульнакультурнае значэнне ў выхаванні дзяцей.

На вялікі жаль, непараўнальная распеўнасць жніўных песень руйнуецца, спрашчаецца сучаснымі прымітыўнымі шлягернымі рытмамі, атакуецца сучасным інтэнсіўна-музычным наступам, які ставіць пад пагрозу само іх захаванне. Супрацьстаяць гэтаму

можна скрупулёзнай працай па фіксацыі і захаванні незлічоных варыянтаў мясцовых жніўных традыцый і музычным выхаваннем дзяцей на іх узорах.

Уключэнне "спякотных" мелодый лета ў рэпертуар, канцэрты фальклорных, у тым ліку і дзіцячых, калектываў, у выхаваўчы і навучальны працэс, выкарыстанне і развіццё складанейшай музычнай формы кампазітарамі, выкананне прафесійнымі спевакамі, збіранне і публікацыя песень фалькларыстамі, настаўнікамі, кіраўнікамі дзіцячых фальклорных калектываў складуць аснову іх захавання. Але самае галоўнае: пераняць у сапраўднай мастацкай форме мелодыку жніўных песень дзеці могуць толькі з вуснаў у вусны ад сваіх маці і бабуль.

Багатая ніва самабытнай беларускай нацыянальнай культуры звяртаецца за дапамогай да вас, шаноўныя педагогі, музыканты, выхавацелі, словамі жніўнай песні:

Гаварыла ядраное жыта,
У чыстым полі стоячы,
Гаварыла:
— Авой, не магу я ў полі стаяці,
Каласком махаці,
Ой, не магу!
Толькі магу я ў полі капамі,
У гумне стагамі,
Толькі магу.
Бо я вам ураны зраблю —
Залатыя зёрны пагублю.

## Літаратура

*Буракоўская Н.* Стаўмо сноп на сто коп //Настаўн. газ. 1991. 28 жн.

*Васілевіч У.* "Летні дзень зіму корміць" // Мастацтва Беларусі. 1989. № 5.

*Думбо А.* Дожинки //Сельское хозяйство Беларуси. 1969. № 7.

Жніўныя песні. Мн., 1974.

*Ліс А.* Жніўныя песні. Мн., 1993.

*Ліцьвінка В., Раговіч У.* Песні лета //Мастацтва Беларусі. 1988. № 5.

*Ліцьвінка В., Раговіч У.* Песні восені //Мастацтва Беларусі. 1988. № 9.

*Ліцьвінка В.* Гаварыла жыта яравое //Культура. 1993. 17 жн.

*Мінько Л.* Дажынкі //Беларусь, 1970. № 9.

*Чернов О.* Говорило поле широкое //Сов. Бел. 1982. 7 авг.

**Відэафільмы:** Жніво ў в. Мыслабаж Ляхавіцкага раёна; Жніво ў в. Крупец Гомельскага раёна; Жніво ў в.в. Дуброва, Букча Лельчыцкага раёна; Дажынкі ў в. Хабовічы Кобрынскага раёна; Жніўная талака ў в.в. Лаўніца і Хаўхоліца Барысаўскага раёна.



## ЖАНІЦЬБА КОМІНА

Гэта цікавае рэгіянальнае свята, дзе чуецца водгук хрысціянізаванай сустрэчы Новага года восенню. У дапятроўскую эпоху па праваслаўным календары адзначалася з 13 на 14 верасня.

Па-першае, па грыгарыянскім календары гэта было свята Узвіжанне — "закрыванне, замыканне" зямлі на зіму: "На Узвіжанне світку з плеч, а кажух на плечы". "Узвіжанне з поля збірае". "На Узвіжання пару гадзюкі, вужакі хаваюцца ў нару".

Па-другое, гэта было свята Стаўпца — сакральнага месца захоўвання агню ля прыпечка, які даў назву, у адрозненне ад каравайнага паўднёвага, вясельнаму паўночнаму стаўпавому чыну. На гэтую назву наслаілася імя святога Сымона. У сувязі з гэтым гаварылі: "Святы Сымон — сявец дамоў", "У Сымонаў дзень да абеду ары, а пасля абеду аратага з поля гані". Да гэтага дня прымеркавана і прыкмета: "Калі першы засевак рабіць напярэдадні Сымона Стоўпніка, то яно дасць добрую салому, але ж не будзе каласістым".

Прыказкі "Сымон да варот, на дварэ сем пагод; круціць, муціць, зверху л'е, знізу мяце", "На Сымона ластаўкі хаваюцца ў ваду, ляцяць у вырай" сведчаць, што дзень быў першым восеньскім святам. Аб тым, што на змену чорным летнім мухам хутка прыляцяць зімовыя белыя, тэатралізавана сведчыць абрад пароды на Жніво на ўсходзе Беларусі. Са снапа рабілі ляльку Салоху, упрыгожвалі, ставілі на стол, затым у

кут. Адклаўшы сярпы ўбок, жнеі бралі чапялу, садзіліся на яе вярхом і скакалі па хаце, гаворачы: "Чарнушнікі — вон, а бялушнікі ў хату!" Прынесенымі альховымі галінкамі выганялі з хат мух са словамі: "Святы Сымон, гані мух вон!"

З наступленнем зімовых халадоў вельмі важным у жыцці людзей становіцца агонь, які зімой замяняў само сонца, таму невыпадкова на восеньскую сустрэчу Новага года наслаіўся цікавы, нацыянальна-самабытны абрад абагаўлення агню — Жаніцьба коміна. Ён вядомы з XIX стагоддзя ў наступным апісанні.

...Амаль у кожнай хаце 1 верасня па ст. ст. на Піншчыне жэняць Коміна, гэта значыць — вялікі пячны комін, а дзе ёсць — і меншы...

Прыгатаваўшы ўсё неабходнае для вячэры, гаспадыня абвязвае комін і лучнік новымі ручнікамі, а моладзь прыбірае іх кветкамі. Стол накрываецца новым абрусам і ставіцца пры самай печы ці пад лучнікам. Як толькі на двары сцямнее, у хату збіраецца ўся сям'я.

Гаспадар кропіць адзін і другі комін і гаворыць прамову-пажаданне накшталт наступнага: "Паздароў, Божа, дзядусю, бабусю, дзядзькаў, дзетак, чаляднікаў, прыяцеляў і дабрадзеяў! Абарані худобку, конікаў, волікаў, каровак для дзетак і зарадзі хлябец, жыта, пшаніцу і ўсякую пашніцу, абарані пчолак, вынесь іх на красну вясну, прыспор мядку і воску. Дай, Божа, каб нашаму роду не было пераводу, каб рэкі цяклі навекі!"

Больш зразумелыя назвы коміна "посвет", "лучнік" — невялікая металічная рашотка, падвешаная да абмазанага глінай і пабеленага палатна ў форме трубы, якая зыходзіла ў адтуліну ў столі. Комін рабіўся пірамідальны, каб дым ад гарэўшай на лучніку лучыны не пападаў у хату.

У канцы вечара гаспадыня прапануе моладзі спець жаніху-коміну вясельную песню. Пры гэтым старэйшая дачка просіць бласлаўлення ў бацькоў ці старэйшых у сям'і і пачынае пець песню, прымеркаваную да гэтага абраду. За ёй падхопліваюць хорам усе прысутныя:

Ой, прыйшлі ночанькі доўгенькі,
Пасвяці нам, комінку беленькі,



Таленавітая спявачка з Сенніцкага р-на Матрона Крупская

Мы ж цябе кветкамі ўбіралі,
Бервяночкай, рутай аперазалі.
Праца наша — дзеўка гарненька,
Палюбіці коміна радзенька.
Мы ж цябе будзема жаніці,
Медзявуху і квасок выпіваці.
Свяці ж, каміночку, ясненька,
Пабуджай чалядачку раненька.
Шыці, прасці, ткаці маладым,
А падарачкі збіраці старым.
Каліначку, ты нам спагадай,
Кручу, верчу і буры праганяй.
Дым і сажу нясі ворагам,
Свет, ахвоту і радасць пашлі нам.
Гаспадыня наша, паглядай,
Мёдачку-квасочку паўлівай...

Другі варыянт Жаніцьбы коміна зафіксаваны А. Лозкам у 1988 годзе ў Лельчыцкім раёне.



Захавальнік народных танцаў Мікола Котаў са сваім вучнем

...Вырывалі з градкі васілька, такі бураковы цвет, і ўстаўлялі яго ў дзірку ў палавінцы гарбуза. Потым адзін трымаў васілька і ўсе за ім хадзілі кругом пасвета і спявалі або казалі:

Свяці, наша свяціла,
Каб агню нам не тушыла,
Каб добра было прасці, ткаці
І сеяць цяпло ў хаце.

Калі жанілі посвета, то спявалі:

Мой Сымонка,
Мой салавейка,
Як табе харашэнька!
Як зацвіла каліканька
Да на моце марозе,
Пацалуймася, мая свацечка,
Да на першым парозе.

Магчыма, раней выконвалі і многія іншыя песні з вясельнага рэпертуару з мэтай пародыі, іранічна, дзеля жарту, смеху. У Жаніцьбе коміна прымалі ўдзел дзяўчаты, якія ўпершыню "запрадалі". Каля посвета, прадучы, слухалі былічкі, казкі, жартавалі, танцавалі...

...Запісы паказваюць, што "жанілі коміна" часам два разы на год: "на Сымона" (1 верасня), у некаторых мясцінах крыху раней ці пазней, калі з надыходам восені пачынала рана цямнець, і вясною на фаміным тыдні — "тыдзень пасля Вялікадня", калі дні станавіліся даўжэйшымі. Пры гарэнні лучыны можна было не толькі рабіць, але і чытаць. Крапіўка (адзін з псеўданімаў Алаізы Пашкевіч) назвала дзіцячы часопіс "Лучынка", каб несці дзецям святло ў шырокім значэнні гэтага слова. Яна пісала ў 1916 годзе: "Праз многа стагоддзяў свяціла ў нас на Беларусі лучынка. Яшчэ і цяпер дзе-нідзе ў вёсках збіраюцца на попрадкі з кудзелямі дзяўчаты, маладзіцы: песні спяваюць, казкі баюць. Старэйшая з кабет або нехта з дзяцей ахоўвае дзеда-лучніка: то вугаль абтрасе, то лучынку пакладзе. Мігаюць іскры па хаце. Пры пламенчыку складна родная песня плыве, казка баецца".

На Беларусі, у прыватнасці на Палессі, існуе асаблівая пашана агню. Жаніцьба коміна — гэта сляды культу духаў-продкаў, дзядоў, хатніка, які, паводле ўяўленняў язычнікаў, звязваўся з агнём "сварожычам" і жыў у сушні, на печы і пад ёй, у коміне. Гэта яму прыносіліся ў ахвяраванні ласункі. Паэтычна ўспрымаецца цяпер абразок з песні "Вяселле коміна

з працай". Ён мог узнікнуць на аснове даўнейшых традыцый пакланення агню. У нас вядомы і іншыя "жаніцьбы": гульні "Жаніцьба Цярэшкі", "Жаніцьба бахара", свята «Жаніцьба свечкі» і інш.

Як бачым, у абрадзе «Жаніцьба коміна» з-за яго маляўнічасці, тэатралізаванасці з вялікай ахвотай удзельнічаюць дзеці, таму ён можа стаць адным з першых абрадаў-святаў, якое можа быць праведзена на пачатку школьнага вучэбнага года ў любой школе.

У праграму могуць быць уключаны карагоды, звязаныя з агнём, свечкамі, жартоўныя песні пра Сымона, прыпеўкі пра Сымонаўну, танцы, гульні.

Прыклад адраджэння Жаніцьбы коміна, як фактычна поўнасцю забытай у свой час, вельмі паказальны. Над вяртаннем абраду ў культурны побыт сяла працуюць амаль ва ўсіх заходніх раёнах Гомельшчыны (Жыткавіцкім, Петрыкаўскім, Лельчыцкім) і Берасцейшчыны (Столінскім, Пінскім, Лунінецкім). Ён рэканструяваны ў вв. Беланавічы Петрыкаўскага, Пагост Жыткавіцкага, Радзілавічах Лельчыцкага раёнаў, інсцэніраваны ў свой час у "Жывіцы" і ў адной з мінскіх школ. Апошняе асабліва радасна, бо адраджэнне самабытных нацыянальных свят у дзіцячым асяроддзі — надзея на наша сапраўднае нацыянальнае адраджэнне ў наступным пакаленні.

## Літаратура

Женитьба комина//Этнографическое обозрение. 1898. № 3.

Жаніцьба посвета//Земляробчы каляндар. Мн., 1990.

*Лозка А.* Жаніцьба коміна//Крыніца. 1988. № 8.

**Відзафільмы:** Жаніцьба коміна ў в. Беланавічы Петрыкаўскага раёна.

Жаніцьба лучніка ў в. Пагост Жыткавіцкага раёна.

Жаніцьба посвета ў в. Радзілавічы Лельчыцкага раёна.



## ПАКРОВЫ

Восеньскае свята Пакровы адзначаецца 14 кастрычніка. Яго асаблівасці добра адлюстраваліся ў прыказках: "Прыйшла Пакрова і пытае, ці да зімы гатова", "На Пакрове дай сена карове", "Пакрова — пастухоўскія кіі на дрова", "Прыходзіць Пакрова — раве дзеўка бы карова". У валачобнай песні спяваецца:

Святы Пакроў пытаецца
Ды ўва Ўздвіжанькі,
Ці ўзышло ў полі жыта?
А я буду да хадзіці, аглядаці,
Ці ўруніла ў полі жыта?
Зямлю лісцем засыпаці,
Снегам чыстым пакрываці,
Ваду лёдам, пчолку мёдам надзяляці,
Старых бабак кіёчкамі,
Сярэдніх жанчын сыночкамі,
А дзяўчатак вяночкамі ўкрашаці.

Свята прыпадала на час Вялікай Вясельніцы, калі маладую пакрывалі накідкай. Да 27 кастрычніка размяркоўвалі дні паміж дзяўчатамі, і па надвор'і ў гэты дзень меркавалі аб характары будучай жонкі, а называлі гэты час Дзявочым летам.

Пакровы з'яўляюцца пераломным момантам у прыродзе ад лета да зімы. У гэтыя дні рыхтавалі паліва на зіму, не пускалі жывёлу ў поле, рамантавалі пабудовы. Быў дастатак у доме. Моладзь пачынала



Фальклорны гурт «Кірмаш»

збірацца на вячоркі, хатняя праца спалучалася з песнямі, танцамі, гульнямі, выбіралі будучых жонак. Тут расказваліся казкі, быліны, паданні, легенды, загадваліся загадкі.

У адрозненне ад іншых святаў на Пакровах вельмі моцна адбіўся хрысціянскі ўплыў. Царква тлумачыць ужо саму назву як пакрывала Божай маці, як знак дапамогі Прачыстай усім пакутуючым на свеце. У цэрквах у гэты дзень спраўлялася служба Пакроваў, вернікі неслі туды кветкі, хлеб, стравы да святочнага стала "агапаў" пасля малітваў.

На Пакровы моладзь утварала спеўныя гурты для вячорак, варажыла на вясельную тэму. Людзі святочна апраналіся да службы ў царкве, для выездаў на кірмаш. Родзічы, знаёмыя збіраліся на "святок" у адну з вёсак (па народнай традыцыі кожнае гадавое свята размяркоўвалася як галоўнае ў адной з суседніх вёсак — водгук родава-плямянных зносін). На пакроўскіх кірмашах прадавалі многа дзіцячых ласункаў: цукеркі, бублікі, піражкі, пернікі, лізунцы, а так-

сама — цацкі, свістулькі, капілкі. Там былі арэлі, горкі, каруселі, батлейка. На кірмашах знаёміліся хлопцы з дзяўчатамі, спявалі, скакалі, вадзілі карагоды, весяліліся. Свахі сваталі дзяўчат, за што атрымоўвалі падарункі.

У дзень Івана Шаптуна (9 кастрычніка) свахі сакрэтна дамаўляліся з маладымі, каб на Пакровы наладзіць вяселле. Таму гэта свята не абыходзілася без вяселляў, урачыстых вянчанняў у царкве, перапыньванняў вясельных дружын.

Кірмашы суправаджаліся цыганскімі танцамі, песнямі. Тут прадавалі коней, ставілі кібіткі, раскладвалі вогнішчы, а цыганкі варажылі, танцавалі, спявалі прыпеўкі, песні:

Ой, на гары цыгане стаялі,
Ой, на гары цыгане стаялі,

Прыпеў: Стаяла, думала
Цыганачка малада,
Цыганачка малада.

Там цыганка на гары хадзіла,
Кольцы, пярсцёнкі на сабе насіла.

Цыганачка любіць пагуляці,
Лянуецца кудзеліцу прасці.

Цыганачка не любіць рабіці,
Толькі любіць хораша хадзіці.

На пакроўскіх кірмашах гучалі жартоўныя песні, прыпеўкі, але асабліва многа восеньскіх, пакроўскіх, аснову якіх складаюць шлюбныя і вясельныя матывы.

Гады барацьбы з хрысціянствам нанеслі значны ўрон святу Пакроваў, якое бачылася ідэолагам савецкага грамадства толькі як хрысціянскае, таму многія элементы свята павінны адраджацца нанава. Восенню 1992 года па ініцыятыве Вольгі Басько было адроджана свята Пакроваў у Мсціслаўлі. Яно ўвабрала і хрысціянскія і нацыянальна-беларускія традыцыі, рытуалы, багацце восеньскіх песень, прыродныя прыкметы на Пакровы, кірмашовыя забавы. Тут была непасрэдная сувязь з гісторыяй духоўнага жыцця краю і мастацкімі ўзорамі святочнага календара. Асноўнымі, найбольш цікавымі момантамі свята сталі

духоўная музыка, спевы, зварот-казанне святара да вернікаў.

Народнае свята пачыналася народнай восеньскай песняй:

— Ой, восень мая сцюдзёная,
Чаго так рана настала?
— Я й не раненька, я й не позненька,
Калі мая пара прыйшла.

Лісточак упаў, зямельку пакрыў,
Вось мая і пара прыйшла.
Чаму Ганулька маладзенькая
Так рана замуж пайшла?

— А я не рана, а я не позна,
Як мая пара прыйшла.
Татулька аддае, суджанька бярэ, —
Вось пара й прыйшла

У дзень Пакрова дзяўчаты, што хочуць выйсці замуж, ставяць у царкве свечку перад іконаю Пакрова і просяць: "Святы Пакроў! Пакрыў ты і зямлю, і ваду — пакрый і мяне, маладу! Пакроў-барагодзіца! Пакрый мяне, дзяўчыначку, пакроваю сваёй святою ісці на чужую староначку!"

Святочную службу ў саборнай царкве Аляксандра Неўскага г. Мсціслаўля прадоўжыла фальклорна-мастацкае прадстаўленне з удзелам дзіцячых фальклорных калектываў "Пакроўскія замалёўкі", пакроўскім кірмашом з усімі ўласцівымі яму тэатралізаванымі элементамі і пакроўскімі вячоркамі.

Усе гэтыя формы можна выкарыстаць пры падрыхтоўцы свята Пакроваў у дзіцячым калектыве. На дзіцячай пляцоўцы мсціслаўскіх Пакроваў пад назвай "Гульнёвае надвор'е" акрамя вышэй пералічаных святочных рытуалаў інсцэніраваліся пакроўскія, казачныя і легендарныя сюжэты, праводзіліся гульні, язда на конях. Удзельнікаў частавалі бабулінымі гасцінцамі. Была адкрыта выстаўка малюнкаў, выступалі дзіцячыя лялечныя і фальклорныя калектывы, адбываліся конкурсы народных песень.

Найбольш важна ўсё ж знайсці і ўключыць у свята фальклорныя творы, непасрэдна звязаныя са святам Пакроваў, як, напрыклад, запісаныя ў в. Валаўск Лельчыцкага раёна.



Узорны дзіцячы фальклорны калектыў «Дударыкі»



Пакроўскія ласункі ў дзіцячым садку

Вось Пакрова прыйшла,
Перамену прынясла.

Як не лісцем, то снегам
Яна зямельку пакрыла.

Як рупліва працавалі,
Каб Пакрову так гулялі!

Добра, што фальклорны калектыў гэтай вёскі рыхтуе мастацкае свята Пакроваў, у цэнтры якога будзе, як паэтычна-святочнае ўвасабленне, адпаведна прыбраная дзяўчына. Але яшчэ лепш, калі аснову такога калектыву складаюць вясковыя дзеці.

## Літаратура


*Басько Вольга.* Пакровы на Магілёўшчыне. Мн., 1993.

Восеньскія і талочныя песні. Мн., 1981.

*Журэцкі М.* Пакрова — асенняе свята//Ніва. 1967. № 46.



## ДЗЯДЫ

Кожны дзень у беларуса меў сваё значэнне: панядзелак быў не варты для пачатку сур'ёзных спраў — іх трэба было пачынаць у аўторак. Чацвер быў чыстым, пятніца — жаноцкай і г. д. У кожнага дня тыдня была мнагазначная сімволіка, але асноўным напаўненнем суботы было ўшанаванне дзядоў, прадзедаў, прашчураў — усіх адышоўшых у нябыт продкаў. Кожную суботу беларус мусіў калі не наведаць могілкі, то добрым словам (пра нябожчыкаў "або толькі добра, або ні слова") успомніць тых, хто надзяліў яго праз гены здольнасцямі, перадаў яму свае лепшыя рысы. Асновай для перадачы духоўнага і жыццёвага вопыту з'яўляецца сямейна-каляндарны звычай дзядоў, унікальнасць, філасофскую мудрасць якога глыбока зразумеў і перадаў у паэме "Дзяды" Адам Міцкевіч.

Дзяды вядуць свой радавод ад пачатку роду чалавечага. Перад смерцю чалавек бяссільны, і не менш, чым на пачатку свайго існавання, калі быў да таго ж безабаронны перад прыроднымі стыхіямі ўвогуле. Апошніх ён увасабляў у чалавечыя формы (Перуна, Велеса, Даждзьбога, Лесавіка, Русалкі і да т.п.) і ўступаў з імі ў магічныя дыялогі, улашчваў іх праз магічныя рытуалы, абрады, звычаі, замовы, абрадавыя песні, карагоды. Так нарадзілася яе вялікасць Прыгажосць, магічнае стала Прыгожым. Але вобраз Прашчура вырас да ўзроўню філасофскага яднання пакаленняў.

Нябожчыкі, па ўяўленню прашчураў, не адыходзі-



«Святыя дзяды, прыходзьце да нас!»

лі ў нябыт, а пераходзілі ў іншы стан існавання, адкуль маглі ўплываць на жыццё кроўных родзічаў. Таму жывыя нашчадкі з'яўляліся як бы іх прадстаўнікамі ў добрых справах, а продкі дапамагалі ім у гэтым, часта нават з'яўляліся ўвачавідкі (сведчанняў аб гэтым безліч). Як гэтая гуманістычная беларуская ідэя блізкая да ўсіх шматлікіх старажытных тэорый перасялення душ, шматразовага жыцця чалавека на зямлі! Але яшчэ больш здзіўляе, як гэтая быццам бы наіўная вера пацвярджаецца сучаснымі касмічнымі тэорыямі існавання чалавека і асабліва адкрыццём (і ўжо матэрыялізаванай фотафіксацыяй) біяэнергіі, якая не знікае бясследна пасля смерці чалавека, а "перасяляецца".

Такім чынам, кожную суботу беларус мусіў прыпыніцца, адкласці свае паўсядзённыя клопаты, успомніць лепшыя рысы тых прашчураў, якія наканавалі яму прадоўжыць іх лепшыя рысы, аддаць ім належную павагу, атрымаць ад іх благаславенне на лепшыя справы будучага тыдня.

З цягам часу сярод дзядоўскіх субот з'явіліся важнейшыя каляндарныя: мясаедная, як пачатак новага вітка росквіту жыцця, траецкая — найбольшы ўзровень росквіту прыроды і апошняя кропка, галоўная — змітраўскія Дзяды, якія сталі цяпер нашым дзяржаўным святам. Разам з Вялікаднем яны ўяўляюцца галоўнымі нацыянальнымі святамі, бо першае сведчыць, што мы — дзеці Сонца, а другое — што мы нашчадкі вялікага роду дзядоў, велетаў, волатаў, асілкаў (маюцца на ўвазе нашы вялікія продкі).

Ёсць яшчэ адзін гістарычна пазнейшы дзень ушанавання продкаў — Радаўніца, якая святкуецца ў аўторак пасля велікоднага тыдня. Неаднаразова прыходзілася фіксаваць, што Радаўніца часам была ўшанаваннем нябожчыкаў толькі мінулага года. Дарэчы, гэта свята ўсё ж было вядома ў рускай традыцыі.

Калі Дажынкі-Багач былі галоўнымі святамі нашага продка-земляроба, бо вянчалі яго працоўныя клопаты, то змітраўскія Дзяды — дзень, калі нашчадак не толькі асэнсоўваў пражыты год, але і задумваўся над сэнсам свайго асабістага жыцця на аснове ўспамінаў аб добрых прыкладах сваіх продкаў. Вось тут і ёсць галоўная нацыянальная ідэя існавання беларусаў на свеце — быць моцнымі розумам сваіх продкаў,



Бабуля-павітуха Роза Шапцеўская з в. Сенькава Горацкага р-на

узбагаціцца іх жыццёвым вопытам, бо на змітраўскія Дзяды род успамінаў лепшае ў сваіх кроўных не менш чым да дзесятага калена: "Бацька быў разумны земляроб"; "Дзед Іван быў выдатны пчаляр"; "Прадзед Васіль быў віртуозны музыка". І гэтак далей з усякімі падрабязнасцямі ўспаміналася кожны год і перадавалася членам роду.

У сувязі з пераняесеннем сустрэчы Новага года спачатку хрысціянствам, адпаведна яго філасофіі, з вясны на восень, а потым Пятром І па нямецкаму ўзору — на зіму, насычаным рытуаламі ўшанавання продкаў аказаўся студзень, калі адзначаюцца посная, шчодрая і вадзяная куцці.

Напярэдадні Дзядоў гаспадыня ўвесь дзень рыхтавала ежу, каб былі адпаведныя стравы, але каб іх лік быў няпарны — не меней ад пяці страў. Да куцці пайменна запрашалі ўсіх памерлых у гэтай хаце, але спачатку апошняга з нябожчыкаў, як, напрыклад: "Васіль, Янка, Алена, Пятрок, Хвядора, Тамаш... прыходзьце ўсе да гэтага стала". У хаце адчыняліся дзверы, каб нябожчыкі маглі зайсці. Ставілася асобная міска ці талерка, клаліся лыжка, відэлец, налівалася шклянка і бралася па лыжцы кожнай стравы.

Гаспадыня абавязана была спячы свежы хлеб і асобна дзедаўскі "курак" — маленькі хлеб, які аддавалі жабракам. Калі запрашалі па імёнах усіх памерлых, дзядоўскія пацеры гаварылі як мага карацей. Асобна адзначалі праслаўленых людзей роду і тых, хто найбольш пражыў на свеце. Пасля куцці гаспадар хаты браў вялікі драўляны кубак, напаўняў вадой, клаў наверх дзедаўскі "курак", пакрываў яго ручніком, адчыняў браму і выпраўляў усіх нябожчыкаў — выліваў кубак у бок могілак са словамі: "Ідзіце з Богам да наступных Дзядоў".

Святкаванню змітраўскіх Дзядоў як галоўных спрыяе восеньскі матэрыяльны дастатак у сялянскай хаце і больш-менш вольны час для роздуму пасля восеньскай працы перад Калядамі. Таму ў гэты дзень, як жартуюць людзі, трэба "сем разоў паесці, каб шчокі ўспухлі". Напярэдадні Змітраўкі мылася падлога, бяліліся сцены, шараваліся лавы, стол засцілаўся чыстым абрусам. Усё расстаўлялася па кутках і ля сцен, каб не замінала духам продкаў, што збяруцца на радзінную бяседу.

Раніцай у суботу на змітраўскія Дзяды рыхтавалі ў дастатку стравы, усе ўставалі рана, чыста мыліся, апраналіся ў самаробнае, вышыванае святочнае адзенне, запальвалі свечкі, маліліся. Зрэдку сустракалася, што да снедання хадзілі на могілкі, але ўсё ж гэты рытуал з галашэннямі па нябожчыках адбываўся на Наўскі вялікдзень, ці Радаўніцу.

На снеданне гаспадыня клала перад кожным сямейнікам аладкі і куццю з маслам. Гаспадар выразна і ўрачыста гаварыў: "Хвала табе, Божа, Дзядоў дачакаліся. А на гэта святца людзі грошы трацця. Бо ад Дзядоў да Дзядоў меў бы сорак гадоў, а ўсё-такі дачакаліся. Ай, дзяды-дзяды, усё вам гатова: і пітво, і мёд, і квас, ёсць вам і мяса, ёсць і каўбасы, толькі ешце, будзе з вас! Хлеб, гарох і каша — усё багацце вам наша!"

Са словамі: "Памяні, Божухна, нашых святых дзядоў! Няхай яны са святымі спачываюць, а нам хлеба-солі засылаюць!" — гаспадар на сподачак, пакрыты блінамі, адкладваў крышку з кожнай пададзенай стравы (найбольш часта традыцыйна іх павінна быць магічным лікам сем, але абавязкова — рыба, грыбы і каша) і ставіў на падаконнік або на асобна прыроб-

леную палічку са знешняга боку галоўнага акна. У той жа час ён прамаўляў: "Святыя дзяды! Прыйдзіце сюды — гэта для вас!" Усе члены сям'і ўслед за гаспадаром паўтараюць словы гаспадара. На стале таксама пакідалі месца і асобныя сподачак і напоўненую шклянку для памерлых. Калі падыходзіў жабрак, якіх многа хадзіла на Дзяды, яму аддавалі дзедаўскі пачастунак, калі ж не — ежа даставалася чыстым хатнім жывёлам (карове, каню, кату, сабаку).

Адзіным прадметам працяглай застольнай гутаркі з'яўляліся, зразумела, успаміны пра дзядоў. Агульнымі намаганнямі кроўных прыгадваліся найбольш значныя выпадкі з жыцця памінаемых, іх словы, здольнасці, наказы, фізічныя асаблівасці, нават радзімкі, ямачкі, знешнасць. Але тут не было месца ўспамінам пра адмоўныя рысы дзядоў. Іх сподачак заставаўся на стале разам з соллю і хлебам да вечара. Застолле-гутарка доўжылася да абеду, перарываючыся зваротамі: "Святыя дзяды, завем вас, хадзіце да нас, ляціце да нас, чым толькі хата багата, што ёсць тут — я для вас ахвяраваў! Прыхадзіце, дзяды-радзіцелі, і старыя, і малыя, хто на гэтай сялібе жываў, хлеба-солі ядаў! Да свайго стала, да свайго прыпечка хлеба-солі засылайце, каб было чым душу памінаць год ад году, век ад веку! П'ю за вас, нашы бацькі сардэчныя, каб ведалі, што нічога не шкадую вам!"

Часам прамаўлялі прамовы-рацэі: "Чуеце нейкі рух на двары? Гэта дзяды глядзяць, як мы жывем, якімі справамі займаемся". Але каб пабачыць дзядоў, трэба было цэлы дзень нічога не есці. Раней падчас святкавання Дзядоў завязвалі вочы смялейшай жанчыне ці дзяўчыне і саджалі яе на стоўп, укапаны ў падлогу ля печы. Яна назірала адтуль за "дзядамі", якія ўваходзілі ў хату, стараючыся пазнаць іх, бачыла іх у сваім уяўленні. Часам яна так палохалася, што ў непрытомнасці падала са стаўпа.

Пасля абеду ўсе кроўныя збіраліся родам — сем'ямі прыходзілі са сваімі прыпасамі ў найбагацейшы з роду дом і вячэралі за агульным сталом, часам галасілі. Але ў асноўным гаварылі аб продках. Мінімальнай у народнай свядомасці лічылася памяць да трэцяга калена, у род хлопца прымалі, калі той мог успомніць родзіча з пятага калена, але традыцыйна лічылася паважным ведаць і захоўваць памяць да дзесятага продка.

Пасля вячэры размова цягнулася да "трэціх

пеўняў", апавядаліся прыгоды, характары, родавыя і звязаныя з родам успаміны, паданні, легенды. Кольkасць "дзядоўскіх боханцаў" — іх пяклі столькі, кольkі ўспаміналі продкаў, — часам дасягала ў вялікім родзе ад 30 да 50.

Са звычаем дзядоў звязаны прыгожы звычай запісвання членаў роду на покуці. У зміграўскую суботу ў хату прыводзілі адукаванага чалавека, які выразаў на бэльках імёны нованароджаных і памерлых за мінулы год.

Шчодра надзялялі на Дзяды жабракоў, якія "болей прыгаворвалі і лепш спявалі старэцкія песні". Пастух у гэты дзень прыгаворваў пад вокнамі: "Гэй, гаспадарыня! Ці пякла бліны? Прыслалі дзяды па бліны, свінкі па саланінкі, авечкі па яечкі, баранкі па соль, а кароўкі па сыр". Гаспадыні выносілі пастухам усё тое, што яны прасілі.

Бывала, што ў наступны дзень, у нядзелю, гаспадар заклікаў "дзядоў" таксама на абед: "Святыя радзіцелі! Просім з намі абедаць, каторыя ўчора спазніліся або каторыя зусім не былі, можа, будзеце гневацца, не забывайце да прыбывайце!" Усе былі моцна перакананы ў тым, што цені продкаў нябачна выходзяць у гэту хвіліну з магіл і, седзячы з імі за сталом, жывяцца парай, якая ідзе ад страў. Калі б хто пажадаў гэта ўбачыць, той павінен увайсці ў сенцы і, дастаўшы салому з акенца над дзвярыма, паглядзець праз яго ў пакой. Напэўна, не адзін цікаўны зрабіў бы гэта, калі б не пагражала небяспека смерці: смяльчак, які адважыўся б на такі ўчынак, павінен абавязкова памерці ў той жа год.

Хатнія за дзедавай вячэрай так часам горка плакалі, так галасілі, што ў прысутных на галаве валасы ставалі дыбам.

Сучасным памінальным запрашэннем дзядоў на вячэру можа быць наступнае:

— Дзяды нашы святыя, хадзіце да нас вячэраці. Чакаем вас, як і тысячы, і сотні гадоў назад чакалі. Хадзіце на бяседу ціхую, спавядальную ўсе, хто на гэтай зямлі некалі жыў, і старыя, і немаўляты малыя, і маці, і сёстры, і браты, і бацькі, і людзі чужыя, незнаёмыя. Пагаворым мы з вамі, дзяды, як адвеку ў краі нашым, і вясной на мясаед, і ля магілак на Радаўніцу, і перад Калядамі, і на Сёмуху. Бо як жыве



Ад дзядоў — толькі добрае

прырода разважна, так і памяць нашая не згасае, асвятляе шляхі наступнікам. Верым, як некалі верылі вы, дзяды нашыя: чалавек не знікае без следу. Душа ягоная жыве ў нас, у Сусвеце. Гэта тыя, хто адышоў са сцежак зямных, перадае нам розум, дух, традыцыі і вопыт. Гэта ад вас шляхі нашыя да дзяцей, унукаў і далей ідуць.

Дзяды нашы шаноўныя, завітайце да нас. Мы хаты прыбралі, ручнікі белыя памінальныя павесілі. Чакаем вас. Зла не трымайце, што былі бяспамятнымі, што мы, бывала, забываліся на вас, не заклікалі на вячэру, магіл не бераглі. Мінае чорны час ачмурэння, вяртаемся да ісцін векавечных. Дык памажыце, мудрыя дзяды, дайсці нам да святых крыніц вечнасці, каб дзеці не заблудзілі ў цемры.

Для вас мы адчынілі дзверы, вокны, для вас на стол прыбралі, як належыць. Запалім свечку ў хаце, як спрадвеку. Бо нам не жыць, калі не помніць вас. Здавалася, у цемры забыцця не будзе даравання нам, нашчадкам, што гэтак занядбалі мы святое. Ды вы

мудрэй за нас, дзяды. І вось ідзіце спадчыну агледзець. Не надта мы багатыя цяпер, ад гучных слоў аскоміна на сэрцах. І ўсё ж сышліся разам сустрэць вас, пагаварыць пра даўняе, былое. Сказаць не складна, можа, але чыста, сумленна і аддана вам: мы чуем вашых душ трапятанне. Чакаем вас і верым.

Сучасны дзіцячы вечар, прысвечаны Дзядам, можа быць пабудаваны як вяртанне гістарычнай памяці аб выдатных продках беларусаў: волатах-асілках легенд і паданняў, племянных князях Туру, Радзіму, Рагвалоду і яго дачцэ Рагнедзе, хрысціянскіх асветніках Кірылу Тураўскім і Ефрасінні Полацкай, першадрукарах Францішку Скарыне і Пятру Мсціслаўцу, выдатных ураджэнцах Беларусі Тадэвушу Касцюшку, Станіславу Манюшку, Адаму Міцкевічу, змагару за волю народа Кастусю Каліноўскім, песнярах Францішку Багушэвічу, Янку Купалу, Максіму Багдановічу, Якубу Коласу, выдатных фальклярыстах XX стагоддзя Рыгору Шырму і Генадзю Цітовічу.

Прыгожымі могуць быць такія ранішнікі ў дзіцячых садках і школах, калі дзеткі задумаюцца аб сваім радаводзе, продках, паходжанні сваіх бацькоў, прозвішчаў. На свята Дзядоў да іх могуць прыйсці вядомыя дзеячы беларускай культуры, знаўцы гісторыі Беларусі, могуць быць наладжаны выступленні фальклорных калектываў, якія пакажуць дзядоўскія звычаі, абрады і рытуалы.

## Літаратура


*Андрэева Ю.* І зноў падыходзяць Дзяды...//Чырв. змена. 1990. 3 лістап.

*Бондарчик В., Минько Л.* Дзяды, или "День памяти"?// Полит. собеседник. 1989. № 2.

*Браим И.* Это нужно живым...//Сов. Белоруссия. 1989. 1 февр.

*Васілевіч У.* Пагаворым пра "дзяды": Беларускія памінальныя абрады //Чырв. змена. 1988. 12 лістап.

*Гурко А.* Дзяды, альбо Дні памінання памершых на Беларусі//Гродн. праўда. 1992. 31 кастр.

*Залескі А., Міцкевіч А.* "Дзяды", ды не тыя: Народныя беларускія абрады//Вяч. Мінск. 1988. 25 лістап.

*Кравченко В.* Это нужно живым//Знамя юности. 1989. 12 февр.

*Крук І.* Дзяды: Беларус. нар. свята//Работніца і сялянка. 1991. № 11.

*Кудраўцава В.* Дзяды: Нар. абрад//Вяч. Мінск. 1992. 30 кастр.

*Ліцьвінка В.* "Дзяды": Нар. звычаі//Культура. 1992. 19 кастр.

*Міхно У.* Дзяды: Нар.звычаі//Чырв. змена. 1992. 26 кастр.— 1 лістап.

*Новікава А.* ...І крыху гісторыі: Абрад памінання Дзяды.//Добры вечар. 1991. 1 лістап.

Памінкі. Пахаванні. Галашэнні. Мн., 1986.

*Скідан В.* Дзяды: Аб беларус. абрадзе//Пралеска. 1992. № 10.

*Сысоў У.* Дзяды: З гісторыі свята//Звязда. 1991. 1 лістап.

*Хатэнка А.* Вось і надышлі Дзяды...: Беларус. абрад памінання//Чырв. змена. 1989. 28 кастр.

*Хатэнка А.* Малітва ў Зьмітраву суботу: Беларускі абрад Дзяды//Чырв. змена. 1990. 3 лістап.

*Хатэнка А.* У нашай памяці — вечнасць: Беларус. абрад памінання — Дзяды//ЛіМ. 1989. 27 кастр.

**Відэафільмы:** Дзяды ў дзіцячым садзе і школе; Зімовыя Дзяды ў в. Маканавічы Рэчыцкага раёна; Зьмітраўскія Дзяды ў в. Крышылавічы Ганцавіцкага раёна.



## ЗІМОВЫЯ СВЯТКІ

Зімовыя сяткі пачыналіся пасля поснай куцці (6 студзеня) і завяршаліся на Вадохрышча (19 студзеня). Два калядныя тыдні працягваліся сапраўдныя тэатралізаваныя беларускія народныя карнавалы.

Каляды (7 студзеня) былі пачаткам язычніцкага святкавання ў гонар зімовага сонцавароту і каляднага мясаеду пасля шасцітыднёвага Піліпаўскага посту, аб якім спявалі:

Нам Піліпаўка надакучыла,
Дзеўкам жываты перамучыла.
Мальцам жамеры зубы праелі.
А калядныя ж бліны ладныя,
А мікольскія — не такоўскія.

Але многія фалькларысты справядліва бачаць у зімовай святочнай абраднасці з-за яе генетычнага і фундаментальнага адзінства вынік двайнога пераняссення святкавання сустрэчы Новага года: спачатку з вясны на восень з прыняццем хрысціянства ў Вялікім княстве Літоўскім, а потым на зіму ў часы пятроўскай Расійскай Імперыі.

Складанасць пытання ў тым, што на язычніцкае святкаванне каляднага сонцавароту наслаіўся хрысціянскі рытуал нараджэння Хрыстова — свята Раства, якое ў дадатак адзначаецца на Беларусі па каталіцкаму грыгарыянскаму новаму стылю 25 снежня і па праваслаўнаму юліянскаму 7 студзеня (розніца паміж імі 13 дзён). Адпаведна па старому стылю з 13 на 14

студзеня захоўваецца і сустрэча Новага года, вядомая ў народзе як Шчодрык. Заканчваліся зімовыя святы Вадохрышчам, якое да хрысціянства, відаць, было заканчэннем Каляд. Праваслаўе, як больш дэмакратычная і цярпімая да язычніцкай культуры канфесія, прычынілася да таго, што зімовыя сяткі беларусаў захаваліся пераважна па юліянскаму календару, адпаведна чаму яны і разглядаюцца ў гэтай працы.

Неад'емным рытуалам усёй святочнай культуры беларусаў з'яўляецца ўшанаванне продкаў — дзядоў. На зімовых святках гэтаму прысвячаліся тры ўрачыста-шанавальныя куцці: перадкалядная посная, багатая, шчодрая пры сустрэчы Новага года і вадзяная, галодная перад Вадохрышчам.

На ўсе тры куцці каша варылася ў адным і тым жа гаршку, яе забаранялася каштаваць да ўрачыстай вячэры. Магічнае значэнне куцці тлумачылася тым, што зерне валодае якасцю доўга захоўваць і зноў аднаўляць жыццё, множыць яго і сімвалізуе земляробчы кругаварот, бясконцасць жыцця.

Пры поснай вячэры на стол, засланы сенам і зверху — белым абрусам, ставіцца міска з ячнай, грэчневай ці пшанічнай куццёй, падсалоджанай сытой — мёдам. Па даўжыні выцягнутай з-пад абруса сцяблінкі меркавалі аб ураджаі льну і збожжа.

Багатая, шчодрая куцця святкавалася напярэдадні Новага года, 13 студзеня. Яна адрознівалася багаццем страў. Калі куцця на стале, гаспадар адчыняе акно і заве: "Мароз, мароз, хадзі куццю есці! Ідзі, калі завем, а калі не завем — не хадзі, бо калі будзем араць — будзем цябе цапамі драць!" — і ставіць лыжку куцці на талерачцы на акно.

Потым адбываўся наступны дыялог паміж гаспадаром і гаспадыняй: "Ці бачыш ты мяне?" — "Не, не бачу!" — "Каб жа ты не бачыў за стагамі, за капамі, за вазамі, за снапамі свету!" Гаспадар потым жадаў гаспадыні: "Каб жа ты не бачыла за гуркамі, за гарбузамі, за капустаю, за буракамі свету!"

На вадзяную куццю, 18 студзеня, "запісвалі" (завяршалі) Каляды, на сценах будынкаў ставілі крыжы, акраплялі іх вадой, прасілі мароз, "каб не марозіў грэчку, ячмень, хвасолю", звалі з лыжкай куцці:

Мароз, мароз, хадзі куццю есці!
І іржа, і бель, хадзіце цяпер!

А ўлетку ў нас не бывайце,
Хлеба нашага не ўбівайце.

Калі куццю вымалі з печы, дзеці залазілі пад стол і там "кокалі", як курыца-квактуха, і кукарэкалі пеўнем, а маці сыпала ім семкі, "каб многа выводзілася куранят, часцей куры няслісія" і найболей іх было ў гаспадарцы. Самым важным і галоўным, відаць, і самым вясёлым і прыгожым, жывым у наш час з'яўляецца навагодняе калядаванне і шчадраванне — песенна-магічны абход тэатралізаванымі гуртамі калядніка ў і шчадроўнікаў 7 і 13 студзеня ўсіх хат вёсак, маладзёжныя калядаванні (часцей за ўсё 31 студзеня ў гарадах і пасёлках), калядаванні і навагоднія "засяванні" хат кроўных родзічаў дзецьмі (апошняе, на свята Васілля, — ранкам 14 студзеня).

Уся тэатралізаваная прыгажосць, святочнасць Каляд ствараецца іх незвычайнай песеннасцю, якая калісьці мела заклінальна-магічны характар: "Ой, калядачкі, набліжыцеся, вы, каўбасачкі, прыніжыцеся!" Галоўнай дзеючай асобай яе з'яўляецца прыгожая жанчына Каляда, якая "прыехала вечарам у маляваным вазочку, на белым кані, прынесла дудачкі ў рэшаце, сама села на покуці ля куцці".

Галоўныя песні Каляды прысвечаны гаспадару і яго сям'і:

У нашага дзядзькі двор гараджоны,
Дай, Божа, яму шчасця, здароўя!*
А ў тым двары да тры карысці.
Да тры карысці, да тры радасці.
Адная радасць — ясна сонейка,
Другая радасць — часты зорачкі,
Трэцяя радасць — ясен месячык.
Ясна сонейка — то жонка яго.
Часты зорачкі — дробны дзетачкі.
Ясен месячык — то сам гаспадар.

На Каляду насілі рухомую, асветленую знутры зорку, на якой былі намаляваны розныя казачна-легендарныя фігуркі. Калі шматпрамянёвую частку зоркі вярцелі, то гэтыя фігуркі бегалі. У старыя дахрысціянскія часы зорка была ўвасабленнем сонцавароту, а з пры-

---

* Радок паўтараецца два разы.



Калядніκі з зоркай з в. Анапаль Мінскага р-на

няццем хрысціянства набыла яшчэ біблейскія рысы віфліемскай зоркі, якая асвяціла месца цудоўнага нараджэння Хрыста. У гэты час часцей за ўсё спявалі хрысціянізаваныя калядкі:

Неба і зямля, неба і зямля
Радасна спяваюць,
Ангелы людзям, ангелы людзям
Дзіва абвяшчаюць:

Хрыстос нарадзіўся,*
Бог аб'явіўся,
Ангелы спяваюць,
Пастушкі іграюць,
Дзіва, дзіва абвяшчаюць.

У Віфліемі, у Віфліемі
Вясёла навіна,
Чыстая дзева, чыстая дзева
Нарадзіла сына.

І мы дзіцятку, і мы дзіцятку,
Богу паклон дайма.

---

* Радок паўтараецца два разы пасля кожнага куплета.



Мінскія калядзнікі

Славу ўсявышню, славу ўсявышню
Яму заспявайма.

* * *

Учора звячора
Засвяціла зора,
Учора звячора
Засвяціла зора.
Засвяціла зора.*

Зара засвяціла,
Свет узвесяліла.
Зара засвяціла,
Свет узвесяліла.*

Свет узвесяліўся,
Хрыстос нарадзіўся.
Свет узвесяліўся,
Хрыстос нарадзіўся*

Хрыстова нараджэнне
Людзям на збаўленне.
Хрыстова нараджэнне
Людзям на збаўленне.*

---

* Апошні радок паўтараецца два разы.

Людзі, прыбягайце—
Хрыста прывітайце.
Людзі, прыбягайце—
Хрыста прывітайце.*

Здаровы бывайце,
Нам Каляду дайце.
Здаровы бывайце,
Нам Каляду дайце.*

Здаровы святкуйце,
Дайце, не шкадуйце.
Здаровы святкуйце,
Дайце, не шкадуйце.*

А ў свеце нам...
А ў свеце нам навіна была,
Святы вечар!

Там Прачыстая Сына радзіла.
Святы вечар!

У небе зорачкі засвяціліся.
Святы вечар!

Прыйшлі мудрацы, пакланіліся.
Святы вечар!

Каб забіць Дзіця, Ірад сам пайшоў.
Святы вечар!

Ды да ясляў шлях ніяк не знайшоў.
Святы вечар!

Узрасло Дзіця — Гасподзь Хрыстос Бог.
Святы вечар!

Праўды свет знайсці ён нам дапамог.
Святы вечар!

* * *

У нядзелю рана
Зорачка свяціла.
Новы год, новы,
Зорачка свяціла.

Ды Божая Маці
Сына нарадзіла.

Новы год, новы,
Сына нарадзіла.

Сына нарадзіла,
У пялёны спавіла.
Новы год, новы,
У пялёны спавіла.

У пялёны спавіла,
У яслі палажыла.
Новы год, новы,
У яслі палажыла.

У яслі палажыла,
Анёлам сказала,
Новы год, новы,
Анёлам сказала:

"Анёлы святыя,
Калышце сына.
Новы год, новы,
Калышце сына,

Ды спявайце песні,
Песенькі святыя.
Новы год, новы,
Песенькі святыя".

А ўсе людзі рады,
Ды ўсе весяляцца,
Новы год, новы,
Ды ўсе весяляцца,

На Божага сына
Ды не наглядзяцца.
Новы год, новы,
Ды не наглядзяцца.

Пасля спеваў калядак гаспадары давалі калядоўшчыкам "ахвяру": раней хлеб, муку, сала, каўбасу, а цяпер больш ласункі, цукеркі. На сабранае ладзіліся святочныя вячоркі з пачастункамі і зноў жа песнямі, карагодамі, сярод якіх ва ўсе "крывыя вечары" найбольшую папулярнасць на поўначы Беларусі мела "Жаніцьба Цярэшкі" — водгук старажытных звычаяў моладзі. Адбывалася яна позна вечарам, часам нават пасля 12 гадзін ночы, у самай вялікай хаце.

Любоўна-шлюбная тэма, стварэнне сям'і, заснава-



Студэнты Мінскага педуніверсітэта запісваюць «Жаніцьбу Цярэшкі» ад Ганны Латышонак у в. Новы Пагост Міёрскага р-на — на радзіме Г. Цітовіча

най на лепшых чалавечых пачуццях, заўсёды былі прадметам галоўнай увагі ў нашых дзядоў. У іх была выпрацавана чалавечная своеасаблівая служба знаёмстваў. На працягу доўгіх калядных вечароў выбраныя бацька і матка "жанілі Цярэшку" — зводзілі, падбіралі, навучалі, рыхтавалі да стварэння моцнай сям'і хлопцаў і дзяўчат.

Вытокі "Жаніцьбы Цярэшкі" вельмі глыбокія, матрыярхальныя, калі на чале роду стаяла мудрая жанчына, калі не было парнай сям'і і род прадаўжаўся тым, што іменна гэта жанчына зводзіла ў пары хлопцаў і дзяўчат. У часы міжплемяннай розні жонак пачалі красці, заваёўваць, а са з'яўленнем дзяржаўных утварэнняў — прадаваць. На фоне гэтых гістарычных гвалтаў якой жа гуманістычна-прыгожай дзеяй зіхаціць "Жаніцьба Цярэшкі"!

Калі "жанілі Цярэшку", гледачоў не было — усе былі акцёрамі-ўдзельнікамі. Гэта вымагала вялікай падрыхтоўкі: развучвання карагодаў — разгорнутых уступаў да гульні і карагодаў-мосцікаў, калі ўсе пары

стаялі ў рад, а "бабулька" з першай пары лавіла свайго "дзядульку"; абавязковага ўмення танцаваць "Лявоніху", якая выконвалася пасля "жаніцьбы" кожнай пары, і некаторыя іншыя танцы, вадзіць карагоды, а таксама спяваць песні, якія гучалі ў той час, калі ўсе пары "пераражаніліся".

Але самай важнай часткай гульні-камедыі былі песенькі-цярэшкі — чатырохрадкоўі камічнага зместу на тыповы матыў, якія надавалі парадыйны характар усім момантам "жаніцьбы", і таму веданне вялікай колькасці тэкстаў цярэшак было галоўным у падрыхтоўцы святочнай гульні. Кожная "бабулька" пасля "жаніцьбы" павінна была праспяваць свайму "дзядульку" адпаведныя цярэшкі.

Вясёлы характар, займальнасць гульні перш за ўсё надавалі завадатары яе — "бацька" і "матка", якімі часта станавіліся гаспадары хаты, дзе "жанілі Цярэшку". Таму хата падбіралася такая, дзе былі вясёлыя, кемлівыя, трапныя на жарт, вострае слова, але і адначасова мудрыя людзі, бо павучанні-благаславенні на сямейнае жыццё перад "жаніцьбай" даваліся ў форме прыгожых, мудрых прыказак накшталт: "Добрая жаніцьба навучыць, а худая — ад дому адвучыць", "Жаніцца лёгка — ўжыцца цяжка", "Добрая жонка — ў хаце рай, а злая — хоць з хаты ўцякай".

З умацаваннем хрысціянства падтэкст гульні застаўляў яе часам перасяляцца ў карчму, а ў наш час натуральным можа быць правядзенне яе ў клубе.

Для правядзення гульні трэба запрасіць музыкаў, падрыхтаваць святочнае народнае адзенне, пачастункі для бяседнага застолля, якім заканчвалася гульня.

Вядомы тры формы "Жаніцьбы Цярэшкі". Ва Ушацкім раёне распаўсюджаны, напрыклад, самы позні варыянт гульні, калі хлопец прыходзіў да «бацька-маткі» і прасіў дазволу "ажаніцца". Традыцыйна яго не толькі адгаворвалі, але нават і высмейвалі: "Ты ж нічога яшчэ не ўмееш", "У цябе ж яшчэ жанілка не вырасла", "Ты ж яшчэ недарэка, малы, неразумны, не знаеш, што з жонкай рабіць" і да т. п. Але хлопец прасіў: "Жаніцца хачу", і тады яму казалі прывесці сваю "бабульку". "Бацька" і "матка" старанна высвятлялі, што ўмее "бабулька", а потым у знак згоды на шлюб танцавалі з ёй "Лявоніху", а за імі паўтаралі хлопец з дзяўчынай, пасля чаго садзіліся побач на лаве.

Больш распаўсюджаны другі варыянт гульні, калі пары падбіралі "бацька" і "матка". "Бацька" абыходзіў хлопцаў, а "маці" — дзяўчат, яны тайна выведвалі іх жаданні, якую ён ці яна хацелі б мець "бабульку" ці "дзядульку": вясёлую ці сур'ёзную, працавітую ці багатую, спрытнага ці што ўмее спяваць, танцаваць, добрага гаспадара ці ўвішную гаспадыню. Адпаведна жаданням падбіраліся пары, якія "бацька" і "матка" выводзілі на сярэдзіну, благаслаўлялі, павучалі. Дзяўчаты спявалі сваім "дзядулькам" самыя разнастайныя цярэшкі:

Васілёчак сіненькі,
Мой дзядзька прыгожанькі,
Васілёк усіх сіней,
Мой дзядзька ўсіх прыгажэй.

Дзякуй табе, татачка,
Дзякуй табе, мамачка,
Дзякуй вам за тыя дары,
Што добрага дзеда далі.

Большасць прыпевак-цярэшак усё ж з'едліва-жартоўнага характару:

На гарэ пшаніца-авёс,
Чаму ты, дзядулька, не рос,
Ці дожджык не паліваў,
Ці цябе татулька пракляў.

Дзевачкі, мая нязмога,
Далі дзеда старога,
У яго ногі крывыя,
У яго боты чужыя.

Ой, бяда, бяда, бяда,
Далі мне старога дзеда,
Ай, дужа журлівага,
Ай, дужа раўнівага.

Другі варыянт гульні найбольш тэатралізаваны, камедыйны, распрацаваны ў дзеяннях, аздоблены цярэшкамі, карагодамі, танцамі. У гарадскім або часам і ў вясковым асяроддзі, дзе захавалася мясцовая традыцыя, у аснову аднаўлення гульні лепш за ўсё ўзяць гэты найбольш займальны варыянт.

Трэці варыянт гульні самы старажытны: хлопец сам

выбіраў дзяўчыну і прыходзіў да "бацькі" і "маці" за дазволам. Гэта — водгук шлюбных звычаяў таго часу, калі нашы продкі "ўмыкаху сабе жон", у той час як першыя два — перыяду куплі-продажу дзяўчат і гаспадарчага дагавору. Такім чынам, "Жаніцьба Цярэшкі" ўвабрала ў сябе і захавала ў сваіх разнавіднасцях тры галоўныя этапы трансфармацыі шлюбных звычаяў, і ў гэтым яе бясцэннае гістарычнае значэнне.

З іншымі элементамі гульні можна пазнаёміцца ў кніжцы А. Гурскага "Зимняя поэзия белорусов" (Мн., 1980). Прывядзём самыя цікавыя моманты гульні.

...Зранку ў традыцыйнай вёсцы ў "крывыя вечары" ішло абмеркаванне: "Ці будуць Цярэшку жаніць? Дзе будуць Цярэшку жаніць? З кім будуць Цярэшку жаніць?"

Надвячоркам паціху ў адну з самых прасторных хат збіралася моладзь, а ў некаторых месцах зрэдку прыходзілі і жанатыя мужчыны. Часам зборы зацягваліся да апоўначы, бо саму гульню пачыналі пасля 12 гадзін ночы. Да гэтага танцавалі, спявалі, гулялі, частаваліся. Нецярпенне, жаданне "ажаніць Цярэшку" падагравалася воклічамі: "Што гэта ўсё скокі ды скокі, хутчэй бы Цярэшку жанілі!" Гаспадыня зацягвала пачатак гульні росказнямі: "Чакайце, чакайце, хлопцы! Вось паслухайце, што ў народзе пра Цярэшку гавораць. Ішоў Цярэшка пехам, а за ім Свірыд з мехам і гаворыць: "Здароў, Цярэшка!" — "Здароў, Свірыд!" — "А па чым ты пазнаў, што я Свірыд?" — "А па тым, што ў цябе паважны від!" — "Ну, вось, брат, не зналіся і не спатыкаліся, а як зышліся, дык і пазналіся..." Далей Цярэшка са Свірыдам знайшлі ражна з табаком, пабіліся, людзі іх не змаглі рассудзіць і накіравалі ў суд у Барысаве, дзе ўсе лысыя і няма каму судзіць. Пайшлі ў другі горад, дзе Пярун цёшчу б'е за тое, што зяцю яешні не пячэ. Пайшлі далей, селі на пянёк, закурылі так, што ўбачылі ўсю сваю радню: Кастуся, Петруся. Паглядзелі ў ражок, а табака ўся.

Гэта падагравала цікавасць моладзі, таму яна патрабавала хутчэй пачынаць вяселле, "жаніць Цярэшку". Тады "матка" нарэшце спявала: "А сёння вяселлейка Бог нам даў, ажаніўся мех — торбу ўзяў" або: "Будзем мы піва варыць, будзем мы дзяцей жаніць, Ганулька — бабулечка, Коленька — дзядулечка".

З гэтага моманту ўсе дзяўчаты-"бабулькі" і хлопцы-"дзядулькі" аб'ядноўваліся ў пары. "Дзядулька" лагодна, з замілаваннем і павагай (праўда, бывала, і сілком) надзяваў "бабульцы" на галаву шапку. Калі "бабулька" згодна "жаніць Цярэшку" з ім, яна застаецца ў шапцы, танцуе ў пары і спявае цярэшкі: "Ах ты, мой дзядулечка, я твая бабулечка. Ці ж я не работніца"; "Здайся, дзедка, здайся, На другіх не заглядайся, Другія не лепшыя, Горшыя, пусцейшыя". Але законы пародыі нараджалі і такія тэксты: "Цярэшку бяда стала: З кім яго жонка спала? Ці ў полі пад ліпкаю, З маладым Піліпкаю? Ці ў полі пад грушкаю, З маладым Андрушкаю? Ці ў гаю зялёненькім, З казаком малодзенькім?"

Пасля спеваў і танцаў пары падыходзілі да "бацькі" з "маткай", якія саджалі іх поруч і благаслаўлялі: "Хлопец носіць злосць у паясе, а дзяўчына — у касе"; "Не бяры тую, што знаеш праз дзверы, а бяры тую, якую знаеш з качэлі"; "Жонка не рукавіца — з белай ручкі не скінеш і за пояс не заткнеш" і да т.п.

Пакуль жанілі другія пары, "дзяды" спрабавалі часам збегчы ад сваіх "бабулек", на што чулася: "Не ўцякай, дзядулечка, я ж твая бабулечка, хоць жа я ножку зламлю, а свайго дзядульку злаўлю".

Кульмінацыйным момантам гульні станавілася "лоўля дзядоў", калі ўсе пары станавіліся адна за адной і "бабулька" першай пары спявала: "Не думай, дзядулечка, я ж твая бабулечка, Хоць жа я павалюся, за табой паганюся!" або: "Пайду я каля мора, Злаўлю я рыбачку скора. Смешная рыбачка акунь, Прызнайся, дзедзечка, адкуль. Смешная рыбачка карась, Пацалуй, дзедзечка, хоць раз". Тут і па ўсёй гульні выразна гучыць у цярэшках гуллівы, нават эратычны падтэкст, але мякка, далікатна, хоць і дастаткова гарэзна.

"Бабулькі" прыманьвалі сваіх "дзядуляў" цярэшкамі-абяцанкамі: "Я табе, дзядулечка, вышыю кашулечку, тонкую, танюсенькую, белую, бялюсенькую". А часам і лагодна насміхаліся: "Божа мой, вяліка бяда, Далі мне старога дзеда. Ці мне яго спавіваці? Ці мне яго калыхаці? — Як стану спавіваці — Ён мяне абнімаці, Як стану калыхаці — Ён мяне цалаваці".

Вось у такіх вясёлых, жартоўных, смешных забавах, якія потым пераходзілі ў пачастункі, праходзілі

чароўныя калядныя вячоркі-ночы. Пад світанне "бабулькі" па знаку "маці" пачыналі разбягацца, і тут ужо пачыналася лоўля іх, якая, па апісаннях XIX стагоддзя, магла закончыцца для "бабулек" трагічна. Але гэта было толькі ў такіх выпадках, калі паміж хлопцам і дзяўчынай была дамоўленасць аб шлюбе. І тады дзяўчына, якая ўступіла са сваім "дзедкам" у фізічныя зносіны, на другі дзень "пераймала" хлопца і запрашала да сябе, дзе збіраліся ўсе родзічы і дамаўляліся аб вяселлі. Невядомы выпадкі, каб хлопцы адказваліся жаніцца на сваёй "бабульцы".

Старажытныя карані "Жаніцьбы Цярэшкі" выяўляюцца пры рэканструкцыі яе. У сучасным жа гучанні гэта жарт, вяселле, шарж, пародыя: "Пайду я на ток, на ток, Знайду я курэй куток. Петушка ніводнага, дзядульку асобнага; курачкі кудак-кудак, мой дзедка лайдак, лайдак".

Старажытнасць паходжання, нацыянальная самабытнасць, непаўторнасць, удзел музыкаў, дыялогі моладзі, "бацькі" і "маткі", насычанасць спевамі, карагодамі, жартамі, гульнямі, творчая імправізацыя як асноўны мастацкі пачатак ператварылі "Жаніцьбу Цярэшкі" ў сапраўдную калядную камедыю, якая чакае свайго таленавітага інтэрпрэтатара на прафесійнай сцэне.

Для нашага часу нацыянальнага адраджэння нельга знайсці больш прыгожай формы забаў моладзі, чым "Жаніцьба Цярэшкі" — у гэтым пераконваюць шматлікія аднаўленні яе фальклорнымі калектывамі Віцебшчыны. Адрозненне гэтай каляднай гульні ад іншых рэгіянальных з'яў у тым, што яе можна ўвесці ў зімовы побыт моладзі паўсюдна з-за яе выключнай тэатралізаванасці, весялосці, жыццёвага аптымізму і, што самае галоўнае, беларускай самабытнасці.

Ноч з 13 на 14 студзеня вядома пад назвай Шчодрыка, Шчодрай, калі ўласна і пачынаюцца "крывыя вечары" — ўсё можна было рабіць наадварот: зацягнуць сані ці воз на страху, выпусціць жывёлу або ўвесці яе ў хату, мераць печы кійком і патрабаваць выкуп, пераапранацца, варажыць і шмат іншае.

Самай распаўсюджанай формай святкавання Шчодрыка быў абход двароў з "казой".

...Павадыр у світцы, лапцях, з барадой з ільну і носам з морквы вёў на вяроўцы і паганяў пугай Казу

ў вывернутым кажусе з казінаю маскаю на галаве. Наперадзе гурта Шчодра — прыгожая жанчына з вянком на галаве. Побач музыкі з гармонікам, скрыпкай і бубнам, спевакі. Калі шчадроўнікі падыходзілі да хаты, тройчы пыталі дазволу: "Ці дазволіш, панегаспадару, шчодрыка паспяваці?" Атрымаўшы дазвол, спявалі:

Добры вечар табе, пане гаспадару,
Радуйся,
Ой, радуйся, зямля,
Год новы нарадзіўся!*
Засцілайце столы ўсе абрусамі,
Кладзіце пірагі з ярае пшаніцы,
Бо прыйшлі да цябе тры святочкі ў госці.
А першае свята — святыя Каляды.
А другое свята — святое Васілле.
А трэцяе свята — свята Вадохрышча.
Хай святкуе з вамі ўся ваша радзіна.
Радуйся,
Ой, радуйся, зямля, год новы нарадзіўся!

Пачыналі іграць музыкі, а павадыр выводзіў у круг Казу, яна скакала пад песню шчадроўнікаў:

Мы самі ідзём
І Казу вядзём.
Гавары з намі —
З добрымі людзьмі.
Дзе Каза бывае,
Там шчасце чакае,
А дзе не бывае,
Там яно мінае.
Дзе Каза нагою,
Там жыта капою.
Дзе Каза рогам,
Там жыта стогам!
Ну-тка, Казанька,
Расхадзіся,
Па ўсяму двару
Разгуляйся!
— Го-го-го, Каза,

---

* Прыпеў "Радуйся, ой, радуйся, зямля, год новы нарадзіўся!" спяваецца пасля кожнага радка.



«Дзе Каза рогам — там жыта стогам»

Го-го-го, шэра,
Дзе ты бывала?
— У шчырым бару
Ягадкі брала.
— Не йдзі, Козанька,
Ты ў тое сяло.
Бо ў тым сяле
Усе людзі стральцы.
Хочуць Казу ўбіць,
Шкуру аблупіць.

Каза калола прысутных рагамі, а ў канцы песні падала пасярэдзіне і "памірала", павадыр спрабаваў падняць яе: "Што ж гэта стала, мая Каза ўпала, ссохла, прапала", а шчадроўнікі спявалі:

Ты, Каза-казішча,
Ўстань, развесяліся.
Ды расхадзіся:
Гаспадар ідзе,
Рэшата нясе.
Рэшата аўса,
Паверх каўбаса.

Тры кускі сала,
Каб каза ўстала.

Усе Казу шкадавалі, спрабавалі падняць, а механоша прыгаворваў: "Нашай козаньцы нямнога трэба: Два боханы хлеба, сем печ перапеч! А яшчэ аладкі, каб бокі гладкі. Яшчэ таго мала: дайце кусок сала, чацвёрты пірог, каб казу сцярог. А хто харошы, хай насыпле грошы!" Адначасова збіралі ахвяраванні: "Шчодрыка збіраю, песеньку спяваю. Я чалавек багаты: у мяне ў адной кішэні вош на аркане, а ў другой — блыха на цапе. Шчодра дарыце, здаровы бывайце!"

Павадыр пачынаў "лячыць" Казу: "Не хоча Каза ўставаць — трэба лякарства ёй даць: нацерці бок кійком, падняць батагом. Каза мая вучная — кіем хрышчоная, прайшла ўсе навукі, ведае розныя штукі. А ну закладай рогі ды падбірай ногі, з хаты выхадзі, бяду вынасі. Уцякай хутчэй з гаспадарскіх вачэй! А ў гэтым доме не шкодзіць нікому!" Каза ўсхоплівалася, а шчадроўнікі спявалі:

— Не баюся я тых стральцоў-байцоў,
Толькі баюся старога дзеда.
Стары той дзеда не падара,
Ён жа мяне кіем удара.
У правае вушка — пацячэ юшка,
У правы бачок — пацячэ сачок.

Павадыр прыгаворваў: "Ой, ты, Казішча, старая псішча, паньству пакланіся. Хай жывуць здаровы з дзеткамі-галубкамі, з далёкімі сябрамі, з блізкімі суседзямі ў карысці, у радасці, у добрым здароўечку!"

Калі ў хаце была дачка гаспадара, шчадроўнікі вакол яе вадзілі карагод і спявалі:

Ой, чыя то дачка, як ягадачка,
Святы вечар добрым людзям!
Бацькова дачка, як ягадачка.
Як у сені ўвайшла — сені заззялі.
Як у хату ўвайшла — паны ўставалі.
Паны ўставалі, шапкі здымалі:
— Ці то цароўна, ці каралёўна?
— Я не цароўна, не каралёўна,
Бацькава дачка, ясна панначка.
— Мы ж цябе, краса, не зневажаем,
І са шчадроўкай цябе вітаем.

Сыну гаспадара спявалі такую шчадроўку:

Ой, там, пад шчадром, Васілька з канём,
Ой, грай, мора, радуйся, зямля!
На кані сядзіць, дудачку дзяржыць.
У дудачку йграе, слічна спявае.
Прыйшла да Васіля маманька яго:
— Ой, сынку, сынку, хто цябе вучыў.
Хто цябе вучыў у дудачку йграці?
У дудачку йграці, слічна спяваці?
— Была ў караля адна дачка.
Йна навучыла ў дудачку йграці.
У дудачку йграці, слічна спяваці.

Адпаведныя песні спяваліся ўсім сямейнікам.

На цэнтральным Палессі Казу на шчадраванні замянілі Конік, Кабылка. Калі Каза сімвалізуе "дух нівы, поля", то Конік, які асабліва папулярны ў Давыд-Гарадку, — водгукі перасялення плямён, народаў. Гэтае святкаванне выглядала прыблізна так.

...Рабілі Кабылку такім чынам: на калок вешалі два рэшаты, паміж якімі сядзелі хлопцы. Затым спераду прычаплялі конскую галаву, а ззаду — хвост з валосся ці лёну і накрывалі посцілкай.

Загрыміраваны пад цыгана павадыр кабылы прапаноўваў купіць у яго кабылу, расхвальваў, а купец знаходзіў у яе розныя заганы. Торг быў насычаны жартоўнымі дыялогамі, выразамі, дзеяннямі.

Часам Кабылку плялі з лазовых пруткоў, галаву і тулава шылі з палатна і напіхвалі саломай, абшывалі белым абрусам. На галаву надзявалі аброць і вешалі званок. У лазовы каркас улазіў шчадроўнік, яго накрывалі доўгай посцілкай-дываном. На ўсходнім Палессі павадыра прыбіралі яшчэ "афіцэрам" і "барыняй".

Але найбольш распаўсюджанай формай былі два Конікі — дарослы і дзіцячы, бо дзеці заўсёды былі раўнапраўнымі ўдзельнікамі шчадравання. На мужчыну і хлопчыка ў поясе надзявалі драцяны абруч у форме конскага тулава з конскай галавой і хвастом і пакрывалі яго да долу, каб не было відаць ног, на якіх рухаўся, танцаваў верхавы. Пры ўваходзе ў хату звычайна спявалася вышэйпрыведзеная "Ой там, пад шчадром, Васілька з канём". У хаце адбываліся самыя разнастайныя дыялогі, таргі, сцэнкі "смерці" Коні-

ка, гарцаванне, скокі ў такт званочка і да т.п. Па маляўнічасці і забаўнасці Конікі блізкія да Казы.

Абрады Зімовых святак заўсёды былі выключна папулярныя сярод дарослых і дзяцей сваёй незвычайнасцю, прыгажосцю, імправізаванасцю, творчым разняволеннем, магчымасцю кожнаму раскрыць свае здольнасці.

Калі наследаваць народнай традыцыі, падрыхтоўку да Зімовых святак трэба пачынаць у Пілілаўку (у снежні) развучваннем песень, карагодаў, гульняў, вырабам Казы, Коніка, Мядзведзя, Бусла, Жорава, карнавальнага адзення, падрыхтоўкай музыкі, масак і г. д.

Тэрміны калядавання і шчадравання ў вёсках лепш прымяркоўваць да мясцовай традыцыі, а ў пасёлках і гарадах яны больш арганічна ўпісваюцца ў святочны настрой 31 снежня. Калі ў вясковых умовах пажадана як мага больш шырока ўключыць у свята мясцовыя асаблівасці, то ў гарадах не будзе памылкай выкарыстаць усе атрыбуты, вобразы, сімволіку, рытуалы сучасных карнавалаў, гукавыя і асвятляльныя эфекты, раздачу падарункаў — усё, што спрыяе стварэнню атмасферы свята, радасці, весялосці, разняволенасці, аптымізму і надзеі.

Тое, што народныя святы сталі дзяржаўнымі, дае надзею, што унікальная смехавая культура Зімовых святак ад 25 снежня да 7 студзеня, найлепш адпаведная адпачынку, вяселлю, займае сваё належнае месца ў атмасферы чараў, магіі, варажбы, калядных і шчодрых вечароў.

Ужо сто пяцьдзесят гадоў таму, як геніяльны Адам Міцкевіч у сваіх парыжскіх лекцыях зазначыў, што ў беларусаў у песнях і казках ёсць усё. Так мудра мог выказацца толькі аўтар знакамітых "Дзядоў". Сапраўды, беларускі фальклор — старажытнейшы тэатр жыцця, які ўпрыгожвае побыт народа, расквечвае яго паўсядзённасць прыгожымі карагодамі, гульнямі, казкамі, інтэрмедыямі, танцамі, песнямі.

## Літаратура

А калядачкі, а вярніцеся: (Над. абрад)//Культура. 24—30 снежн. (№ 7).

*Анікеева В. А.* "Ехала Каляда ў чырвоным вазочку..."//Пачатковая школа. 1992. № 10.

*Антонава Т.* "Ах, калядачкі, бліны-ладачкі": (Фальклорна-этнаграфічнае свята ў Заслаўі, Мінскі раён)//Голас Радзімы. 1982. 11 лют.

*Арлова Т. У.* Народныя гульні (Каляды) //Пачатковая школа. 1992. № 1.

*Баршчэўскі В.* Каляда//Ніва. 1957. № 1.

*Богданович А. Е.* Пережитки древнего миросозерцания у белорусов: Этнограф. очерк. Гродно. 1895.

*Буракоўская Н.* Калядкі, калядкі, бліны і аладкі...: (Калядныя звычаі і абрады)//Настаўн. газ. 1991. 25 снежн.

Ваджэнне "казы"//Беларусь. 1990. № 1.

*Васілевіч У.* Ад каляд да масленіцы...: Прыкметы і павер'і народнага календара//Полымя. 1990. № 3.

*Василевич В.* "Дай боже знать, с кем век вековать...": (О гаданиях в дни колядных праздников в Белоруссии)//Неман. 1989. № 1.

*Васілевіч У.* "Хто ён, суджаны?"//Звязда. 1990. 6 студз.

*Гардзюк Л.Г.* Сцэнарый свята "Калядкі" (у школе)//Нар.асвета. 1990. № 12.

*Гуд С. П.* "Ой, калядачкі, бліны-ладачкі...": (Беларускія каляды) //Беларусь. 1984. № 12.

*Гуд П. А.* Этнотрадиции и новое в белорусском колядном обряде//Вопр. культуры и искусства Белоруссии. 1985. Вып. 4.

*Гурский А. И.* Зимняя поэзия белорусов. Мн., 1980.

*Гурскі А.* Зімовыя народныя гульні: (Традыцыйныя народныя святы ў Беларусі)//Беларуская мова і літаратура ў школе. 1989. № 11.

*Гурскі А.* Каб год быў шчодрым... (Беларуская калядная абраднасць) //Вяч. Мінск. 1989. 25 снежн.

*Гурскі А.* Каляды //Беларуская мова і літаратура ў школе. 1990. № 12.

*Гурскі А.* На вечарынцы. Народныя зімовыя гульні і забавы//Голас Радзімы. 1985. 26 снежн.

*Дробышева Т.* Каляды: (Туровщина: Житковичский район)//Сов. Белоруссия. 1991. 4 янв.

Ехала каляда ў чырвоным вазочку...//Беларуская мова і літаратура ў школе. 1989.№ 11.

Ехала каляда ў чырвоным вазочку...: Матэрыялы для правядзення навагодніх калядных свят/Рэспубліканскі цэнтр эстэтычнага выхавання дзяцей; Падрыхт. А. Лозка, А. Новікава, А. Хатэнка. Мн., 1990.

Жаніцьба Цярэшкі. Мн., 1993.

Зімовыя песні. Калядкі і шчадроўкі. Мн., 1975.

*Кабржыцкая Т. В., Кавалёва Р. М.* Чалавек і сусвет у беларускіх калядках//Беларуская літаратура. 1989. Вып. 17.

*Капыловіч М.* Каляда, каляда...: (Адраджэнне традыцыі) //Гом. праўда. 1992. 9 студз.

*Квир А.* Возвращение коляды: (О возрождении народного праздника) //Сов. Бел. 1991. 28 дек.

*Кухаронак Т.* Сею грэчку і пшаніцу, а мне дайце паляніцу...: (Каляды)//Звязда. 1991. 5 студз.

*Лозка А.* "Калядныя ж бліны ладныя...": (Студзень—люты) //Мастацтва Беларусі. 1988. № 12.

*Лозка А.* Ехала Каляда ў чырвоным вазочку...: Сцэнарый дзіцячага навагодняга свята//Беларуская мова і літаратура ў школе. 1989. № 11.

*Марачкін М.* "Казу вядзём, радасць нясём" //Звязда. 1990. 6 студз.

*Маркіна Т.* "Ой, калядачкі, білі ў ладачкі..."//Добры вечар. 1991. 20 снежн.

*Маршысюк М.* Успомнім народныя святы: (Каляды)//Звязда. 1991. 6 сак.

*Масляніцына І., Багадзяж М.* Ой, Каляда, Каляда...//Чырв. змена. 1992. 30 снежн.—5 студз. (№ 1).

*Мур Ф.* Святочная варажба//Бярозка. 1990. № 12.

*Новікава А.* Вялікая куцця: (З народных традыцый) //Чырв. змена. 1991. 23—29 снежн. (№ 52).

*Паўлючук У.* Каляды ў Катлах (Беластоцкага павета)//Нива.1967. № 2. С. 6.

*Пісарэнка В.* Кароткі ўспамін на доўгае жыццё: (Калядкі) //Рэспубліка. 1992. 28 студз.

*Рошчына Н.* Чараўніцаю-зімою: (Святкаванне каляд у розных краінах)//Чырв. змена. 1990. 29 снежн.

*Рудчык В.* Калядныя народныя вераванні//Ніва. 1970. № 1.

*Сержпутоўскі А.* Гаданьні моладзі на Коледы // Прымхі і забабоны беларусаў-палешукоў. Мн., 1930.

*Хатэнка А.* Добры вечар, шчодры вечар...: (Каляда): Звычаі, традыцыі//Чырв. змена. 1987. 31 снежн.

*Хатэнка А.* Каляда... Каляда//ЛіМ. 1989. 29 снежн. (№ 5).

*Хатэнка А.* Ой, колядо-калядзец!//Чырв. змена. 1989. 30 снежн.

*Хатэнка А.* Шчодры вечар!: (Каляды)//Чырв. змена. 1990. 19 снежн.

Хто ён, суджаны?: Калядная варажба (Сабраў І. Васілевіч) //Звязда. 1990. 6 студз.

*Целяшэўскі М.* Як прымаюць да "кавалеркі"//Ніва. 1967. № 7.

*Цітоў В.* Каляды//Звязда. 1990. 6 студз.

*Ціхановіч А.* Дзякуй жыццю, навучыць есці куццю (Народны абрад)//Звязда. 1991. 25 снежн.

*Чарнавус Т.* Зіма калядная//Звязда. 1991. 20 снежн.

*Шаховіч М.* Гагатуха//Беларуская мова і літаратура ў школе. 1990. № 12.

*Швяцова Г.* Ідзе каляда калядуючы! //Настаўн. газ. 1991. 12 студз.

*Юдо П.* Свята ў зімовую ноч: (Каляды) //Настаўн. газ. 1991. 20 лют.



## ЗАСВЯТКУЕ ШКОЛА — ЗАСВЯТКУЕ ЎВЕСЬ НАРОД

Упарадкаваць наша жыццё адпаведна неабходнасці змены рытмаў жыцця чалавека, стану яго душы — працоўнага, паўсядзённага, роздумнага, святочнага і т.п. — у гэтым бачыцца вялікае прызначэнне гадавой святочнай культуры. У беларусаў, на наша вялікае шчасце, хоць часам і ў падсвядомасці, асабліва ў людзей вёскі, захавалася адпаведнасць унутранага самаадчування чалавека натуральным рытмам прыроды, а таму мы можам упэўнена гаварыць аб узнаўленні святочнага народнага календара, асабліва калі за гэту святую справу з глыбокай павагай і разуменнем возьмуцца педагогі — тыя, хто рыхтуе цяпер наступнае беларускае пакаленне.

Спасылку для такіх разважанняў даў у свой час яшчэ Канстанцін Ушынскі сваім тэзісам "Заспявае школа — заспявае ўвесь народ". Выканаць на беларускай глебе разумны запавет Ушынскага заўзята імкнуўся Рыгор Шырма і сваім фактычна адзіным "Школьным спеўнікам" (1958), і дыскусіяй у друку 1971—1973 гг. ("Заспявае школа — заспявае народ" — "Настаўніцкая газета". 1971. 25 жн. "Песня застаецца з чалавекам" — "Настаўніцкая газета". 1973. 10 сак.

І вось шчаслівы лёс выпаў на долю сучасных педагогаў, выхаваццеляў, выкладчыкаў спеваў, кіраўнікоў дзіцячых фальклорных калектываў, дзякуючы працэсу нацыянальна-культурнага адраджэння нашай нацыі —зрабіць захаваную багатую святочную куль-

туру асновай эстэтычнага, маральнага выхавання дзяцей у школе.

За першай рамантычнай хваляй фальклярыстычнага захаплення моладзі ідзе магутная асветніцкая, асэнсаваная, а таму незваротная зацікаўленасць святочнай культурай. Хочацца верыць, што яна стане асновай педагагічнай дзейнасці па нацыянальна-эстэтычнаму выхаванню.

Песня — душа народа, таму святочная культура дасць магчымасць вырашыць моўную сітуацыю на Беларусі. Бо з песні не толькі "словы не выкінеш", не пераробіш, а нават гука чужога ў яе не ўставіш — мелодыя не дасць. Не лішне будзе прывесці тут погляд таго ж К. Ушынскага: "Мова — лепшая кветка ўсяго духоўнага жыцця народа, якое пачынаецца далёка за межамі гісторыі. Гэтая кветка ніколі не вяне, але вечна распускаецца.

У мове адухаўляецца увесь народ і ўся яго краіна; у мове творчая сіла народа ўвасабляецца ў думку і вобраз Бацькаўшчыны, яе паветра, яе фізічныя з'явы, яе клімат, яе горы, палі і даліны, яе лясы і рэкі, яе буры і навальніцы — увесь той глыбокі, поўны думкі і пачуцця голас роднае прыроды, каторы гаворыць так гучна аб любові чалавека да яго Бацькаўшчыны, каторы выказваецца так ясна ў родных песнях, у словах народных паэтаў... Такі вялікі народны педагог — роднае слова!"

Ілюстрацыяй-сцвярджэннем сказаных у мінулым стагоддзі слоў выдатнага педагога можа быць наша песня:

Салавейка, пташачка маленька,
Дзе ж ты будзеш зімку зімаваці,
Дзе ж ты будзеш зімку зімаваці,
Дзе ж ты будзеш гняздзечка звіваці?
Не ляці ты за сіняе мора,
Зві гняздзечка ў маёй каморы.
Ты нас будзеш песняй весяліці,
А мы будзем хлебушкам карміці.
Ты нам будзеш песенькі спяваці —
Стане ўзімку лецейка ў хаце.

# ЛІТАРАТУРА

Звод "Беларуская народная творчасць"

**Святочны каляндар**

1. Земляробчы каляндар. Мн., 1990.
2. Паэзія беларускага земляробчага календара. Мн., 1992.
3. Веснавыя песні. Мн., 1980.
4. Валачобныя песні. Мн., 1985.
5. Купальскія і пятроўскія песні. Мн., 1985.
6. Жніўныя песні. Мн., 1974.
7. Восеньскія і талочныя песні. Мн., 1981.
8. Зімовыя песні. Мн., 1975.
9. Жаніцьба Цярэшкі. Мн., 1993.
10. Замовы. Мн., 1992.

**Сямейныя святы**

11. Радзінная паэзія. Мн., 1971.
12. Вяселле. Абрад. Мн., 1978.
13. Вяселле. Мелодыі. Мн., 1978.
14. Вяселле. Песні заручынныя. Малады збіраецца і едзе да маладой. Кн. 1. Мн., 1980.
15. Вяселле. Песні. Каравай. Зборная субота. Пасад. Кн. 2. Мн., 1981.
16. Вяселле. Песні сіраце. Вянчанне. У доме маладой перад прыездам маладога. Кн. 3. Мн., 1983.
17. Вяселле. Песні. Вяселле ў маладой. Кн. 4. Мн., 1985.
18. Вяселле. Песні. Развітанне з домам. Ад'езд да маладога. Кн. 5. Мн., 1986.
19. Вяселле. Песні. Вяселле ў маладога. Кн. 6. Мн., 1988.
20. Пахаванне. Памінкі. Галашэнні. Мн., 1986.

**Парэміяграфія**

21. Прыказкі і прымаўкі. Кн. 1. Мн., 1970.
22. Прыказкі і прымаўкі. Кн. 2. Мн., 1970.
23. Выслоўі. Мн., 1979.
24. Загадкі. Мн., 1972.

**Празаічныя фальклорныя творы**

25. Казкі пра жывёл. Мн., 1981.
26. Чарадзейныя казкі. Кн. 1. Мн., 1973.
27. Чарадзейныя казкі. Кн. 2. Мн., 1973.
28. Сацыяльна-бытавыя казкі. Мн., 1976.
29. Казкі ў сучасных запісах. Мн., 1985.
30. Легенды і паданні. Мн., 1983.
31. Жарты, анекдоты, гумарэскі. Мн., 1984.

**Лірычныя песні**

32. Балады. Кн.1. Мн., 1977.
33. Балады. Кн. 2. Мн., 1978.

34. Песні пра каханне. Мн., 1978.
35. Сямейна-бытавыя песні. Мн., 1984.
36. Жартоўныя песні. Мн., 1984.
37. Сацыяльна-бытавыя песні. Мн., 1984.
38. Песні савецкага часу. Мн., 1970.
39. Прыпеўкі. Мн., 1989.

* * *

40. Дзіцячы фальклор. Мн., 1972.
41. Народны тэатр. Мн., 1983.
42. Беларуская народная інструментальная музыка. Мн., 1989.
43. Гульні, забавы, ігрышчы. Мн., 1996.
44. Песні Беласточчыны. Мн., 1997.
45. Фальклор у запісах Яна Чачота і братоў Тышкевічаў. Мн., 1997.
46. Беларускі фальклор у эстэтычным выхаванні дашкольнікаў. Гродна, 1992.
47. Беларускія абрадавыя песні. Зап. У. Раговіча. Мн., 1985.
48. Беларускія традыцыйныя абрады і святкаванні. Метадычныя рэкамендацыі для сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў. Скл. Л. І. Каханава, Т. І. Бондар. Мн., 1991.
49. Беларуская этнаграфія і фалькларыстыка. Бібліяграфічны паказальнік 1945—1970. Скл. М. Я. Грынблат. Мн., 1972.
50. Беларускі фальклор. Бібл. даведнік 1926—1963 гг. Скл. Я. Саламевіч. Мн., 1963.
51. Беларускія народныя танцы, карагоды, гульні. Скл. В. Семянкоў. Мн., 1989.
52. Беларускі фальклор у сучасных запісах. Традыцыйныя жанры. Брэсцкая вобласць. Мн., 1973; Гомельская вобласць. Мн., 1989.
53. Вянок беларускіх народных песень. Запіс У. Раговіча. Мн., 1988.
54. В духе народных традиций. Сб. сценариев народных праздников. Мн., 1981.
55. *Вількін Я. Р.* Беларускія народныя гульні. Зборнік дзіцячых гульняў. Мн., 1969.
56. *Вількін Я. Р.* Народныя гульні //Беларуская мова і літаратура ў школе. 1988. № 5.
57. *Гарнастай Т. Л.* Фальклорныя святы ў дзіцячым садку як сродак выхавання. Мн., 1990.
58. *Касько У. К.* Традыцыйныя звычаі і абрады беларусаў//Помнікі гісторыі і літаратуры. 1980. № 3.
59. *Лакотка А. І., Барыс С.В.* Сцежкамі дзядоў. Кніга для вучняў. Мн., 1989.
60. *Можейко З. Я.* Календарно-песенная культура//Беларуская мова і літаратура ў школе. 1988. № 12.
61. Святы і абрады Берасцейшчыны. Уступ і рэдагаванне В. Ліцьвінкі. Мн., 1992. Песні народных свят і абрадаў. Укл. Н. Гілевіча. Мн., 1974.
62. *Пятроўская Г. А.* Жывая спадчына. Мн., 1988.
63. Этнаграфія Беларусі. Энцыклапедыя. Мн., 1989.

# СПІС ВІДЭАФІЛЬМАЎ СВЯТ І АБРАДАЎ

**Стрэчанне — Грамніцы** ў в. Горталь Івацэвіцкага раёна.

**Масленка — Гуканне вясны** ў в. Павяцце Міёрскага раёна.

**Запусты** (Шыльны панядзелак, Паласказуб) у в. Кальчуны Ашмянскага раёна.

**Саракі** ў вв. Крывыя Талачынскага, Вялікая Гаць Івацэвіцкага, Вуглы Капыльскага раёнаў і ў г. Лепелі; **фестывалі "Вялікдзень-94" і "Вялікдзень-95"** у БДУ.

**Юр'е** ў вв. Малыя Зімовішчы Мазырскага і Хільчыцы Жыткавіцкага раёнаў.

**Пахаванне стралы** ў вв. Стаўбун і Барталамееўка Веткаўскага раёна.

**Сёмуха** ў г. Беразіно.

**Ваджэнне куста** ў вв. Любча Лунінецкага (2 фільмы), Камень Пінскага, Коланск Івацэвіцкага, Радчыцк Столінскага раёнаў.

**Провады русалкі** ў вв. Дзімамеркі Лоеўскага, Зашчоб'е Рэчыцкага раёнаў і ў Мінскім мастацкім вучылішчы.

**Купалле** ў вв. Крулеўшчызна Докшыцкага, Багатырская Полацкага, Запясочча Жыткавіцкага, Хрысы Бярозаўскага і Бездзеж Драгічынскага раёнаў.

**Зажынкі** ў вв. Любча Лунінецкага і Вялікая Гаць Івацэвіцкага раёнаў.

**Ілля** ў в. Церабяжоў Столінскага раёна.

**Жніво** ў вв. Крупец Гомельскага, Лаўніца і Хаўхоліца Барысаўскага, Мыслабаж Ляхавіцкага, Дуброва і Букча Лельчыцкага, Залессе Міёрскага, Збуржа Маларыцкага раёнаў.

**Дажынкі** ў вв. Хабовічы Кобрынскага, Багатырская Полацкага і Рачыца Бярозаўскага раёнаў.

**Жаніцьба Коміна** ў вв. Пагост і Беланавічы Жыткавіцкага, Радзілавічы Лельчыцкага раёнаў і "Вечар ля павета" ў Доме літаратара г. Мінска.

**Багач** у вв. Лобча Лунінецкага, Хрыса Бярозаўскага раёнаў і ў дзіцячым садку г. Мінска.

**Пакровы** ў вв. Сташаны Пінскага і Валаўск Ельскага раёнаў.

**Дзяды** ў вв. Крышылавічы Ганцавіцкага раёна, дзіцячых садках і школах г. Мінска, "Дзяды-94" у абласных гарадах.

**Піліпаўка** ў вв. Псышчава Іванаўскага, Лобча Лунінецкага, Дарапеевічы Маларыцкага, Ліцвінкі і Балаты Кобрынскага раёнаў.

**Посная куцця** ў в. Маканавічы Рэчыцкага раёна.

**Каляды** ў вв. Сенькава Горацкага, Запясочча Жыткавіцкага, Бездзеж Драгічынскага, Мілавіды Баранавіцкага раёнаў, школе № 166 г. Мінска, "Каляды-95" у БДУ, кінафільм "Палескія калядкі".

**Шчодрык** у вв. Чарняны Маларыцкага, Опаль Іванаўскага і Анопаль Мінскага раёнаў.

**Батлейка** ў дзіцячым садку г. Мінска і музеі Максіма Багдановіча.

**Жаніцьба Цярэшкі** ў вв. Новы Пагост Міёрскага, Оканы Лепельскага раёнаў і кінафільм "Крывыя вечары".

Гэтыя і 150 іншых відэафільмаў аб святочнай культуры беларусаў можна праглядзець і заказаць (па наяўнаму і безнаяўнаму разліку) у Навукова-даследчай лабараторыі беларускага фальклору БДУ па адрасу: 220050, г. Мінск, вул. К. Маркса, 24, п. 27. Тэл.-факс 2-276-583.

# ЗМЕСТ

Вучэбнае выданне

**Ліцьвінка** Васіль Дзмітрыевіч

**СВЯТЫ І АБРАДЫ БЕЛАРУСАЎ**

Рэдактар *Л. М. Раменьчык*
Мастак *Г. М. Навуменка*
Мастацкія рэдактары *Г. М. Навуменка, А. П. Макаўцоў*
Тэхнічнае рэдагаванне
і камп'ютэрная вёрстка *І. П. Касецкай*
Карэктары *Р. П. Іваненка, Л. Б. Шынкевіч*

Падпісана да друку з дыяпазітываў 16.03.98. Фармат 84×108 $^1/_{32}$. Папера афс. № 1. Гарнітура Балтыка. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 10,08. Ум. фарб.-адб. 15,54. Ул.-выд. арк. 9,27. Тыраж 7000 экз. Зак. 301.

Дзяржаўнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларусь» Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку. Ліцэнзія ЛВ № 2 ад 31.12.97. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінская фабрыка каляровага друку. 220024, Мінск, вул. Каржанеўскага, 20.

